


ISSN 0320-7444

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 2 (602)
ЛЮТЫ
1989 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Камароўскі рынак у Мінску ў выхадны дзень (да фотарэпартажу «Стыхія рынку»).

Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.12.88.
Падпісана да друку 15.01.89.
АТ 06668.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,5.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 16800 экз.
Зак. 1351.

Адрас рэдакцыі:
220600, Мінск, ГСП,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.









ПРАБЛЕМУ БАЧЫЦЬ ФОТАКОР

# СТЫХІЯ РЫНКУ

Шлюзы адкрыты. На рынках — паўнаводдзе. Можна купіць амаль усё, што хочаш: прапануюць і самае моднае, замежнае, і наша — зробленае «пад замежнае». Паспрабуй, пакупнік, разбярыся, калі на куртачцы, пашытай дзе-небудзь у Бабруйску, красуецца «кляймо», напрыклад, фірмы «Адзідас».

Міліцыя не ўмешваецца. Людзі ў штацкім (якіх гандляры ўсё роўна ведаюць) ці зрэдку ў форме спакойна назіраюць за спекулянтамі. Можна затрымаць аднаго-другога гандляра, і затрымліваюць, але вось даказаць, што «адбываўся продаж з мэтай нажывы» вельмі цяжка. Гэтым і карыстаюцца «фірмачы».

Дык што ж, забараніць рэчавыя рынкі? Але ці вырашыць гэта праблему дэфіцыту? Ды і ці на карысць гэта пакупнікам, якія, нягледзячы на дарагавізну, усё ж купляюць, што каму трэба. І на рынках жа не толькі спекулянты. Прадаюць свае вырабы кааператывы, прадаюць людзі, якія займаюцца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю.

У рынках, у тым ліку і рэчавых, сёння, як у кроплі вады, адлюстроўваюцца многія з тых праблем, што прыйшлі да нас з эпохі застою, што ўзніклі і ў час перабудовы. Што трэба рабіць, якім павінен быць рынак — аб гэтым трэба думаць.

Дзмітрый ЛУПАЧ,
спецыяльны карэспандэнт «Беларусі».







*Спачатку мяне зацікавілі гэтыя людзі як былыя маракі Балтыйскага флоту, таму што я ў свой час таксама там служыў маракам. А калі пачаў знаёміцца больш дэталёва з архіўнымі матэрыяламі ў Ленінградзе, выявілася, што яны мае землякі — беларусы.*

# СА СЛАВУТАЙ ПЛЕЯДЫ

## СТВАРАЛЬНІК ФЛАТЫЛІЙ

Сяргей Яўгенавіч Сакс родам з вёскі Ліпна Гродзенскай вобласці. Юнаком плаваў на суднах грамадзянскага флоту, а з 1910 года на воінскай службе. Праз пяць гадоў яго пераводзяць у прапаршчыкі па адміралцейству і назначаюць сувязістам на Чарнаморскі флот. Перад Лютаўскай рэвалюцыяй С. Сакс займаў пасаду начальніка цэнтральнай станцыі сувязі паўднёвага раёна горада Батумі. Пастаянна знаходзіўся ў цесных зносінах з матроскімі масамі. Быў клапатлівым камандзірам, выдатным спецыялістам, чулым чалавекам, таму і карыстаўся даверам матросаў.

У красавіку 1917 года Сяргей Сакс выбіраецца старшынёй Батумскага ваенна-марскога камітэта і прымае актыўны ўдзел у ажыццяўленні дэмакратызацыі часцей Чарнаморскага флоту. У лістападзе яго выбіраюць дэлегатам Першага Усерасійскага з'езда ваенных маракоў. Той з'езд зацвердзіў новую схему арганізацыі кіравання флотам, а таксама абраў 20 кандыдатаў у склад Усесаюзнага Выканаўчага Камітэта. У іх лік увайшоў і С. Сакс. На III Усерасійскім з'ездзе Саветаў, па прапанове Я. М. Свярдлова, гэтыя 20 кандыдатаў ад з'езда маракоў былі ўведзены ў склад УЦВК і склалі яго марскую секцыю або савет дваццаці, які ў далейшым назвалі Заканадаўчым саветам марскога ведамства.

Усяго два з паловай месяцы праіснаваў названы савет, але за гэты кароткі тэрмін нашаму земляку давялося займацца распрацоўкай шматлікіх і разнастайных пытанняў, рэарганізацыяй цэнтральных устаноў флоту, выпрацоўкай праекта палажэння аб камісарах і інш. Сяргей Яўгенавіч прыняў таксама актыўны ўдзел у падрыхтоўцы дэкрэта СНК «Аб арганізацыі Рабоча-Сялянскага Чырвонага флоту» ад 29 студзеня 1918 года, падпісанага У. І. Леніным. Пасля таго, як Заканадаўчы савет быў распушчаны (студзень 1918 года), Саўнарком прызначыў Калегію Народнага камісарыята па марскіх справах, у склад якой быў уключаны Сяргей Яўгенавіч.

Шмат працы і энергіі паклаў палымяны рэвалюцыянер С. Сакс у справу арганізацыі выратавання Балтыйскага флоту ад нямецкіх захопнікаў. Калі Савецкі урад пераехаў у Маскву, Сакс як член калегіі быў пакінуты ў Петраградзе. Разам з арганізацыяй пераходу караблёў Балтыйскага флоту з Гельсінгфорса ў Кранштат і Петраград ён кіраваў падрыхтоўкай новага месца для іх базіравання, арганізаваў рамонт караблёў і займаўся харчаваннем асабовага складу і іншымі пытаннямі.

У маі 1918 года Савецкі урад даручыў Народнаму камісарыяту па марскіх справах сфарміраваць Волжскую і Астрахана-Каспійскую флатыліі. Прадаставіўшы У. І Леніну свае меркаванні па ўмацаванні ўзбраення гэтых флатылій, С. Сакс атрымаў шырокія паўнамоцтвы для вырашэння гэтай задачы. Яму былі дадзены сродкі для адпраўкі караблёў на Волгу і Каспій і іх узбраення. Дзякуючы яго энергічным і арганізаваным дзеянням гэтае заданне Савецкага урада было паспяхова выканана — для Волжскай і Астрахана-Каспійскай флатылій да восені 1918 года ўжо былі накіраваны мінаносцы, кананерскія лодкі, параходы, катэры, самалёты, зброя, снарады, міны і іншыя боезапасы.

Такая вялікая работа была праведзена Саксам па забеспячэнні Паўночна-Дзвінскай флатыліі і Паўночнага фронту. Сваёй няўрымслівай дзейнасцю па забеспячэнні франтоў узбраеннем і боезапасамі, па фарміраванні атрадаў С. Сакс заслужыў высокую адзнаку і падзяку ўрада.

У кастрычніку 1918 года Рэўваенсавет назначыў Сакса ўпаўнаважаным на Каспійскім моры і камандуючым Астрахана-Каспійскай флатыліяй і пакінуў яго членам Калегіі Народнага камісарыята па марскіх справах. Перад ім стаяла цяжкая задача. Астрахана-Каспійская флатылія да таго часу перажывала арганізацыйны перыяд, перыяд росту, удасканалення сваёй магутнасці. Рашыць пытанне па ўмацаванні флатыліі можна было б, толькі абапіраючыся на творчую энергію мас.

У загадзе № 1 Астрахана-Каспійскай флатыліі С. Я. Сакс пісаў: «Ад імя Вялікай Пралетарскай рэвалюцыі загадваю ўсім, хто сумленна стаіць на платформе Савецкага ўрада, быць маімі памочнікамі — прамымі і ўскоснымі — у справе стварэння ваенна-марской моцы ў дадзеным мне раёне...».

Зіма 1918 года і вясна 1919 года засталі Сакса ў натхнёнай рабоце па камплектаванні, рамонту суднаў флатыліі. Баявое яе ядро, створанае пад кіраўніцтвам Сяргея Яўгенавіча, стала асновай для разгортвання Каспійскай ваеннай флатыліі, якая ў далейшым часе аказала вялікую дапамогу часцям Чырвонай Арміі ў вызваленні Закаўказзя ад англійскіх інтэрвентаў і белагвардзейцаў.

У 1919—1921 гадах С. Я. Сакс займаў пасаду камісара пры ўпраўленні справамі Народнага камісарыята па марскіх справах. У гэты час ён камандзіруецца ў Цвер як прадстаўнік Марскога камісарыята для наладжвання сувязі з заводам, які выпускае боезапасы, для кіраўніцтва і пабудовы новых артылерыйскіх складоў і скляпоў.

У далейшым С. Я. Сакс працаваў у Галоўным упраўленні воднага транспарту.

## ПУБЛІЦЫСТ, ДЫПЛАМАТ

У Маскве, у памяшканні Міністэрства замежных спраў СССР на відным месцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка, на якой высечаны прозвішчы работнікаў дыпламатычнага фронту, загінуўшых пры выкананні службовых абавязкаў. Ёсць на гэтай дошцы імя Рыгора Аўксенцьевіча Святлічнага.

Рыгор нарадзіўся ў вёсцы Азарычы на Гомельшчыне ў беднай сялянскай сям'і. Галеча прымусіла яго пакінуць родны дом і пайсці на пошукі працы ў Пецярбург. У 1913 годзе хлопца прымаюць юнгам на карабель, а праз некаторы час залічваюць у вучэбны артылерыйскі атрад Балтыйскага флоту.

Усёй душой палюбіў Рыгор мора, флоцкую службу. Ужо вясной 1916 года яму прысвойваюць званне гальванёрнага унтэр-афіцэра другой стацці і пасылаюць на лінкор «Імператар Павел II» (пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года гэты карабель быў перайменаваны ў «Рэспубліку»). Там Святлічны пазнаёміўся з членамі партыйнай арганізацыі РСДРП(б), на чале якой знаходзіліся праслаўленыя ў будучым рэвалюцыянеры П. Дыбенка і В. Хоўрын.

Восенню 1916 года за сувязь з паўстаўшымі матросамі на караблі «Гангут» быў арыштаваны В. Хоўрын, а П. Дыбенка адпраўлены на фронт пад Рыгу. Але арышт кіраўнікоў партыйнай арганізацыі лінкора не паралізаваў яе работу. Адным з кіраўнікоў арганізацыі стаў Рыгор Святлічны. Аб гэтым сведчыць запіс у кнізе «Балтыйскія маракі ў падрыхтоўцы і правядзенні Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі». Там сказана, што ў спісе бальшавіцкіх арганізацый часцей і караблёў, якія базіраваліся ў Гельсінгфорсе ў красавіку 1917 года, названы і лінкор «Рэспубліка». Партыйная арганізацыя гэтага карабля лічылася ўжо для таго часу шматлікай, баявітай. Узначальвалі яе Святлічны, Марусеў, Чайкоў і Чысцякоў.

Пасля лютаўскіх падзей развіццё рэвалюцыі ішло з незвычайнай хуткасцю. Але буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя не змяніла класавага складу арміі і флоту. Трэба было не дапусціць пераходу войск на бок рэакцыі. Вялікую дапамогу ў гэтым магла аказаць газета, таму па даручэнню партыйнай арганізацыі Святлічны едзе ў Петраградскі камітэт РСДРП(б), каб вырашыць пытанне аб яе стварэнні. А неўзабаве выйшаў першы нумар газеты «Волна», рэдактарам якой быў Б. А. Жамчужын.

Вялікую ўвагу гэтай газеце надаваў У. І. Ленін. Толькі за тры з паловай месяцы ў ёй былі змешчаны адзінаццаць ленінскіх артыкулаў. Сярод іх шырокавядомыя «Красавіцкія тэзісы», «Палітычныя партыі ў Расіі і задачы пралетарыяту», «Пісьмы здалёку» і іншыя. На старонках «Волны» друкаваліся таксама матэрыялы М. С. Альмінскага, У. А. Антонава-Аўсеенкі, Дзям'яна Беднага.

Актыўна супрацоўнічаў у «Волне» Рыгор Святлічны. Ён быў членам Гельсінгфорскага Савета дэпутатаў арміі, флоту і рабочых. Рыгор Аўксенцьевіч карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам на лінкоры «Рэспубліка» і сярод усіх воінаў гельсінгфорскага гарнізона.

З'яўляючыся адным з кіраўнікоў партыйнай арганізацыі на лінкоры «Рэспубліка», абапіраючыся на падтрымку суднавага камітэта, Святлічны прыкладваў шмат намаганняў для выкрыцця палітыкі Часовага ўрада.

У адным з майскіх нумароў «Волны» з'яўляецца яго артыкул «Словы прароцтва ажыццяўляюцца». Пачаўшы яго з вершаў паэта Нікіціна «Придет пора, падет тиранство...», Рыгор Аўксенцьевіч піша, што гэты час ужо блізка. «Вялікая стрэлка гадзінніка рухаецца і набліжаецца да надпісу: «Прэч буржуазных верхаводаў і правіцеляў!»

У архіўных дакументах ёсць матэрыялы, якія сведчаць аб тым, што напярэдадні выхаду ў свет названага артыкула лінкор «Рэспубліка» наведаў Керанскі. Ён прыехаў на Балтфлот, каб угаварыць матросаў ваяваць да пераможнага канца. Святлічны ад імя экіпажа ўручыў яму матроскія патрабаванні, выпрацаваныя Гельсінгфорскім камітэтам РСДРП(б) і Цэнтрабалтам. Але міністр ні на адно пытанне не даў дакладнага адказу.

25 мая Р. А. Святлічны выступіў на I з'ездзе маракоў Балтыйскага флоту, дзе сказаў, што экіпаж «Рэспублікі» незадаволены дзеяннямі Часовага ўрада, і запатрабаваў, каб на чале флоту стаў контр-адмірал Максімаў, якога выбралі матросы.

Рыгор Святлічны працягваў актыўна супрацоўнічаць не толькі ў газеце «Волна», але і ў «Прибое». У сваіх артыкулах ён абараняў інтарэсы партыі бальшавікоў і выкрываў контррэвалюцыянераў.

...У кастрычніку 1917 года, калі партыя бальшавікоў рыхтавалася ўзяць уладу, адной з важнейшых задач стаяла пытанне аб устанаўленні кантролю на мяжы са Швецыяй. Таму што адзіным месцам, праз якое Расія падтрымлівала сувязь з замежнымі краінамі, быў пагранічна-прапускны пункт у Тарнеа (зараз ён у Фінляндыі). Па даручэнню У. І. Леніна там быў устаноўлены кантроль за тэлеграфна-паштовай сувяззю паміж Смольным і Стакгольмам.

У студзені 1918 года белафіны перарэзалі шлях з Тарнеа. Сувязь са Стакгольмам падтрымлівалася з вялікай цяжкасцю. З рызыкай для жыцця прабіраліся праз лінію фронту і мяжу савецкія кур'еры з дыпламатычнай поштай.

У лютым 1918 года Святлічны атрымаў ад Савецкага ўрада вельмі адказны загад. Ён выканаў яго, але цаною свайго жыцця... 19 лютага петраградскія газеты паведамілі: «Па звестках, толькі што атрыманых са Стакгольма, наш пагранічны камісар у Тарнеа тав. Святлічны расстраляны ў Тарнеа белагвардзейцамі». Так у раннім узросце абарвалася жыццё слаўнага сына беларускага народа марака-балтыйца Рыгора Святлічнага. Гэта пра яго ў другую гадавіну Вялікага Кастрычніка адзін з блізкіх саратнікаў У. І. Леніна Вацлаў Вароўскі пісаў: «Вырысоўваецца здзіўляюча светлая асоба гэтага таварыша, які аддаў усяго сябе справе рэвалюцыі, які працаваў аддана»... Другі відны партыйны і дзяржаўны дзеяч У. А. Антонаў-Аўсеенка назваў яго «цудоўным, адданым таварышам» і «бездакорным работнікам».

Такая ацэнка сведчыць аб вялікіх заслугах нашага земляка перад партыяй і рэвалюцыяй.

**Сямён ЖАМОЙДА,**
**член Саюза журналістаў СССР,**
**былы марак Балтфлоту.**

СЛУЖУ САВЕЦКАМУ САЮЗУ!

# НА ЗЯМЛІ І Ў НЕБЕ



Была такая размова паміж намеснікам камандзіра па палітчасці Уладзімірам Жураўлёвым адразу пасля таго, як Уладзіміра абралі камсамольскім важаком эскадрыллі: малады сакратар сумняваўся ў тым, ці справіцца з новымі абавязкамі — ён жа нікім і ніколі не камандаваў. Нампаліт супакоіў: «А камандаваць і не трэба. Працаваць трэба з моладдзю. А што датычыць вопыту... Вы ж штурман, таварыш Жураўлёў! Заўсёды лёгка арыентуецеся. Прыходзілася ж аказвацца ў складаных абставінах у паветры? Вось так... Калі ў небе выйсце знаходзілі, то і на зямлі не схібіце».

Хаця і непрацяглая яго лётная біяграфія, усяго было ўволю, у тым ліку выпадкаў, калі жыццё экіпажа ў цэлым залежала ад яго, лётчыка-аператара.

...Заданне перад экіпажам верталёта, у якім служыў лейтэнант Жураўлёў, было звычайнае — нанесці ўдар з паветра па выяўленым афганскімі разведчыкамі бандыцкім складзе зброі і боепрыпасаў.

Да цэлі пара верталётаў выйшла дакладна і скрытна. Удар нанеслі скрышальны. Але па дарозе дадому экіпаж атрымаў новы загад: прыкрыць высадку дэсанта.

Хутка даляцелі да выпаленага сонцам невялікага плато на схіле хрыбта. З другога боку да месца высадкі ўжо спяшаліся транспартныя верталёты з дэсантнікамі на борце. Жураўлёў бачыў, як адна з вінтакрылых машын павісла над малюсенькай пляцоўкай, як выскачыла з яе на зямлю некалькі чалавек з аўтаматамі. «Арлінымі аэрадромамі» называюць падобныя пятачкі ў гарах. Ювелірнае майстэрства і жалезная вытрымка патрабуюцца ад экіпажа, каб утрымліваць вінтакрылую машыну адным колам на пляцоўцы, у той час як іншыя вісяць над безданню.

Назіраючы за высадкай дэсанта, Уладзімір не адразу заўважыў кароткія яркія ўспышкі з-пад «карніза» цёмнай велізарнай скалы, якая ўзвышалася над пляцоўкай. Быццам хтосьці, забаўляючыся, пусціў сонечны зайчык. Добрыя «зайчыкі»: гэта ж па дэсанце вядуць агонь душманы! Аўтаматныя і кулямётныя чэргі ўбачыў і камандзір. «Прыкрый!» — загадаў ён вядомаму і кінуў верталёт у атаку.

Яшчэ двойчы заходзіў верталёт на душманскія кулямёты, апрацоўваючы ракетамі вузкі, амаль закрыты поўнасцю магутным казырком карніз. Але бандыты не супыняліся, яны імкнуліся перашкодзіць высадцы дэсанта.

Перад чарговым заходам на цэль лейтэнант Жураўлёў паведаміў па ўнутранай сувязі маёру В. Кожуху:

— Камандзір, у нас аварыйныя рэшткі паліва!

— Атакуем!

Вырашыў ён, як патрабавалі абставіны. Верталёт абрушыў усю сваю моц агню на кулямёты душманаў.

З атакі камандзір павёў машыну глыбокім левым віражом — аварыйныя рэшткі паліва патрабавалі хуткага вяртання дадому. Жураўлёў марна час не траціў. Працаваў ён у гэтыя неймаверна сціслыя секунды, як вылічальная машына. Вельмі хутка знайшоў кропку знаходжання. Выбраў самы кароткі шлях і бяспечны маршрут да свайго аэрадрома. Прыкінуў: паліва павінна хапіць. Стоп! А высакагорная вышыня зусім не жартоўная — 2.200. А гэта дадатковая нагрузка на рухавік... Яшчэ адзін разлік, і ўпэўнены даклад камандзіру.

— Да «кропкі» дацягнем. Заходзіць на пасадку трэба з прамой.

Маёр В. Кожух — вопытны ветэраны баец — верыў у свайго маладога лётчыка-аператара, як у самога сябе. Не робячы рэзкіх крэнаў — гэта таксама расход паліва, выбіраючы аптымальны рэжым палёту, ён павёў машыну на родны аэрадром. Ледзьве верталёт крануўся шасі выгаралай, нагрэтай гарачым сонцам зямлі, рухавікі замоўклі: скончылася паліва.

А ВЫПАДАК ПАД ЧАРНОБЫЛЕМ 29 красавіка 1986 года? Прафесійнае майстэрства старшага лейтэнанта Жураўлёва было падвергнута не менш сур'ёзнай праверцы, чым у Афганістане.

За два папярэдніх дні экіпаж маёра Новікава, у якім у якасці лётчыка-аператара лётаў Жураўлёў, выканаў вялікі аб'ём работы. Верталётчыкі правялі радыяцыйную разведку паблізу ад разбуранага пажарам чацвёртага энергаблока. Зрабілі дзесяць вылетаў да палескіх вёсак, лясоў і азёраў, каб узяць пробы грунту і вады, устанавіць межы радыеактыўнага заражэння мясцовасці. Працавалі амаль без адпачынку. Пад канец трэціх сутак атрымалі загад: вылятаць на родны аэрадром.

З палявога аэрадрома верталёт узляцеў, калі свяціла не павеснавому гарачае сонца. Абышлі бокам пашкоджаны энергаблок станцыі, узялі напрамак дамоў. Заставалася мінут пятнаццаць лёту, калі ўперадзе небасхіл зацягнула воблакамі, бліснулі маланкі. Хацелі абысці навальніцу справа. Куды там... І назад вяртацца нельга. Да палявога аэрадрома пад Чарнобылем можна дацягнуць па прамой — рэшткі паліва малыя. Але па прамой — значыцца над рэактарам.

А па абшыўцы верталёта, па шкле кабін барабаніў вялікі град. Стала зусім цёмна. Верталёт, прыціснуты да самай зямлі, пераадольваючы шквальны вецер, упарта ішоў да роднага аэрадрома.

— Камандзір, злева па курсу бачу «акенца»,— паведаміў старшы лейтэнант Жураўлёў.

Ім пашанцавала: хутка выйшлі з навальніцы, даляцелі да аэрадрома. Праўда, пасадку прыйшлося зрабіць амаль усляпую. Са сваёй ніжняй кабіны Уладзімір лепш бачыў, што робіцца ўнізе. Ён стаў як бы «вачамі» камандзіра. Дакладнымі і своечасовымі камандамі завёў верталёт на пасадку...

Той дзень быў выхадным, і старшы лейтэнант Жураўлёў прыйшоў у эскадрыллю ў парадной форме. Не вельмі любіць ён з'яўляцца на людзях «пры ўсім парадзе». Куды ўтульней адчувае сябе ў прапахлай небам і газай летняй скуранай куртцы. Але тут выпадак асаблівы: сустрэча з маладым папаўненнем, з тымі, хто ўліўся ў камсамольскую арганізацыю.

Хлопцы адразу прыціхлі пры яго з'яўленні. Упершыню яны бачылі свайго сакратара вось такім: пры золаце пагон, з двума ордэнамі. Глядзелі з несхаваным захапленнем і здзіўленнем. Толькі два салдаты, якія трымаліся асобна, не ўтойвалі іранічных ухмылак. Даляцела фраза, цынічна кінутая адным з іх: «Афганістан, канечне, не падарунак. Але затое — чэкі, японскія магнітафоны...»

Не вывелі з раўнавагі міжволі пачутыя словы. А пазней больш пільна прыгледзеўся да гэтых двух: «металісты», прыхільнікі «цяжкага» рока. З цяжкасцю ўспаміналі, хто такія Гастэла і Талаліхін, затое назвамі рок-груп шпарылі — будзь здароў! Што ж, юнаку нельга пакідаць сам-насам. Наперадзе ў іх два гады армейскай службы. За гэты час і не такія ветраныя галовы можна прымусіць задумацца пра сэнс жыцця, пра каштоўнасці ўяўныя і сапраўдныя...

Сем гадоў назад выхаванец аэраклуба Валодзя Жураўлёў упершыню сеў у кабіну юркага МІ—2. Неба стала, як у песні пяецца, яго лёсам. Не заўсёды яно было бязвоблачным. Але Валодзя не шкадуе, што звязаў сваё жыццё з верталётнай авіяцыяй. Яна падарыла яму любімую справу, надзейных і верных сяброў, дала магчымасць выпрабаваць сябе.

**Васіль ЗДАНЮК.**

**Н**апярэдадні 71-й гадавіны стварэння Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту спецыяльны карэспандэнт часопіса «Беларусь» Валерый ЛАПІН сустрэўся з Героем Савецкага Саюза, палкоўнікам у адстаўцы, адказным сакратаром Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны **Аляксандрам Іванавічам БАРДАНАВЫМ.**

Перабудова, якая распачалася ва Узброеных Сілах, першапрычыны некаторых негатыўных з'яў у армейскіх калектывах, адраджэнне добрых, але страчаных традыцый у адносінах паміж камандзірамі і падначаленымі, магчымасці зніжэння ваенных выдаткаў — вось «рэчышча» гэтай гутаркі.

**— Аляксандр Іванавіч, вы пайшлі ў адстаўку з пасады начальніка цыкла ваенных дысцыплін Цэнтральных курсаў удасканалення палітсаставу Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту. Афіцэры, якія былі на гэтых курсах некалькі гадоў таму, цяпер маюць высокія воінскія званні. Ад іх — камандзіраў і палітработнікаў, сучасных камісараў палкоў і дывізій — у многім залежыць поспех перабудовы ва Узброеных Сілах. Сёння вы не выступаеце перад імі з кафедры, не дзеліцеся вопытам і ведамі, але што б вам хацелася сказаць ім менавіта цяпер, што параіць!**

— Галоўнае — пакончыць з парадназсцю. У бліскучым мундзіры добра танцаваць, але дрэнна ваяваць. У нас бравых рапартаў, ліпавых «класных» спецыялістаў, рознай мішуры — залішне. А мы павінны мець такую армію, якая здольна абараніць краіну ў любы момант, ад любога агрэсара. Я не хачу сказаць, што сёння мы ненадзейна абаронены. Надзейна! Але не ўпэўнен, што баявая падрыхтоўка многіх нашых салдат і афіцэраў задаволіла б, напрыклад, маршала Жукава. Гэта — па-першае. Па-другое, нездарма кажуць, што салдаты дружбаю моцныя. Загадаць сябраваць нельга. А вось выхоўваць у падначаленых пачуццё таварыскасці, брацтва — можна і трэба. Бо самыя добрыя чалавечыя якасці, як і самыя нізкія, праяўляюцца і раз-

# «СТОЙ! ЗАБАРОНЕНАЯ ЗОНА»



віваюцца пры пэўных умовах. І — па-трэцяе: трэба і ў арміі вучыцца лепш лічыць народныя грошы, вучыцца эканоміць там, дзе можна.

**— Чым адрозніваюцца сённяшнія нашы афіцэры ад афіцэраў Вялікай Айчыннай!**

— На жаль, стала больш кар'ерызму, эгаізму і менш — прафесіяналізму. У кепскіх афіцэраў (як я называю такую частку ваенных) быў выбар. Служыць два ці тры гады. Радавымі. Потым яшчэ год — падрыхтоўчы факультэт універсітэта, інстытута. Некалькі (4—5—6) гадоў вучобы, і — размеркаванне. І зарплата 110—170 рублёў, калі табе пад трыццаць гадоў і ёсць дзеці. Зноў жа — дэфіцыт кватэр, праблемы з адзеннем, харчаваннем. Другі шлях найбольш кароткі да дасягнення зайздросных матэрыяльных даброт. Вучоба ў ваенным вучылішчы на ўсім гатовым, праз чатыры гады — лейтэнант. За дзвесце рублёў жалаванне, форма, дзяўчаты пазіраюць на залатыя пагоны... Калі чалавек здольны, здаровы, але абыякавы да ваеннага майстэрства выбраў кар'еру ваеннага — ён становіцца камандзірам падраздзялення, у якім непазбежна з'яўляецца няпэўная справаздачнасць, падае дысцыпліна, квітнеюць «нестатутныя» адносіны. Бо і ён сам — камандзір — у душы пасмейваецца над некаторымі абавязковымі патрабаваннямі статутаў, дысцыпліны... З ім цяжка гаварыць пра афіцэрскі гонар. Камандзіры і палітработнікі часоў вайны лепш ведалі сваіх падначаленых, дзяліліся з імі апошнім, больш давяралі ім і, ужо ва ўсялякім выпадку, не рабілі тайны з таго, што мараць аб іншай прафесіі або наадварот — хочуць прысвяціць жыццё арміі. Было не прасцей, а было — больш сумленна, ясна. Паспрабуй запалохай фашыста быццам бы высокімі вынікамі апошніх вучэнняў! Бой экзаменаваў строга, але яшчэ стражэй — гонар афіцэра.

**— Гадоў пятнаццаць назад само панящце «гонар» перастала быць папулярным. Затое любы добры рэстаран без прысутнасці ваенных не абыходзіцца.**

— У кожнага часу свае каштоўнасці...

**— Згодзен. Каштоўнасці нашага дня — галоснасць, прызнанне памылак і выпрацоўка шляхоў іх выпраўлення. Не хапае прадуктаў харчавання, мы кепска апранаемся, маладыя сем'і не маюць свайго даху над галавой... Усё гэта з'явіцца тады, калі будуць сродкі. Сродкаў мала. Таму што кожны з нас фінансуе будаўніцтва сакрэтных аб'ектаў, баявых караблёў, дарагія даследаванні... У час вайны асобныя калгаснікі куплялі на свае зберажэнні танкі і самалёты. Цяпер і дзесяць багатых саўгасаў і калгасаў цалкам абанкруцяцца, калі вырашаць купіць для арміі хоць бы маленькі МІГ-29. Сёння танкі і самалёты, ракетныя комплексы і верталётаносцы — проста залатыя. Калі вярнуць толькі тыя грошы, якія краіна была вымушана кінуць у бездань акіянаў для стварэння перадавога атамнага флоту,— нават уявіць цяжка, як умомант перамясціліся б нашы чэргі на жыллё. І разам з тым мы хочам быць упэўненымі, што ў нашых Узброеных Сіл ёсць усё неабходнае. Але ўжо шмат гадоў мы чуем, што ўсё неабходнае ў арміі ёсць! Аднак калі да неабходнага дадаецца яшчэ штосьці... Можа, хопіць замест пасажырскіх верталётаў бачыць над горадам верталёты колеру падсохлага балота! Можа, хопіць перапаўняць склады кажухамі і каскамі, аўтаматамі і боепрыпасамі!**

— Так, мы выдаткоўваем на нашу абарону каласальныя рэсурсы, грошы. Вымушаны! Іншая справа, што часам нашы вядучыя інтэнданты становяцца падобнымі на Плюшкіна. Шмат спісваецца баявой тэхнікі. Яе ломяць. Не ламаць трэба — выкарыстоўваць! Бензавозы, радыёстанцыі, цягачы... Усё гэта можа добра паслужыць народнай гаспадарцы. Ды і для навучальных мэт у школах, тэхнікумах, інстытутах неабходна выкарыстоўваць многае з таго, што цяпер знішчаецца. Я, як камандуючы ваенна-спартыўнымі гульнямі «Зарніца» і «Арляня» Мінскай вобласці, хачу паведаміць вам адну «ваенную тайну»: нашы падлеткі выступаюць на фінальных спаборніцтвах і займаюць ганаровыя месцы, якія на самай справе ім займаць нельга. Таму што яны нават рукой не дакраналіся, напрыклад, да сапраўдных радыёстанцый. Станцый няма? Ёсць! Яны гніюць на складах.

**— У нас сёння багатыя ваенныя склады. Буйныя гаспадарчыя работнікі ўпадабалі мець справу з арміяй: «фірма» грошы не лічыць...**

— Проста належнай ашчаднасці няма.

**— З пачаткам скарачэнняў звычайных узбраенняў такая ашчаднасць стане неабходнай! З'явіцца!**

— Яна і зараз неабходная. Але калі самыя моцныя арміі свету дамовяцца — а я ў гэта веру — пазбавіцца ад хоць бы адкрыта лішніх для абароны запасаў зброі, людзі абавязкова як бы ўстрапянуцца. Яны, якія ўжо прывыклі да слоў пра неабходнасць барацьбы за мір і ў той жа час — да каласальных ваенных расходаў, раптам убачаць, адчуюць вынікі скарачэння асігнаванняў на ваенныя мэты. І тады пачнуць цікавіцца! Бо ім будзе зразумела адно і — галоўнае: падводная лодка — гэта непабудаваны жылы масіў, ваенны аэрадром — гэта нявырашаная праблема з авіябілетамі.

**— Зразумела. Цяжка зразумець іншае: вы пачалі ваяваць з першых дзён Вялікай Айчыннай. Яшчэ курсантам. 27—28 ліпеня 1941 года былі пад Талінам, адходзілі з войскамі да Ленінграда. Потым абарона горада Леніна, пасля прысваення звання лейтэнанта артылерыі — абарона Масквы, прарыў блакады Ленінграда. Вы адчулі на сабе, што азначае ў баявых умовах недахоп снарадаў, гармат, танкаў, самалётаў...**

— ...І я хачу, каб ваеннай тэхнікі ў нас было менш. Так. Я гэтага хачу. Але толькі пры адной умове — усеагульным раззбраенні. На апошнім пленуме ветэранаў вайны ў Маскве мы шмат гаварылі аб праблемах разрадкі, згортванні ваенных праграм. Надышла эра, калі толькі палітычным шляхам можна разумна вырашаць міждзяржаўныя канфлікты, калі парá адмовіцца ад наступальных відаў узбраення.

**— Вядома, што ў ЗША і некаторых іншых капіталістычных краінах — наёмныя арміі. Там людзі не выконваюць ганаровы абавязак, а служаць, працуюць за грошы. Як вы ацэньваеце іх баявую падрыхтоўку?**

— Яна вельмі якасная. Прафесіяналы.

**— Мы ўмацавалі нашу абараназдольнасць тым, што армейскія шарэнгі нядаўна папоўнілі студэнты!**

— Не ўпэўнены. Хутчэй — наадварот. Таму што студэнты — будучыя інжынеры, вучоныя, камандзіры вытворчасці. За 2 або 3 гады жыцця ў казарме ведаў па выбранай цывільнай прафесіі, як правіла, не дадаецца. Такім чынам, грамадства атрымлівае на нейкі час аднаго чалавека з аўтаматам у руках і страчвае на некалькі гадоў маладога хлопца, якому месца — на вастрыі тэхнічнага прагрэсу або ў радах юных дзеячаў культуры, мастацтва.

**— Ленін пісаў: «Лепш менш, але лепш». Арміі гэтая думка датычыцца!**

— Яшчэ як! Лепш адзін салдат, які страляе ў «10», чым батальён, які не ўмее цэліцца.

**— Абавязкі бываюць розныя. Штодзённыя, нялёгкія або прыемныя... А ёсць і ганаровы абавязак — гэта служба ў арміі. Каб быць вартым такога гонару, дастаткова дажыць да 18 гадоў без цяжкіх хвароб і сур'ёзных правапарушэнняў. Калі на плячах юнака з'яўляюцца пагоны — з гэтага моманту ён павінен авалодваць найскладанай баявой тэхнікай. І хлопец, якому ў калгасе не давяралі танны трактар, хутка становіцца камандзірам нашпігаванага электронікай і снарадамі танка. А дзесьці яго равеснік, яшчэ нядаўна не здольны адрамантаваць прас, ужо горда называецца ракетчык!**

— Зразумеў, пра што вы хочаце запытацца. Сапраўды, ці патрэбна армада унікальных танкаў, калі ў іх няма сапраўдных гаспадароў. Я маю на ўвазе прафесіяналаў сваёй справы. У нас тры гады вучаць у ПТВ, пасля — «на сяржанта». За 2—3 гады самы здольны юнак толькі пачынае асвойваць сваю воінскую спецыяльнасць. Бо якая тэхніка! Не трактары або станок. Чалавек толькі пачынае штосьці ўмець і ён — звальняецца. У запас. «Цякучка кадраў», як на вытворчасці, якая развальваецца.

**— Патрэбна армія прафесіяналаў?**

— Над гэтым пытаннем трэба думаць. Не мне. Але я актыўна супраць таго, каб студэнтаў «аддавалі ў салдаты», каб ваенны дылетант называў сябе спецыялістам. Па сутнасці справы, асноўная частка дарослага насельніцтва краіны мае самыя непасрэдныя адносіны да Узброеных Сіл: радавыя, сяржанты, афіцэры запасу, а таксама ўсе работнікі абароннай прамысловасці разам з 18—20-гадовымі салдатамі і, вядома, іх камандзірамі лічаць 23 лютага сваім святам. Свята — агульнанароднае. І я віншую чытачоў «Беларусі» з надыходзячым святам!

**— Далучаюся да вашага, Аляксандр Іванавіч, віншавання. Аднак як вы сабе ўяўляеце ваенкаматы ў цяжкі (што, спадзяёмся, не здарыцца) для краіны дзень. Усе — на фронт?**

— Вядома, не. Нават восенню 1941 лепшыя рабочыя, спецыялісты, вучоныя мелі «бронь».

**— А цяпер ваенкаматы з зайздроснай пунктуальнасцю прымушаюць і «самых-самых» і ўсіх іншых рэгулярна пакідаць лабараторыі, палі, фермы, цэхі, кінастудыі, каб...**

— ...Каб адарваць чалавека ад справы і зрабіць справаздачу аб актыўнай дзейнасці па ўмацаванню абараназдольнасці. Людзі на такіх, прабачце, «зборах» толькі здзіўляюцца армейскім беспарадкам і сумуюць па справе, па сям'і. Ніхто не разумее, навошта ўсё гэта ў такім выглядзе і каму патрэбна!

**— А для тых, хто спрабуе «ставіць пытанне», абавязкова з'яўляецца «магчымасць» паспрабаваць на працягу некалькіх месяцаў «сапраўдную службу», каб «зборы мёдам не здаліся». Спартыўныя журналісты мне расказвалі, што нават некаторыя футбольныя суддзі баяцца выходзіць на поле, калі гуляе ЦСКА. Навучаны вопытам калег. Позва з ваенкамата на «зборы» ў некалькі месяцаў — гэта не крыкі «Суддзю на мыла!». Гэта сур'ёзна. З іншага боку, спартсмены ЦСКА даўно сталі спартыўнай элітай. Агульнае з аднагодкамі-салдатамі ў іх толькі адно: ёсць форма, ёсць званне.**

— Вялікая праблема! Этычная праблема. Хтосьці ваяваў у Афганістане, хтосьці ўстанаўліваў асабістыя рэкорды. Хтосьці цяпер інвалід, хтосьці — чэмпіён. Няхай ты першакласны атлет, але вельмі слабы ваенны спецыяліст — баявую задачу ты не выканаеш. На тваім сумленні будзе жыццё людзей. Дарэмныя ахвяры.

**— Афганістан. Ні вы, ні я не былі там. Таму не будзем гаварыць зараз пра гэту вайну. Мяне цікавіць іншае — як вярталіся да мірнага жыцця вы і вашы франтавыя сябры. Як знаходзілі сваё месца ў жыцці?**

— Тут трэба разумець, што мы ішлі ў бой за Радзіму. За сваю зямлю, сваіх родных. У Афганістане гэтага не было. Афганістан — гэта як небяспечнае жэрабя лёсу. Вось у чым маладым салдатам-інтэрнацыяналістам было цяжэй.

**— А ў чым лягчэй?**

— За іх плячамі заставалася мірная, магутная дзяржава. Іх родныя не мучыліся ад голаду, не гінулі пад бомбамі, не спальваліся ў печах...

**— Вы былі на самай страшэннай вайне ў гісторыі чалавецтва «ад званка да званка». Да салюту Перамогі. Вы цяжка паранены пад Курскам. Якімі вы і вашы сябры былі летам 1945 і потым, у першыя пасляваенныя гады?**

— Шчаслівымі. Мы і плакалі, і смяяліся, і любілі ўсё чалавецтва. Вядома, я памятаю аднагодкаў, якія не знаходзілі сабе месца на разбуранай зямлі. Але злосцю, жорсткасцю пагарджалі ўсе, аднадушна. Нам, якія чатыры гады бачылі смерць, больш за ўсё хацелася сустракаць сярод людзей разуменне, мір і дабрату. Вось чаму для ветэранаў Вялікай Айчыннай асабліва крыўдна бачыць п'яных хуліганаў-«дэсантнікаў», агрэсіўных «афганцаў». Брацтва па зброі, франтавое брацтва — святыя паняцці. Мардабой да іх не мае ніякіх адносін.

**— У Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны наладжаны нейкія сувязі з былымі воінамі-інтэрнацыяналістамі?**

— Добрага «кантакту» пакуль няма. Мы і яны — ветэраны. Але розніца не толькі ва ўзросце. Зусім іншыя былі ратныя будні...

**— Для чытачоў нашага часопіса я павінен паведаміць, што звання Героя Савецкага Саюза вы ўдастоены пасля бою пад Курскам, у якім ваша батарэя 152-міліметровых гаўбіц знішчыла 15 танкаў праціўніка. Пасля бітвы паміж Арлом і Курскам вы ўдзельнічалі ў вызваленні Украіны, Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі. 9 мая 1945 года сустрэлі ў Празе. За вайну з безвусага курсанта «выраслі» ў камандзіра дывізіёна. А што ўспамінаць, пра што расказваць на піянерскіх зборах тым афганцам, якія нават не бачылі сапраўдных «духаў»! Ішла наша калона, раптам — выбухі, раненні, шпіталь, інваліднасць... Пра што расказваць, чым ганарыцца!**

— Гэта, напэўна, адна з галоўных прычын, з-за якіх учарашнія воіны-інтэрнацыяналісты прыходзяць у Камітэт ветэранаў рэдка. А шкада. Таму што ў нас усё ж шмат агульнага. І разам мы змаглі б зрабіць шмат карысных спраў.

**— Спадзяюся, што так і будзе. Кажуць, «дзедаўшчыны» было менш у Афганістане, чым у воінскіх часцях на тэрыторыі краіны. Калі наогул пачалася «дзедаўшчына»?**

— Яна «нарадзілася» ў канцы шасцідзесятых, «расквітнела» ўжо ў васьмідзесятыя гады.

**— Прычыны?**

— Хваравітыя з'явы ў жыцці грамадства. Параўнайце толькі! Камандзір вытворчасці «просіць» падначаленых «давесці да бляску» сваю дачу. Камандзір аддзялення «просіць» салдат пачысціць свой аўтамат. Да бляску. Начальнік на заводзе абяцае некаму нялюбаму і неслухмянаму «паламаць рэбры». З дапамогай загадаў, прыдзірак, паклёпу. Начальнік у армейскай казарме нялюбаму радавому абяцае паламаць рэбры з дапамогай кулакоў «старых». Што і адбываецца. Падобна? Ёсць агульнае?

**— Так. На жаль, ёсць. У старой рускай арміі стары (без усялякага двухкосся) салдат дапамагаў маладому, браў «шэфства».**

— На фронце — таксама. У мяне ў батарэі ваявалі салдаты і 18 гадоў і 38. Між іншым, былі зусім дзядулі ў прамым сэнсе гэтага слова. Вось у каго мы, маладыя салдаты і афіцэры, вучыліся жыццёваму вопыту, дабраце. Яны вельмі часта былі самі змучаныя, мокрыя ад дажджу, але першыя ладзілі печ у зямлянцы, першыя запрашалі пагрэцца нас, «зялёных», «сынкоў».

**— Зараз пытанне, за якое я павінен загадзя папрасіць прабачэння. Вядома, як раскаціста і гулка, быццам трыумфуючы, гучыць у нашых казармах мат. Кажуць, гэта — традыцыя, з вайны.**

— Маняць! У штыкавой атацы было менш мата, чым зараз на вуліцы. Я, напрыклад, ніколі на салдат не лаяўся, не зневажаў іх годнасць. Нават у самыя цяжкія моманты, перад імгненнем да магчымай смерці. Проста ганьба, што сённяшнія афіцэры паводзяць сябе як карчомныя рамізнікі. Між іншым, я ўжо гаварыў пра забыты кодэкс афіцэрскага гонару.

**— Ды што там афіцэры! Нават свае равеснікі-сяржанты ператвараюцца ў маленькіх напалеонаў і «караюць», «мілуюць»...**

— Таксама вялікая праблема. Ваенкаматы амаль не ўлічваюць схільнасці, слабыя і моцныя бакі характараў прызыўнікоў. У школы сяржантаў павінны накіроўвацца хлопцы дастойныя, але — не выпадковыя.

**— ДТСААФ, як кажуць, «рыхтуе непадрыхтаваную змену». Ваша думка?**

— Навошта дарагая тэхніка, калі яе прымяняць няма каму? ДТСААФ можа пахваліцца «размахам», але не можа хваліцца якасцю падрыхтоўкі моладзі да службы ва Узброеных Сілах.

**— У нас ёсць ваенныя «гарадкі», мы звыкліся да будак «КПП», да папярэджванняў «Стой! Забароненая зона». Мы звыкліся да таго, што казарма — амаль турма. І нам дзіка даведвацца, як салдаты іншых армій праводзяць вечары, увесь свой вольны час. Нават самая глыбокапаважаная айчынная казарма не можа сёння служыць эталонам армейскага парадку і дысцыпліны. Гэта — мая думка.**

— Я яе падзяляю. У вольны ад службы час салдат, сяржант павінны быць разняволенымі, даведвацца, чым і як жыве «грамадзянка». Кантакт з аднагодкамі, людзьмі — неабходны. Суровыя абмежаванні такога кантакту прыводзяць да дрэнных вынікаў. Не трэба па суботах і нядзелях прыдумваць «мерапрыемствы», каб «заняць» салдат. Няхай ідуць у горад, у гэтым узросце хочацца не выгульваць аўчарку камандзіра ці фарбаваць зялёнай фарбай траву перад прыездам «генералаў з праверкай», а кахаць, спазнаваць жыццё, марыць... Добры адпачынак карысны і салдату. Ён таксама грамадзянін вялікай краіны, хоць і выконвае ганаровы абавязак. Хопіць нам штучных «цяжкасцей і нягод» армейскай службы.

**— Зараз можна пачуць пытанні: «Навошта эстонцам ці беларусам служыць у Казахстане або ў Арменіі? Няхай служаць на роднай зямлі». Як вы ставіцеся да такіх пытанняў?**

— У нас шматнацыянальная дзяржава. І армія павінна быць шматнацыянальная.

**— Але ў арміі пачуеш дзесяткі крыўдных мянушак для радавых і сяржантаў пэўных нацыянальнасцей.**

— Вядома, лягчэй зрабіць «нацыянальнымі» нашы палкі і дывізіі. Але ад гэтага дружба народаў не ўмацуецца, армія не стане мацнейшая. Мянушкі не знікнуць. У маім дывізіёне змагаліся воіны з розных куткоў краіны. Гэта была сапраўды адна сям'я, было брацтва. Ды і зараз у лепшых батальёнах, эскадрыллях, на караблях юнакі розных нацыянальнасцей вучацца армейскаму таварыству, пасля звальнення — перапісваюцца, ездзяць у госці. Вось гэта ў лепшых традыцыях нашых Узброеных Сіл, вось гэтымі традыцыямі мы і ганарымся.

# САМЫ ВОСТРЫ ДЭФІЦЫТ

З ДАВАЛАСЯ, канец усяму: з прылаўкаў прадуктовых магазінаў рэспублікі пакупнікі ў паніцы «вымелі» начыста цукар. Звычайны цукар, якім некалькі месяцаў назад былі завалены прылаўкі магазінаў, калі стаў дэфіцытам, раптам высветліў шмат якія бакі нашага жыцця ў такі адказны час.

У «залатыя» для цукру часіны, у канцы студзеня, я правёў дзень у пакоі намесніка старшыні Бабруйскага гарвыканкома. Гаспадар кабінета паспяшаўся на адказную нараду, пакінуўшы мяне «на тэлефоне». Вахта пачалася а дзевятай раніцы. Не паспелі зачыніцца дзверы за гаспадаром, як пачуўся першы «званочак».

— Гэта гарвыканком? — чуецца нервовы мужчынскі голас. Не дачакаўшыся адказу, працягвае: — Вы што сабе там думаеце? Куды, пытаюся, падзелі цукар? У Афрыку завезлі? У Афганістан кінулі?

— З варэннем можна,— ветліва спрабую перавесці гаворку на жарт,— вунь жа ў Францыі з цукрам чай не п'юць, бо вядома, што цукар — яд... А таго цукру, які ўжо прадалі за першыя дні новага года, хопіць, каб «атруціць» вялікую краіну, не тое, што амаль трохсоттысячны Бабруйск...

— Ты мне зубы не загаворвай пра французаў! З табой трудящийся человек говорит, а это глас народный... Народу і адказвай, не цямні. Дэмакратыя, дык дэмакратыя!

Нічога сабе заданне. Дзень толькі пачаўся, а ўжо «глас народный» не спіць у шапку, дае пытлі:

— Хто там на тэлефоне? — Адразу ж, без уступу, але такім бадзёрым нахрапам бярэ мяне за горла «новы гаротнік». Ён у пошуках цукру ногі збіў.

— А што вы прапануеце, таварыш... Не ведаю, як вас завуць...

— Цукар давай, маць тваю! Куды падзеў цукар? Мо сам самагон цэдзіш? Ведаем вас... Панацягалі сабе мяшкамі і з народа пасмейваецеся...

— Навошта ж вы так, таварыш?.. Не ведаеце, з кім гаворыце, ды і не пытаецеся, хто вас слухае, а так лаецеся...

Божачка, няўжо гэты самы раптам дэфіцытны цукар выклікаў столькі эмоцый? Людзі страцілі пачуццё меры, усе нервуюцца, сварацца. Яшчэ адзін дзень, і яны з віламі кінуцца на прадстаўнікоў Савецкай улады. Гэта ж яны, а не хто іншы, пахавалі ўвесь цукар, нешта мудруюць, гандляры. Кажуць, па траяку за кіло каштаваўшы. Няўжо маё дзяжурства каля рознакаляровых гарсаветаўскіх тэлефонных апаратаў пройдзе пад знакам: «Давай цукар!»? І таму з нейкай непрыхаванай трывогай адгукаюся на новы тэлефонны гудок.

— Пачакайце, куды я заляцела?— голас жаночы, усхваляваны...— Я званю з ваннага пакоя, намыленая і з нямытай галавой... Ваду давайце. Няма вады... І ўчора не было, і заўчора галаву не памыла...

— Пачакайце, паважаная кабета,— суцяшаю яе,— я запішу адрас, вуліцу, прозвішча сваё скажыце, а я перадам каму трэба. Калі аварыя, дык выправяць...

Але кабета не дала мне дагаварыць, імпэтна закрычала:

— Што ты запішаш? Пісаць усе мастакі, а вось за парадкам глядзець няма каму. Без вады, самі ведаеце, як соладка... Дый што з вамі гаварыць...— і яна кінула трубку.

Я так і не даведаўся, на якой жа вуліцы і ў якім доме гаротны чалавек сядзіць у ванным пакоі з нямытай галавой. Мяне здзівіў тон гаворкі... У кожнага нецярплівы, на высокіх нотах. Яму трэба выгаварыцца, выпусціць пару, мімаходзь сапсаваўшы настрой таму, хто адгукнуўся на ягоны голас.

— Мы звонім з магазіна! Нас ужо стоўпілася сто чалавек і столькі яшчэ на вуліцы! Усім не хапіла цукру! Давайце цукар, а не тое, мы будзем пісаць у Маскву. Мы патрабуем цукар! Вы чуеце? Мы гэтага так не даруем! Не было мяса, не было круп, а цяпер вось яшчэ схавалі і цукар... Па два з палцінніка драць з нас будзеце? І не сорамна?

Увесь гэты маналог амаль без перадыху выгукнуў невядомы мне мужчына. І ён не назваў сябе. І толькі цяпер я зразумеў. Ананімныя «сігнальшчыкі» зранку сталі на «сігнальную» вахту. Колькі ж вас, няўтомных, імпэтных. Выдаяце праўду-матку, не гледзячы на пасаду... І за словам у кішэню не лезуць. Яны ж ад імя «тысяч і тысяч» савецкіх людзей, таму клопат іх не абы-які, а «народны». Так і сказаў адзін з ранішніх «сігнальшчыкаў» у чарговым «тэлефонным» абурэнні.

— Цукар не дасі, дык згарыш! І не ўхмыляйся на другім канцы дроту!.. Думаеш, калі ты вялікі начальнік, дык і пуп зямлі? Далі па шапцы не такім, як ты... Добра далі... Мы цяпер усё можам,— гарнліва заключыў ён.

Як жа, напусціў «жаху» на начальніка, хай ведае, як з «народам» жартаваць. Мяса схаваў, каўбасы сам есць, а цяпер на цукры ў рай забрацца збіраецца...

МІНУЛА ТОЛЬКІ ПАЎГАДЗІНЫ, і я пацягнуўся да шклянкі з вадой, скінуў цёплы світэр, застаўшыся ў адной кашулі. Горача. На вуліцы мінус дваццаць, а тут...

Паважаныя бабруйчакі-«сігнальшчыкі» сапсавалі нямала маіх нервовых клетак. Навошта я згадзіўся «падзяжурыць», усяго толькі гадзіну-другую? Калі папраўдзе, дык цікавасць брала. Спакусіўся зрабіць цікавы матэрыял. Пра людзей, якія звоняць у гарвыканком, да сваіх абраннікаў. Накіпела ў іх за гады застою, цяпер можна смела і выгаварыцца, душу сваю адкрыць. Чаму ж харошай парадай дзень свой працоўны не пачаць? Вядома, учора і да начальства нельга было дастукацца, каб слушнай думкай з ім падзяліцца, а сёння ж «галоснасць». З хаты не выходзячы, па тэлефоне гэтае смелае, праўдзівае слоўца сказаць можаш. Усе мы рады таму, што пацяплела ў краіне пасля красавіцкіх гістарычных рашэнняў. Усёй талакой за справу! Агульным мазалькам! Дапамагайце, паважаныя таварышы. Дзяржава — гэта ж мы з вамі! І гэта не дзеля чырвонага слоўца... А праблем у нас, што ў беднага дзірак на світцы. І каму ж, як не ўсім нам, пра гэта і думаць... Прыкра гаварыць, але ж... Клапоцімся не пра дзяржаву, а асабіста пра сябе... Няўжо адвучыліся? І застаўся самы «цяплейшы» — клопат пра свой кіндзюк? Мне! Маё! Давай! Забяспеч! Дастаў! Пабудуй! Прыбяры!.. Я патрабую! Я маю правы!

Не дачакаўся я за некалькі гадзін майго дзяжурства хаця б адной цікавай парады пра тое, як упрыгожыць Бабруйск, зрабіць яго вабным, утульным. А мо прапанавалі б дзень ветлівасці? Каб жа без абразы, а з прыязнымі ўсмешкамі вітаць адзін аднаго. Пара пра школу ўсім нам паклапаціцца, дзецям жа справу нашу дожываць... Кажаце, і стан медыцыны вас хвалюе, і нізкая якасць прамысловых тавараў, і «бытоўка» працуе на ўзроўні пяцідзесятых... І культура, і жыллёвыя праблемы, і...

Пра ўсё тое хай клапоціцца гарсавет і гарком, а вы нам давайце: «Цукар!», «Мяса!», «Крупы!». ...Давайце і аніякіх адгаворак! У паўмільённым горадзе ўсіх нібы падхвоціў дэфіцыт цукру... Невядомыя мне абаненты скардзіліся і на тое, што няма круп у продажы, нейкі нясмачны хлеб, булкі не зусім мяккенькія... Слухаючы «гастранамічныя» скаргі, міжволі ўспомнілася бачанае на адным пляжы. У мажнога дзецюка на жываце быў скалаты надпіс: «Век на цябе работаю!» Няўжо і мы скаціліся да таго, што працуем толькі на сваё, прабачце, чэрава... Няўжо трэба нам ліхая часіна, бяда трэба, каб мы зноўку навучыліся дзяліць скарыначку хлеба на некалькі галодных ратоў, а лыжку солі на цэлую вёску... І сэрца на чужую бяду імгненна адгукалася...

Не, пэўна многія з нас пра гэта і думаць не хочуць. Часіны іншыя. І праўда, не тыя. І добра... Да лепшага жыцця імкнёмся, мазалём дабрабыт памнажаючы. Зрабіце ласку, падрахуйце. Падзяліце ўвесь цукар, каб на кожнага хапіла па мяшку, як у тых пракідкіх цётак, якія шторанку цісну цца да дзвярэй магазіна па цукар.

— У мяне ўжо больш за сорак кіло набралася, але запас бяды не чыніць,— хвалілася адна цётка другой.— Буду хапаць, колькі змагу. Як падаражэе, дык мо і нешта абаб'ю... Я ж яшчэ дваццаць кіло Сцёпачкінай узяла, а тая пяцёрку накінула...

А гэтай самай цётцы, якая ўжо сорак кіло нахапала, і ў галаву не прыйшло пастукацца да сваёй суседкі, маладзенькай маці, у якой і дзеткі яшчэ маленькія, у сад ходзяць, а бацькі дацямна працуюць, няма ім калі выстойваць на золку, за цукрам душыцца. Не прапанавала гэтая самая цётка хаця б шклянку са свайго мяшка дзеткам адсыпаць... Ворагаў лютых мы перамагалі не толькі дзідай вострай, ды шабляй булатнай, ды зброяй магутнай... А і тым, што ўмелі ў гадзіны ліхія плячо да пляча прытуліць. У гурце дружным — сіла. У гурце нястомны мураш горы варочае...

«Сігналіць» навучыліся даўно, з горкіх незабыўных часін. Як жа быць спакойным, калі кран працякае, круп патрэбных на паліцах не бывае. Адкажыце, добрыя людзі, калі паставяць лаўкі ў дзіцячым скверы? Дзе жыве добры дзядзька, які засыпле лужыну на Бахарава? Калі ж парамантуюць драцяныя загародкі ў скверыку па вуліцы Перамогі? Чаму не прыбіраецца смецце на рагу вуліцы Горкага (як высветлілася, нехта з жыхароў смецце высыпае вёдрамі праз акно шматпавярховіка, навошта хадзіць да смеццевых скрынак!).

«Добры дзядзя» — гарвыканком — штогод толькі на добраўпарадкаванне вуліц Бабруйска, а яны ж «расцягнуліся» амаль на 360 кіламетраў, расходуе да мільёна рублёў.

І двух мільёнаў будзе мала, па-



куль самі бабруйчакі не зразумеюць аднаго: горад не «дзядзькаў», а іх. Няма сэнсу пералічваць усё тое кепскае, што робіцца на вачах «сігнальшчыкаў», але ніхто з іх не звяртае ўвагі,— не маё! Пабітыя шыбы ў пад'ездах, паламаныя дрэўцы ў дварах. Ніводнай альтанкі прывабнай, агароджы, знявечаныя лаўкі... І б'юць, і рушаць, і нявечаць пры поўным раўнадушшы дарослых...

І паднялася ж рука «сігнальшчыка» з Бабруйска, каб паскардзіцца ў газету «Советская Белоруссия», што на ягоным доме пры пабелцы фасада рамонтнікі заляпалі шыльдачку з назвай вуліцы. Ці не пара прызваць гарвыканком, узрушаўся ён, пара навесці парадак! І лепіць пытанне рубам: ці хутка прыйдзе «дзядзька Вася» з домакіраўніцтва з анучкай у вядры і памые шыльдачку... І самае дзіўнае, некаторыя выданні і друкуюць вось такія, з дазволу сказаць, допісы з клопатамі пра свой «любимый город». «Камень пора бы убрать с проезжей части, песочком посыпать дорожки в скверике, предупредить окаянную молодежь нынешнюю, чтобы над цветочками не глумились...»

Не злічыць, колькі вось такіх «умилительных» радочкаў даслалі ўжо бабруйчакі ў сталічныя газеты і часопісы. Яны, «сігнальшчыкі», усяго толькі абыякавыя назіральнікі. «Я вам даводжу да ведама, а вы ўжо круціцеся»,— разважае такі. А што робіцца ў грамадскіх месцах? Вось як абыходзяцца некаторыя грамадзяне са сваім любімым горадам. Смецце ў многіх магазінах. А вось у кінатэатры «Таварыш» пасля прагляду ўся падлога была заплявана слланечнікам. А як выглядаюць салоны аўто, тралейбусаў... Ваш жа «любимый город», таварышы,— як вы любіце «изъясняться».

Запрашаю чытача на сустрэчу, якая адбылася не з ананімнымі «сігнальшчыкамі», а з рэальнымі людзьмі, як кажуць, вока ў вока, твар у твар.

ДЗІЎНАЙ БЫЛА СУСТРЭЧА. З аднаго боку — «нападалы». А іх сабралася каля сотні чалавек: агітатары, прапагандысты Бабруйскага шыннага камбіната. Не проста «рабацягі», а найбольш свядомыя яго прадстаўнікі: начальнікі цэхаў, майстры змен, інжынеры, тэхнічны персанал. Уся тая армія, якая, як кажуць, на галаву вышэй «маласвядомых» працаўнікоў.

За сталом прэзідыума «абарона»: намеснік старшыні гарвыканкома, сакратар гаркома партыі, начальнік аддзела ўнутраных спраў гарвыканкома, інструктары гаркома партыі, савецкія работнікі, дэпутаты. Такія сустрэчы з лёгкай рукі работнікаў Бабруйскага гарвыканкома насілі назву «Пытайся — адказваем!» і сталі традыцыйнымі. Добрая прыкмета нашага часу. Партыйныя і савецкія работнікі сустракаюцца з працоўнымі.

На жаль, «гульня» «Пытайся — адказваем» у асноўным ідзе «ў адны вароты» — тыя, хто прыходзіць на сустрэчы, пускаюць балючыя стрэлы ў бок мясцовага кіраўніцтва. Усё тыя ж меркантыльныя прэтэнзіі: клопат толькі пра «маё». Так было і на папярэдняй сустрэчы з педагогамі і выкладчыкамі прафесійна-тэхнічнага вучылішча металістаў. І вось цяпер — на Бабруйскім шынным камбінаце, буйнейшым у краіне. Па прыкрай завядзёнцы гэта была няроўная гульня. Вопытныя камбінатаўскія «нападалы» неяк злосна, я не баюся гэтага слова, «остервенело» накінуліся на тых, хто сядзеў за сталом прэзідыума. Пытанні закавырыстыя, пэўна, былі падрыхтаваны загадзя, сыпаліся, як з мяха. Здавалася, ім не будзе канца. І большасць гучала так, як і па тэлефоне:

— Куды вы падзелі цукар! Дайце нам цукар! Колькі палажана на камбінат, тое і палажыце! Кіло на нос,— ягоно мы самі і падзелім. Ідзеш да прахадной, дык вазьмі сваё...

«Адвёўшы душу» на цукры, прапагандысты і агітатары шыннага перакінуліся на іншыя «балючыя» пытанні.

— Чаму мінскія ветэраны бяруць на рукі больш кілаграма дэфіцытнай грэчкі, а бабруйскія меней кэгэ?

— Да свят у нас каўбасы давалі, тым жа ветэранам, але толькі па аднаму кэгэ, а ў Мінску адпускалі больш за паўтара...

Некалькі гадзін прысутныя «галосна» гаварылі пра дэфіцытныя каўбасы і крупы, начыста забыўшы пра іншыя грамадскія інтарэсы. Не пачуў я ні слова пра культуру адносін, пра добраўпарадкаванне заводскай тэрыторыі. Няўжо ні ў кога не баліць душа пра Памяць нашу, у добрым разуменні гэтага слова? Праблем не пералічыць, але ці адзін гарвыканком павінен вырашаць іх? Зноў жа «дзядзя», зрабі ласку і пусці аўтобус аж да варот камбіната, каб ім не хадзіць лішніх сто метраў. Пракладзі асфальт ад супынку да варот камбіната. Пара, бачыце, і стадыён пабудаваць, няма дзе пагойсаць моладзі камбінатаўскай.

Намеснік старшыні гарвыканкома Валянцін Аляксеевіч Піліпенка не вытрымаў, сказаўшы, ці не сорамна актывістам гаварыць пра пляцоўку стадыёна. У вас жа некалькі тысяч камсамольцаў, і калі б кожны юнак гадзіну-другую папрацаваў на «сябе», ды з агеньчыкам, без прынукі...

У зале абурана загудзелі... Ага, праўда ў вочы не спадабалася... Давай ім усё гатовенькае. І стадыён, і танцпляцоўку, і дыскатэку, і клуб па інтарэсах, і клумбы, і кветачкі.

— Вы — Савецкая ўлада, вы і паклапаціцеся! — насядалі «нападалы».

«Пытайцеся — адказваем» зацягнулася на некалькі гадзін. Мяне ж ахапіў адчай. Я не мог зразумець, дзе ж гэта адбываецца? У актавай зале парткома вялікага камбіната ці на тарнай лесагандлёвай базе? Кажаце, сабраліся заводскія актывісты, а не пракідкія грузчыкі, перакуліўшы па шклянцы вермуту для натхнення. Вясёлыя і прыйшлі «порезвиться», «благо есть с кем»...

І калі ў прэзідыум прыляцела цыдулка, у якой здзекліва пыталіся, каторы ўжо, божа, раз (!) пра мяса, якое хочуць есці ўсе, а вось «паважаныя таварышы з гарвыканкома» мала пра гэта клапоцяцца, ім жа самім, канечне, мяса хапае. Намёк зразумелы. Тут, як кажуць, не да правілаў «хорошего тона».

Бачу, як не вытрымаў абразлівага намёку запараны, у літаральным сэнсе, гэтай няроўнай гульнёй «галоўны варатар», намеснік старшыні Бабруйскага гарвыканкома, згаданы вышэй Валянцін Аляксеевіч Піліпенка. Сціснуўшы кулакі, ён агледзеў прыцІхлых слухачоў, ціха прагаварыў:

— Сярод вас ёсць тыя, хто жыве ў прыватных дамах, але хто трымае курку, не кажучы ўжо пра кабанчыка? Вы так агрэсіўна сябе паводзіце, нібы мы наўмысля ад вас хаваем цукар, крупы, каўбасы... Праблем многа, нялёгка краіне, і гэтага ніхто ад вас не хавае, самі ведаеце... Давайце думаць разам... Савецкая ўлада — гэта не мы, дзевяць чалавек за сталом прэзідыума, а ўсе мы, больш сотні ў гэтай зале... Праблема з мясам не ўзнікла сама па сабе. Прайдзіцеся па прыватных падворках. Вы не ўбачыце аніякай жыўнасці ў дварах, хіба што гультаяватага ката і сабаку. Дзесяць гадоў таму ці не ў кожным двары хадзілі чародкі курэй, а ў хлеўчыку рохкаў вепручок... Мы ўсе разленаваліся, нічога рабіць не хочам, на дзядзькоў спадзяёмся. А пара, нарэшце, зразумець, я зноўку паўтараюся, што дзяржава — гэта мы з вамі, а не толькі гарвыканком, райком, гарком...

Відавочна, актывісты БШК гэтага не хацелі і не жадалі разумець.

— А вы дзе бераце мяса? — выгукнулі з натоўпу, што збіўся ў дзвярах. Крычалі па-за спінай іншых, каб не пазналі «смельчака».

Валянцін Аляксеевіч крутануў галавой на голас, паказаў свае напрацаваныя, моцныя рукі і, памаўчаўшы крыху, спакойна прагаварыў:

— За дваццаць гадоў я рэдка калі ездзіў пад час адпачынку на Чорнае ці Балтыйскае мора, а кожнае лета спяшаўся да сваіх старэнькіх бацькоў у калгас. Нароўні з усімі калгаснікамі касіў сена, капаў агарод, рамантаваў хату. Прыходзіла чарга бацькам — выпасваў кароўку, даглядаў і сваіх кабанчыкаў. Так, так, каторы год запар я гадую сваіх вепрукоў,— удакладніў Валянцін Аляксеевіч, бачачы, як слухачы перакідваюцца кепікамі.

— Іранізуеце дарэмна, таварышы,— ён павысіў голас.— На здароўе, калі ласка... На зайздрасць усім прысутным, пахвалюся. Каторы год запар я ласуюся сваім салам, ем каўбасы свойскія, як кажуць, пальцам пханыя. І бульба ў мяне свая, на гнаі вырасла, таму і раскіпістая, смачная... Не хвалюся, але сваю харчовую праграму, асабістую, калі хочаце, даўно вырашыў і па магазінах не бегаю. Вось і ўвесь мой адказ на ваш намёк... Спецпастаўкі, сталы па заказах, як тут выказаліся ў цыдулцы...

У зале сцішана замаўчалі. А мне было няёмка за заводскі актыў. Пад знакам перабудовы кожны з іх клапоціцца толькі пра свой кіндзюк. А давайце на сябе азірнёмся. І забруджаная тэрыторыя прадпрыемства, і пахабшчына, накрэмзаная на сценах туалета. Пабачылі б, як выглядаў кніжны павільёнчык на канцавым прыпынку, побач з шынным камбінатам. І яго павінны адрамантаваць «згодна з загадам гарвыканкома». Некалі ж утульны, нават прыгожы, з кнігарняй і кіёскам «Саюздруку», ён ператварыўся ў... прыбіральню... На вачах тысяч шыннікаў яго давядзілі да такога ганебнага стану. На вашых вачах, таварышы прапагандысты і агітатары. Ва ўсім гэтым, калі хочаце, нябачная повязь з дэфіцытам круп, цукру, каўбасы і знявечанай альтанкай, бруднымі словамі на сценах галоўнага корпуса камбіната, зламаным дрэўцам каля прахадной завода, нясцерпнай лаянкай у тым жа грамадскім транспарце.

На згаданай сустрэчы нікому з заводскіх актывістаў, тых самых «нападал», не прыйшло ў галаву пагаварыць пра іншы дэфіцыт, які за апошнія дзесяцігоддзі нагадвае пра сябе з усёй настойлівасцю. Не пераадолеўшы гэты дэфіцыт, мы не давядзём да «кандыцыі» і Перабудову. Так, вельмі востра адчуваецца дэфіцыт на Грамадзяніна. З вялікай літары! У адным месцы ён быў абыякавы, у другім гультаяваты. Там не так узараў, абы-як пасеяў, не тое сабраў. А што сабраў, дык з поля не давёз. Але тое, што давёз, згнаіў. У школе яго не навучылі працаваць, а значыцца, і працу шанаваць... У аўто старэнькую абразілі — чыюсьці маму зняважылі. Умяшайся ты, абарані гонар чужой маці, нехта і тваю абароніць.

Не для прыгожага слоўца прыдумана: «Дзяржава — гэта мы!». Вырашым дэфіцыт Грамадзяніна, самі сябе і паважаць навучымся. І будуць у нас крупы розныя, і каўбас не будзем перці поўную торбу, а дэфіцытны цукар цягаць мяхамі...

У цяжкія гады пасляваенныя і ўволю не наядаліся, але душу мелі, спагады не страчвалі, сумленнем даражылі, чужыя песні не глушылі нас на кожным кроку... Харошая мудрасць напоўніла куфры памяці нашай. Пра годнасць сваю нельга забывацца... Ні ў чэргах за дэфіцытным цукрам, ні на сустрэчах актывістаў з прадстаўнікамі ўлады, ні ў злосных «помстах» па безабаронным, хаця і ўзброеным такой жа тэлефоннай «зброяй», тваім дэпутаце...

**Вячаслаў ДУБІНКА.**





# ОДНАЯ МОВА Ў «БЕЛАРУСІ»

ПАВОДЛЕ розных крыніц ва ўсім свеце жыве каля 11 мільёнаў людзей, якія лічаць сябе беларусамі. У БССР жыве больш за 7,5 млн. беларусаў, што складае паводле перапісу 1979 года 79,4 працэнта ўсяго насельніцтва рэспублікі (адзін з самых высокіх працэнтаў карэннага насельніцтва сярод саюзных рэспублік). Найбольшая колькасць беларусаў, што жыве за межамі БССР, месціцца ў Беластоцкім ваяводстве ПНР (БелСЭ дае прыблізную лічбу — каля 200 тысяч. «Беларускі каляндар», які з'яўляецца штогод як дадатак да газеты Беларускага

## ЛІЧБЫ І ФАКТЫ ДЛЯ РОЗДУМУ

грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы «Ніва», прыводзіць лічбу амаль у два разы вышэйшую). Большасць беларусаў лічыць сваю мову роднай (83,5 працэнтаў).

У школах з рускай мовай навучання вучацца 1 997 000 вучняў БССР, што складае прыблізна 86 працэнтаў ад усёй колькасці школьнікаў. У школах з беларускай мовай навучання адпаведна — 326 000, што складае каля 14 працэнтаў дзяцей-школьнікаў. У праграме сярэдняй школы для 4—10 класаў у школе з рускай мовай навучання прадугледжана 1380 гадзін на рускую мову і літаратуру, 783 гадзіны — на беларускую мову і літаратуру, на літаратуру народаў СССР— 4 гадзіны. У школе з беларускай мовай навучання адпаведна 1279—886—4. Апошнім часам у школах з беларускай мовай навучання такія прадметы, як матэматыка, фізіка, хімія, біялогія і інш., выкладаюцца па-руску. Па замежнай мове за ўвесь час існавання БССР не выдаваліся падручнікі на беларускай мове. Органамі народнай адукацыі гэта кваліфікуецца як «парушэнне арфаграфічнага рэжыму». У гарадах БССР, дзе жыве большасць насельніцтва рэспублікі і дзе беларусы складаюць 71,5 працэнта насельнікаў горада, няма ніводнай беларускай школы. На 1987/88 навучальны год у гарадах рэспублікі было 9 беларускамоўных класаў (8 класаў у трох мінскіх школах і 1-шы клас у Наваполацку). На пачатку 1988/89 навучальнага года ў Мінску адчынілася 17 першых класаў з беларускай мовай навучання. У кожным з класаў займаецца звычайна па 10—15 вучняў.

У 1984 годзе ўдзельная вага выданняў мастацкай літаратуры на беларускай мове склала 4,7 працэнта ад агульнай колькасці такіх выданняў. З 1940 па 1981 год агульны тыраж кніг і брашур на беларускай мове вырас з 7,8 млн. экз. да 7,9 млн. Для параўнання: за гэты ж час выпуск такіх выданняў вырас на грузінскай мове прыблізна ў 3 разы, на рускай і літоўскай — у 4,5 раза, на эстонскай — у 6, на малдаўскай — у 6,6 раза. Агульны тыраж шасці рэспубліканскіх газет на беларускай мове прыблізна ў 10 разоў меншы за тыраж пяці рускамоўных газет.

Сярод выкладчыкаў ВНУ Беларусі 56 працэнтаў беларусаў, у Саюзе кампазітараў — 42 працэнты, у Саюзе мастакоў — 52 працэнты, у Саюзе кінематаграфістаў — 31 працэнт.

## ПРА «ЗАГАЛОЎКІ-КАКОШНІКІ» (не толькі культура мовы)

У старой публіцыстыцы і манаграфіях-даследаваннях намнога лягчэй разбірацца ў змесце, анатацыях і картатэках. Я маю на ўвазе назвы кніг, фармулёўку зместу асобных раздзелаў, агульную форму выкладу думак. Чытаючы выпісы з беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага ці лекцыі па рускай літаратуры прафесара С. А. Венгерава, за хвіліну-другую можаш лёгка знайсці патрэбнае месца, бо несапсаваны густ аўтараў, стылёвая вытрыманасць, унутраная логіка разважанняў, адсутнасць дэкаратыўна-ацэначных загалоўкаў спрыяюць гэтаму. Цяжка па назве меркаваць, пра што кнігі з назвамі тыпу «Упоравень з часам», «Традыцыі і наватарства», «Крокі ў заўтра» і г. д. Глядзіш змест, а там зноў нешта накшталт гэтага: «Вывяраючы жыццём», «Слухаючы ўласнае сэрца», «Вернасць прызванню», «Цеплыня чалавечнасці» і г. д. (Назвы даю з галавы. Калі выпадкова супадзе з назвай сапраўднай кнігі ці раздзела, прашу аўтараў не сердаваць). Цяжка прадзірацца праз такія назвы і даходзіць да сутнасці. Вельмі часта такія кнігі бываюць ні пра што. Бывае нямала і шчаслівых выключэнняў, калі ў раздзелах з рамантычнымі назвамі знаходзіш безліч глыбокіх думак. Вазьміце кнігу Рыгора Бярозкіна «Свет Купалы. Звенні». Пачытайце раздзел «Буслы над іржышчам». Але ж для гэтага трэба быць Рыгорам Бярозкіным.

У штодзённай публіцыстыцы, у газетах пошасць прыгожага дэкору залівае турысцка-эстрадна-журналісцкім сіропам цэлыя развароты: «Па часе вымяраючы крок», «Апярэджваючы час», «Калі будні — свята», «Наш адрас — новабудоўля» і да т. п. У нашых умовах, пры так званым беларуска-рускім білінгвізме, пры некрытычным, лакейскім успрыманні рускіх «журналізмаў» нараджаюцца правінцыяльныя загалоўкі-монстры накшталт «З далёкіх вандровак вярнуўшыся», «Аб подзвігах, аб доблесці, аб славе» (такая рубрыка з'яўлялася ў свой час перыядычна ў некалькіх рэспубліканскіх газетах з нагоды адпаведных юбілеяў). Гэтыя загалоўкі-калькі з рускіх вершаваных радкоў: «Из дальних странствий возвратясь» і «О доблестях, о подвигах, о славе». Першы належыць І. А. Крылову, другі — А. Блоку. На жаль, і сярод рускіх журналістаў ёсць непісьменныя людзі. Даводзілася мне чытаць у салідных цэнтральных выданнях нататкі журналістаў-міжнароднікаў пра далёкія краіны з назвай, што супадае з першым радком крылоўскай байкі... «Лжец». Напачатку я думаў, што гэта будзе фельетон пра якога-небудзь не вельмі сумленнага замежнага рэпарцёра, які даў неаб'ектыўную інфармацыю пра Савецкі Саюз. У час канфрантацыі такое даводзілася чытаць даволі часта. Былі перагібы і з нашага боку. Але ж не! Нашы журналісты распавядалі пра свае ўражанні пасля вяртання на радзіму з далёкіх вандровак. А ў Крылова чытаем: «Из дальних странствий возвратясь, Какой-то дворянин (а может быть, и князь), С приятелем своим гуляя в поле, Расхвастался о том, где он бывал, **И к былям небылиц без счету прилагал**». Як можна з павагай ставіцца да такога журналіста і яго матэрыялу? Або вазьміце ўжо нагаданыя радкі з Блока: «О доблестях, о подвигах, о славе Я забывал на горестной земле, Когда твое лицо в простой оправе Передо мной сияло на столе..» Якое дачыненне мае першы блокаўскі радок да той рубрыкі гераічна-ваеннага характару, якая фігуравала ў рэспубліканскіх беларускіх газетах? Я ўжо не гавару пра тую самую страту вершаванай мілагучнасці, якая была ў рускім арыгінале. Інакш як адсутнасцю элементарнага густу і эстэтычнай глухасцю нельга растлумачыць з'яўленне такіх перакладаў-калек (у другой частцы слова націск можна ставіць як пажадаецца): «Шырокая краіна мая родная», «Уставай, краіна велізарная», «У нас адзін просты клопат» («Забота у нас простая»), «Пад дахам дома свайго», «У прыроды няма дрэннага надвор'я» і г. д. Як пазбегнуць такога ганебнага рабскага спажывецтва, асабліва з замутнёных крыніц масавай культуры? Тут шмат шляхоў і прыёмаў. Ёсць выпадкі, калі пераклад проста недапушчальны. Навошта перакладаць «Вставай, страна огромная!»? Для беларусаў яно гучыць так, як і для рускіх. Тады мы ўсе былі «рускія». (Не трэба толькі экстрэмальныя алегорыі тых дзён пераносіць у прамым сэнсе на сённяшні дзень.) Іншая рэч, калі ёсць «кананічны» пераклад на беларускую мову агульнавядомых радкоў тыпу купалаўскага «Уставай, пракляцьцем катаваны» (пачатак «Інтэрнацыянала»). Тут захаваны памер, мастацкая вартасць французскага арыгінала і дастатковая «пазнавальнасць» рускага радка «Вставай, проклятьем заклейменный», што для сённяшняй моўнай сітуацыі пакуль у такім жанры трэба прызнаваць як станоўчую рысу «крылатага радка».

Ад правінцыяльных загалоўкаўкалек, зробленых квадратна-гнездавым дзяжурным спосабам, велізарная шкода роднай мове. Уся каструбаватасць і няўклюднасць загалоўка пераносіцца на беларускую мову, стварае арэол няўклюднасці, гматнасці, эстэтычнай другаснасці, непаўнацэннасці. Няўдалыя калькі з беларускай мовы не ўпрыгожваюць і рускую мову. Так, адночы ў рускім варыянце «Вячэрняга Мінска» прайшоў пераклад загалоўка матэрыялу, напісанага аўтарам допісу па-беларуску: «Нам осталось наследство». Па-беларуску было: «Нам засталася спадчына». У рускім варыянце няма за што зачапіцца пры агульным першым асэнсаванні зместу артыкула па загалоўку. У беларускім — празрыстае кола паэтычных асацыяцый: «Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына...». Родная мова для чалавека тая, на якой ён чуе свет, на якой яму пахнуць травы, дзень змяняе ноч, на якой ён нітуецца з усім светам. Гэта ніякая не алегорыя і не гіпербала, гэта амаль у прамым сэнсе. Немец чуе спеў пеўня «кі-кі-рэ-кі!», ката падзывае «міц-міц-міц», калі кінуты камень коціцца па лёдзе, то ён чуе «кліч-дыр-дыр-дыр»... Ад простых гукаў прыроды да найскладанейшых пастулатаў германеўтыкі сягае родная мова. Толькі трэба «ўмець шукаці блізка». Аднойчы, калі французская вучоная аўдыторыя выслухала рэферат Гегеля на нямецкай мове, яму з гальскай іроніяй было пастаўлена пытанне: «Ці не можна гэтую ж тэорыю выкласці карацей і па-французску?». На гэта ўладар «змрочнага германскага генію» выславіўся так: «Не, толькі гэтак жа грунтоўна і толькі па-нямецку». І геній народа стварае мову, і мова народа стварае яго геній. Загалоўкі ж — ліхтары розуму.

## ПРЫМЕТНІКІ-ЯЗЫКАЛОМКІ

Ці лёгка табе, паважаны чытач, вымаўляць прыметнікі баскскі, афганскі, узбекскі, нарвскі і г. д.? Пэўне ж цяжка. А калі ўзяць ды і напісаць, каб было лягчэй: басконскі, аўганскі, узбецкі (пішам жа калмыцкі), нарвенскі (па аналогіі з лёзненскі, эльбінскі,— тая ж акцэнтная мадэль зыходнага слова: Нарва, Лёзна, Эльба). Можа б нічога і не здарылася, а толькі б языку палягчэла. Пішы, браце, свае прапановы, думаючы пра здаровы сэнс і шукаючы адпаведнікі ў роднай мове.

**Пётра САДОЎСКІ.**

Сяргей НОВІК-ПЯЮН не цярпіць да сябе спагады. Не любіць пытанняў накшталт: дзе было лягчэй, у фашысцкіх ці сталінскіх лагерах? Або: навошта ён захоўвае гэту ватоўку? Не на ўсе пытанні можна адказаць адназначна: так або не. А на гэтыя... Усё роўна, што запытаць у Новіка-Пеюна, ці шчаслівы ён. Лёс да яго быў жорсткі і разам з тым спагадлівы. Парадокс? Цэлых тры дзесяцігоддзі яго жыцця аблытаны калючым дротам няволі— польскія турмы, гестапаўскія засценкі, катаргі 50-х. Паміраў ад голаду. Ішачыў у рудніках, валіў кедрач. Была ноч, у якую яго сем разоў ставілі да сценкі... І ў дваццаць і ў трыццаць гадоў ён

# песні з-за кратаў



пакутаваў ад ворагаў народных, супраць якіх змагаўся ў падполлях: у даваенны час — у Заходняй Беларусі, у вайну — з фашыстамі. І цэлых пятнаццаць гадоў сам насіў ярлык «ворага народа». Быў, як многія, без віны вінаваты.
Але ён паэт. Ніякія наручнікі, ніякія краты і этапы не змаглі прымусіць маўчаць яго душу. Складаў вершы, спяваў. Песні падхоплівалі зняволеныя, многім з якіх не суджана было дачакацца апраўдання.
А Новіку-Пеюну пашанцавала. Рэабілітавалі. Забыць бы яму ўсё. Дык не, нават ватоўку, насуперак усялякім страхам і забаронам, захаваў. Тую самую, з нумарам 417393, якая была яго апошняй адзежай у няволі і першай — у цывільным жыцці.
Захаваў — не толькі для сябе. Павінны ж мы ведаць, што былі Курапаты, што ў такіх вось «шубах» грэліся ад якуцкіх маразоў паўгалодныя людзі...

Для яго ватоўка — гэта ТАМ. За той рысай, дзе засталася расстраляная ў Калдычаве жонка, дзе нарадзілася любімая песня зняволеных «Зорачкі ясныя», дзе спазналася братэрства суровае і вернае і здрадніцтва нікчэмнае. І ТУТАКА. У «новым» жыцці, пачатым у 53 гады. У новай кватэры — старой «хрушчоўцы», з новаю аплатай — пенсіяй у 72 рублі. Але з думкамі сваімі ранейшымі і вершамі, якія перапісвае з памяці на паперу.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

**У** НЕВЯЛІКІ ПАКОЙ зайшоў малады чалавек з партфелем і ўсьміхнуўшыся сказаў: «дзень добры». Потым зрабіў да стала некалькі крокаў і проста пачаў знаёміцца, называючы сваё прозьвішча. Яго ніхто не разабраў.

Сядзелі моўчкі й чакалі. Але ня адчувалася нялоўкасьці. Прышлы зусім вольна й натуральна адчуваў сябе, нешта рыўся ў сваім партфэльчыку, неяк радасна й светла ўсьміхаўся і глядзеў вакол сябе, чагосьці шукаў...

— Вы, здаецца, інспэктар Вавуліч?

— Не, не! Я не інспэктар! І не Вавуліч!

Не! І наогул кажучы, я не начальства!

Я — «Тварам да вёскі», з Менску.

— А! «Тварам да вёскі»,— у вадзін голас усклікнулі ўсе і гучна засьмяяліся.

Мо' першы раз за ўвесь гэты час у сказаных словах не пачулася нейкай нацягнутасьці, афіцыяльнасьці, фальшывасьці. Неяк адразу, як толькі паглядзелі на твар назваўшага сябе «тварам да вёскі», зрабілася радасна, вольна. Адчулі, як быццам яго даўно-даўно ведаюць і ніколі не разлучаліся. Усе наперабой пачалі гаварыць, смешна размахваць рукамі, нават хапалі яго за рукавы, хлопалі па плячох... Ён гаварыў выключна на беларускай мове, і на хвіліну здалося, што гэта сама вёска кажа, вёска новая, сьветлая, дзе няма гора й тугі.

— Але-ж! Я — «Тварам да вёскі»! Я — прадстаўнік Наркамзему. Маё заданьне — выявіць гострыя патрэбы вёскі... І ведаеце, я ніколі ня думаў, што тут такая беднасьць, гора, цемра... Я аб'ехаў усю вашу акругу і для мяне як быццам адчыніўся цэлы сьвет, зусім няведаны, зусім недасьледаваны... Цэлы край непачатай працы!

— Так! У нас дрэннае жыцьцё. Вы ня першы гэта кажаце. Рэдка наяжджаюць да нас, а наедуць — паглядзяць на нас, як на нешта недарэчнае, дагістарычнае, узварухнуць троху, зьявіцца жаданьне лепш працаваць і жыць, а паедуць — зноў усё засьне... Зноў па-старому.

— Гэта так! Я нідзе ня мучыўся так маральна, як у гэтай акрузе...

**Андрэй МРЫЙ**

# ТВАРАМ ДА ВЁСКІ

**(З цыклю «Новыя людзі»)**



На адных толькі конікаў паглядзіш, дык сэрца зашчэміць. Здаецца, шчаўчком можна забіць! А хаты? А школы?.. Сумна... Да вас у мяне вось якая справа. Я ежджу па вёсках, вяду гутаркі, выяўляю патрэбы, настроі... У вас школа. Я хацеў бы пагутарыць з вучнямі. Мяне цікавіць сялянская моладзь, якая ёсьць пэўны барометр вёскі...

— Добра. Мы гэта зараз... У нас 5 і 6 лекцыя, мы іх скасуем, загадаем агульны сход вучняў, і вы пагутарыце з імі!

— А ці ёсьць у вас пры школе літэратура па сельскай гаспадарцы?

— Якая там літэратура? Нічога няма!

— Дзіўна! А Менск завален. Магазыны перапоўнены — няма надзеі распрадаць. Хацелі нават пусьціць на ўпакоўку. Але-ж гэта вандалізм... Цяпер вядзецца адбор кніжак, якія, можна лічыць, ня будуць куплены і яны будуць пасунуты на вёску. Каб не забыцца — прышліце да мяне ў «Заежджы дом» вучняў. Я дам вам кніжак. Трох-чатырох чалавек... а то не данясуць.

Ня верылі вушам сваім, рагаталі ад радасьці, крычалі «гурра».

Потым прыежджы выказаў жаданьне паглядзець клясы, вучняў, працу іх, каб лепей зразумець, аб чым больш за ўсё трэба гутарыць. Вучні вадзілі яго па клясах, паказвалі яму свае малюнкі, калекцыі, газэты, закідвалі яго пытаньнямі, хто ён, чаго прыехаў, як жывуць вучні ў Менску, апавядалі яму свае маленькія радасьці, сваё гора, свае няўдачы, свае мары аб будучыне... Ён усім цікавіўся: як яны дзень праводзяць, як у іх размяркован час, чым яны асобна цікавяцца.

Вучні са скуры лезьлі, а казалі па-свойму, па-мужыцку.

На сходзе, куды сабралася каля 200 вучняў, ён, калі яму прапанавалі слова, некалькі хвілін маўчаў, праводзіў рукамі па валасох, глядзеў у свой блякноцік, потым пачаў:

— Прыгожа жыцьцё на зямлі. Прыгожа, калі каласіцца жыта і шарасьціць ад ветрыку, прыгожа, калі кветкі цьвітуць на лугох, калі пахне грэчка, калі цьвіце лён. Прыгожа, калі сады цьвітуць, пакрываюцца бела-ружовым цьветам, а пчолкі радасна гудуць у араматным паветры... Наогул, паглядзеце, колькі прыгажосьці ў вашым сялянскім жыцьці? А ў горадзе: рух аўтамабіляў, машын, гул фабрык, заводаў, трапятаньне аэрапланаў! Усё гэта не толькі карысна, але й прыгожа. І ўсё гэта здабыў геній чалавека. Але чаму-ж так многа няшчасных, якія ня ведаюць радасьці, якім некалі прыкмячаць гэтае прыгожасьці жыцьця? Таму што ня ўсе ўмеюць заваёўваць сваё шчасьце, ня ўсе вядуць упартую барацьбу за лепшае будучае, ня ўсе адчуваюць, што ў барацьбе — шчасьце, у барацьбе сьвядомай, сагрэтай навукай і працай!

Вы, пэўна, чулі ў школе казку пра птушку Фэнікса, які з попелу ўваскрасаў... Гэта птушка Фэнікс — ваша краіна Беларусь. Яна цяпер уваскрасае, яна моцна цягнецца да лепшага жыцьця, да сьвету, яна ўбачыла бязьмежныя прасторы творчай працы й натхненьня...

Няпрыкметна перайшоў ад паэзіі жыцьця да яго прозы. Кажучы аб мерапрыемствах па землябудаўніцтву, землякарыстаньню, ён падвёў ідэйны грунт пад гэта, ён нарысаваў захапляючы малюнак будучай

«абноўленай зямелькі Беларусі», дзе сонца ясьней стала сьвяціць і кветкі сталі прыгажэй цьвісьці, дзе грудзём вальней, шырэй стала, дзе думкам адчынілася бязьмежная сонечная прастора.

Маладыя вочы як прыкованы былі да прамоўцы. Здавалася, што гэта ёсьць ужо, а хоць вось-вось будзе: так бясспрэчна ўсё выходзіла. І калі скончыў ён гаварыць, з усіх грудзей вырваўся нейкі ўздых, як быццам прачнуліся ад сну, ад якога не хацелася прачынацца. Потым воплескі, воплескі, воплескі...

А ён забыўся нават прысесьці, усьміхаўся й думаў: «О! Гэтыя цяжкія гады не прайшлі дарма! Як усё ўзрасло, узварушылася, напоўнілася новымі свежымі думкамі! Які агонь гарыць у іх вачох, як моцна іх жаданьне ведаць, працаваць, тварыць!».

Глыбока задумаўся і ачнуўся тады, калі як град пасыпаліся запытаньні. Яны ня былі штучнымі, нават не выплывалі з яго слоў, яны былі пытаньнямі маладых душ, маладой спробы жыцьця. Ніякай сароммлівасьці, палахлівасьці ня было ў гэтых дзяцей вёскі. Кожны пытаў аб тым, што яго цікавіла ў гэтую хвіліну: як трэба падразаць яблыні, як садзіць бульбу, як яе рэзаць і на колькі частак, як рабіць грады, колькі лажыць угнаеньня і г. д.

У спрэчках выступалі й вучні. Прыежджы радасна глядзеў на іх, на гэтых юных кавалёў жыцьця, якія сьмела падымаліся, сьмела гаварылі, з жарам абаранялі новыя формы жыцьця.

Ён думаў: «якое шчасьце жыць, якое шчасьце нават бачыць, як растуць, мацнеюць новыя людзі, як на вачох жыцьцё зьмяняецца, асьвяжаецца! Не! Ня можа быць, каб загінулі гэтыя парывы, ня можа быць, каб змарнелі, заглохлі яны!»

І калі пасьля доўгай гутаркі пайшоў ён са сходу, яго праводзіла ўся грамада.

II.

Мясцовы аграном Касабука, які таксама быў на сходзе, гаварыў прыежджаму:

— Мне здаецца, што вы больш паэта, чымся аграном. Ці-ж ня гэтак? Вы дужа пекна гаварылі.

— Не! Вы памыліліся! Я — сапраўдны аграном. Але я лічу, што каб перабудаваць усё на новы лад, трэба заахвоціць людзей, трэба закрануць у іх эстэтычную жылку, трэба так паставіць справу, каб зьявілася імкненьне да прыгажосьці жыцьця, каб узмацнілася нянавісьць да гразі, бруду, цемры. Дзеля гэтага й трэба, па-мойму, кожнаму аграному быць троху паэтай... Пакажэце селяніну, як можна карысна й прыгожа весьці гаспадарку — ён бязумоўна захопіцца гэтым. «Прыгожа» — я разумею ў сэнсе «чыста, здарова». Дайце яму прыклады, як жывуць сяляне ў іншых краінах, намалюйце яму новую вёску, а лепш дапамажыце збудаваць яе, з садамі, з брукаванай вуліцай, з тратуарамі... Давядзіце, што гэта ня так цяжка, вылічыце ўсё матэматычна, а ў першую чаргу адшукайце прыхільнікаў вашаей ідэі, штурхайце іх да новага жыцьця — вось па-мойму адпаведная роля агранома. Але яму самому трэба верыць і захапляцца. Ён — вока й вушы вёскі!

— Мне было-б вельмі цікава паслухаць вас, як вы гаварылі-б гэта сялянам. Ого! Яны проста ў трубу загоняць сваімі вечна заблытанымі пытаньнямі. Іншы раз яны такога перцу зададуць, што ня ведаеш, куды дзецца... Вы думаеце, што я гэтага не гаварыў? Ды якая карысьць, калі пасярод вашых захоплівающых плянаў, як абух па галаве, чуеш бурчэньне: «не да танцу абадранцу», «усуньце кляп у горла сакатуну — няхай ня брэша», «ат! Лысае ўрадзілася, лысым і здохне»! Гэта агульныя выкрыкі, праўда, шэптам сказаныя, але іх чуеш. А паслухалі-б вы іх палітычныя выступленьні, калі яны ўпэўняцца, што вы свой чалавек, што вас ня трэба баяцца. Яны вам на вашу абарону савецкіх мерапрыемстваў пачнуць вочы калоць і казаць, што «ўлада то й знай жрэць», што на сялян «усё ліха ўсьсела», што «ўсе пазаскабілі рукі», што ўлада «першым сваім абавязкам лічыць толькі зьбіраньне падаткаў» і г. д., і г. д. да бязьмежнасьці.

— Што-ж, гэта бывае. Але-ж ці можна супакоіцца на гэтым, кінуць, рынуць усё ды адбываць па казённаму. А галоўнае: трэба кінуць ролю «правадыра». Вы думаеце селянін не разьбіраецца, што вы яго вучыце, а самі мала ведаеце. Ён інстынктыўна дамагаецца роўнасьці, таварыскасьці і ўсякага, хто ў чорным, ды яшчэ чытае яму мараль, ён і слухаць ня хоча. Я праканаўся, што калі даць магчымасць селяніну суздром выказацца, ён будзе лічыць, што вы ня вораг яму. А мы часта вядзём сялянскія сходы занадта дысцыплініравана, зусім забываем, што селянін яшчэ не можа, яшчэ не прызвычаіўся казаць па сутнасьці справы. Дзеля гэтага, калі сход бывае дужа дысцыпліраваны, калі «ёсьць парадак», дык на прапанову выказацца ўсе маўчаць, як вады ў рот набраўшы, бо ім здаецца, што ад іх дамагаюцца панскае, лагічнае прамовы, а калі ён пачне пра сваё, набалелае, дык зараз крыкнуць: «Досыць! Табе няма слова! Ня тое кажаш»!..

— Давайце сёньня, калі вы не паедзеце, пойдзем у хату-чытальню, зьбяром сход. Цікава, які будзе ваш погляд пасьля гутаркі з нашымі сялянамі?

— Добра! Пойдзем! Толькі ня трэба зьбіраць сходу. Хто захоча, няхай прыйдзе. Ведаеце, я ўжо ежджу тыдні два і прыкмеціў, што ў вёсцы гэтых сходаў бывае шмат: толькі раздражніваюць сялян, бо трымаюць 3-4 гадзіны, а нічога большаю часткаю не даюць. Хто ні павернецца, падлеткі бегаюць і крычаць «на агульны сход», а па якой прычыне, якая абвестка, хто склікае — ніхто ня скажа. Йдзі й толькі, бо ты павінен слухаць, што табе начальства кажа. Прыдзе селянін і пачуе, што добра-б было памагчы Мопру, што будзе дзень лесу і трэба да яго рыхтавацца, што трэба ўзьнесьці падатак (хоць ён можа даўно ўжо ўзьнёс), ну й злосьць яго разьбярэ, чаму кожны раз наперад ня скажуць, аб чым будуць казаць. А то чакае гадзіны тры, а потым прачытаюць паперу, што плаці страхоўку й толькі... Мы во як зробім: абвясьцім, што хто хоча, у каго ёсьць справы, непаразуменьні, той можа прыйсьці ў хату-чытальню, дзе будзе гутарыць менскі таварыш.

Падыйшлі да заежджага дому. Каля дому доўга яшчэ гаманілі. Аграном выкладваў душу, сьмешна размахваў рукамі. Прыежджы пільна сачыў, як зьмяняўся твар агранома, як нейкае дзіўнае хваляваньне перадавалася яму.

Падыйшоў нейкі шэранькі чалавечак і скорагаворкай кінуў: — Ты ведаеш, Касабука, у нас сёньня ўстаноўчы сход краязнаўчага таварыства. Дальш марудзіць нельга — населі. Ты, як аграном, абавязкова прыдзі. А 5 гадзіне.

— Добра, прыду! Абавязкова! Мяне гэта цікавіць!

Шэры чалавечак прыпыніўся, паглядзеў на новага чалавека і пытліва зірнуў на Касабуку.

Той сказаў:

— Гэта з Менску таварыш! «Тварам да вёскі!»

Засьмяяліся.

Шэры чалавечак адыйшоў, зрабіў некалькі крокаў, потым зноў вярнуўся, стукнуўшы сябе па ілбу.

— У мяне гэніяльная думка. Ці не маглі б вы прыйсьці на наш сход? Ён прайшоў бы жвава, а то мы ўжо абрыдлі адзін аднаму.

— Калі ласка! Я прыду. Краязнаўства — важная справа, і я, на-

*Год назад імя беларускага пісьменніка А. МРЫЯ, бадай, нічога не казала шырокаму чытачу. Ён проста быў пазбаўлены магчымасці чытаць творы гэтага арыгінальнага празаіка. Становішча памянялася, калі летась у часопісе «Полымя» быў надрукаваны раман «Запіскі Самсона Самасуя», а ў «Маладосці» — пяць апавяданняў. Вяртанне забытых твораў з дваццатых гадоў у наш час прынесла пісьменніку незвычайную для беларускіх умоў папулярнасць — названыя публікацыі зрабіліся своеасаблівымі бестселерамі, нумары часопісаў зніклі імгненна. Гэтаму паспрыяў рэдкі талент аўтара: дасціпнага гумарыста, з'едлівага сатырыка, мастака з абагульнена-гратэскавым бачаннем рэчаіснасці, а таксама тое, што А. Мрый яшчэ тады, у дваццатыя гады, пільна і пранікнёна разгледзеў хваробы і дэфармацыі новага грамадства, якія буйным кветам пачалі раскашавацца ў трыццатыя гады і ў наступныя дзесяцігоддзі, вынікі чаго даводзіцца адчуваць аж па сённяшні дзень.*

*Тое, што пры іншых абставінах павінна было б прынесці пісьменніку славу, спрычынілася да яго трагічна-тыповага лёсу: арышт, хлуслівыя абвінавачванні, высылка ў далёкі сібірскі край. Але абсалютна не тыповым, нават па сённяшні дзень загадкавым успрымаецца вызваленне празаіка з няволі пасля таго, як ён напісаў у Маскву ліст «Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну», дзе лагічна і пераканаўча даказваў хлуслівасць і нават абсурднасць высунутых супраць яго абвінавачванняў. Цяжка дапусціць, што гэтае пасланне трапіла ў рукі «бацькі ўсіх народаў», але факт застаецца фактам: А. Мрый быў адным з нямногіх, памілаваных пры жыцці Сталіна.*

*Аднак трапіць у родную Беларусь яму не пашчасціла: апошнім прыжыццёвым прытулкам стаўся цягнік, якім пісьменнік вяртаўся дахаты.*

*Сёння мы не можам прыйсці на яго магілу, зрэшты, як і на тысячы іншых, памаўчаць, падумаць пра лёс усёй нашай нацыянальнай інтэлігенцыі, пакласці ля надмагілля кветкі.*

*Адзінае, што мы можам, дык гэта не дазваляць выветрывацца нашай памяці — асабістай і калектыўнай, народнай,— засцерагаць свае душы ад абыякавасці і абыякавасці да лёсу тых, хто на золку Савецкай улады на Беларусі шчыра паверыў у духоўнае адраджэнне свайго народа, у тое, што ён назаўсёды пазбыўся ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску і яго сыны ўжо не будуць, як некалі, у часы Расійскай імперыі, адчуваць сябе зняважанымі і беспрытульнымі на роднай беларускай зямлі.*

*Наш грамадзянскі абавязак — выявіць і расшукаць усіх, хто імкнуўся да праўды, свабоды, годнасці, справядлівасці, хто жыў дзеля дабра і ўзвелічэння роднага народа, але каго няшчадная сталінская каса зрэзала ці то на ўзлёце жыццёвага і творчага лёсу, ці то ў зеніце яго грамадскай і працоўнай дзейнасці. Вярнуцца з забыцця павінны ўсе, незалежна ад таго, хто перад намі,— рабочы ці калгаснік, навуковец ці мастак, ваенны ці артыст, рускі ці беларус, яўрэй ці паляк, татарын ці ўкраінец. Рэспубліканскім друкам, у прыватнасці, літаратурнымі часопісамі, ужо зроблена нямала па вяртанню забытых і невядомых пісьменніцкіх імёнаў, па публікацыі тэкстаў мастацкіх твораў. «Беларусь» сярод іншых вылучаецца ці не найбольшай паслядоўнасцю — тут, як вядома, існуе пастаянная рубрыка па публікацыі паэтычнай спадчыны. З гэтага ж нумара абсягі літаратурнага «мартыралога» пашыраюцца на прозу, больш дакладна — на апавяданне.*

*Гонар распачаць гэтае, скажам так, шэсце пакутнікаў выпаў на долю А. Мрыя. Друкуюцца тут два з яго першых апавяданняў — «Абстрыкаўся» (1924) і «Тварам да вёскі» (1925). Напісаны яны чалавекам у досыць сталым узросце (нарадзіўся Андрэй Шашалевіч у 1893 годзе), за плячамі ў якога была духоўная семінарыя, змаганне на франтах першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, праца настаўнікам. А да творчасці А. Мрыя абудзіў уздым грамадскага і культурна-асветніцкага жыцця, які распачаўся пасля таго, як некалькі этнаграфічна беларускіх паветаў былі вылучаны са складу РСФСР і перададзены Беларусі. Андрэй Шашалевіч адразу ж актыўна ўключаецца у працэс беларусізацыі школы, разам са сваім братам, будучым драматургам Васілём Шашалевічам, удзельнічае ў стварэнні самадзейнага беларускага тэатра, з асаблівым імпэтам і самаадданасцю аддаецца краязнаўчай рабоце. Ці не яна і прывяла яго ў літаратуру. Ва ўсякім разе фактам з'яўляецца тое, што А. Мрый пачынае дасылаць у рэспубліканскую прэсу краязнаўчыя допісы, а калі краязнаўчы рух па ўсёй Беларусі набірае шырокі размах, арганізацыйна афармляецца ў масавую арганізацыю з цэнтрам у Мінску, то ён па запрашэнню пераязджае сюды на сталую працу ў Цэнтральным Бюро краязнаўства, актыўна супрацоўнічае ў яго органе — часопісе «Наш край».*

*Змешчаныя тут апавяданні — гэта яшчэ не той А. Мрый, які крышку пазней, у канцы 1926 года, стане сябрам згуртавання «Узвышша», што абвесціць у дэкларацыі неабходнасць стварэння літаратуры, «якую ўбачаць вякі і народы». Да годнасці згуртавання трэба сказаць, што яно не толькі агаласіла гэты велічны тэзіс, але і шмат зрабіла для яго ўвасаблення за тры, адпушчаныя воляй лёсу, гады. І зробленае А. Мрыем — адна з яркіх і арыгінальных старонак у творчай спадчыне згуртавання.*

*Першыя апавяданні А. Мрыя напісаны даўно, больш як шэсцьдзесят гадоў назад, але сучасны чытач знойдзе ў іх і тое, што блізка нашаму часу, пазначанаму актыўным імкненнем да сацыяльнай справядлівасці і нацыянальнай годнасці.*

*Распачынаючы новую рубрыку, выкажам спадзяванне, што наперадзе ў чытача будуць цікавыя знаходкі, адкрыцці і сустрэчы з тым, што зноў, пасля змушанай ростані, вяртаецца ў нашу культуру, а, значыць, узбагачае нашы веды, пашырае нашы духоўныя далягляды.*

**Яўген ЛЕЦКА.**

прыклад, магу што-колечы сказаць аб Інбелкульце.

III.

Устаноўчы сход краязнаўчага таварыства адчыніўся. Прысутнічала ня больш 15 чалавек, якія нават ня ведалі добра, што гэта за таварыства, якія мэты яго, зьмест працы. Сядзелі насупіўшыся. Упаўнаважаны паведаміў, што хоць вельмі няпрыемна брацца за нову працу, але што гэта вымагаецца жыцьцём, стыхійнымі патрэбамі растучай грамадзькасьці. Дзеля гэтага прапанаваў абмеркаваць пытаньне аб адчыненьні бюро, аб статуце, аб узносах, аб сяброўстве.

Менскі таварыш сядзеў і думаў:

— Адчыніцца, будзе існаваць на паперы з год, пакуль жыцьцё ня высуне ўперад ідэйных людзей, якія зразумеюць неабходнасьць гэтага. І гэта паўсюды! Паўсюды папяровая дзейнасьць!

Узяў слова. Пачаў дужа проста гаварыць, што такое беларуская культура, што такое Інбелкульт, якая яго праца, заданьні, мэты, што ён ужо зрабіў.

Сонныя твары ажывіліся. Мімаволі галава праясьнілася. Вялізная лябораторыя народнага жыцьця адчынілася, і крыўдна зрабілася, што не працуеш у гэтай лябораторыі, не пaглядаеш жыцьця, не ўспрымаеш яго ва ўсёй непасрэднасьці. Гэткія марудныя дробязі, як статыстычныя данныя, зьбіраньне казак, песень, састаўленьне слоўніка жывое мовы, рэвалюцыйная народная творчасьць — усё гэта выявілася ў іншым асьвятленьні.

— Трэба ведаць мінулае, трэба зьбіраць помнікі старасьвеччыны, бо, хто ведае мінулае, той зразумее сучаснае. А толькі разумеючы сучаснае, можна падыйсьці да народнае псыхалёгіі, дасканальна ўявіць яе сабе, ператварыць, зьмяніць яе ў пажаданым напрамку. Ня дарма ж кажуць, што адной з вялікіх навук будучыні будзе псыхатэхніка, поўнае разуменьне і ўладаньне імпульсамі...

Разварушылася думка. Вельмі ўрачыста падняўся мяйсцовы эканаміст Бульбачка і дакляраваў, што краязнаўчая праца прынясе вялікую карысьць ня толькі народам СССР, але і ўсёй сусьветнай, асобна эканоміцы, бо ведаць эканамічны стан краіны, яе статыстычныя данныя, гэта азначае ўвачавідкі ўбачыць, правільна ці не эканамічная палітыка, трэба яе зьмяніць ці не, ёсьць прагрэс ці рэгрэс, а можа застой. Ён казаў, што каб магчыма было даць дасканальнае апісаньне з усіх бакоў хоць бы аднаго сельсавету, ня кажучы ўжо аб раёне — гэта б была вялізная праца. Гэта ўсё роўна, як той казаў, што, каб мы ведалі ўсё чыста адносна мураўя, мы б маглі шмат вырашыць сусьветных праблем, над вырашэньнем якіх пакутуе цяпер чалавечая скрыначка з шэрай матэрыяй.

За эканамістам выступіў рэдактар мясцовай насьценнай газэты «Памяло» т. Скібачка, які асабліва напіраў на неабходнасць зьбіраньня народнае рэвалюцыйнае творчасьці. У прыклад ён браў сябе, які нядаўна на вечарынцы ў вёсцы Грыбы пачуў твор малапісьменнага вясковага хлопца — паэму «Як зямлю білі на клеткі». Па пагляду Скібачкі гэты твор варт таго, каб яго ня толькі запісалі, але й надрукавалі. Тут вёска, як у люстэрку.

Выступіў нават мясцовы Дыогэн т. Палачка, які, нягледзячы на свой цынізм, займаў вельмі адпаведную пасаду. Ён таксама агітаваў за пляновае зьбіраньне вуснае народнае творчасьці, прычым напіраў на зьбіранне няпрыстойных твораў, лягенд, жартаў, бо, як ён гаварыў, гэта асьвятліць і дапаможа вырашыць палавую праблему. Апрача таго, гэта прыгожа й з мастацкага боку, бо ён сам адзін раз цэлую ноч слухаў шэраг народных лягэндаў на тэму аб беларускай «вандэцьце». Гэты выбрык Дыогэна выклікаў аднадушнае пацісканьне плечаў: да чаго іншы раз дагаворыцца чалавек?

Ён не даслухаў іншых выступленьняў. Быў час, прызначаны для гутаркі ў хаце-чытальні.

IV.

Прыйшоў з аграномам Касабукай у хату-чытальню. З сялян-гаспадароў яшчэ нікога не было, хоць паведамленьне ўжо было паслана. За сталом на куце сядзеў актыў вясковай моладзі і абгаварваў нейкія справы. Менскі таварыш прысеў збоку, разьвярнуў блякнот, пачаў пісаць там нешта, потым уцягнуўся ў гутарку з моладзьдзю. Высьветлілася, што сяляне-гаспадары рэдка й неахвотна прыходзяць у хату, бо яна «для моладзі, а старым няма чаго тут рабіць». Уважліва слухаў іх фанабэрыю, ківаў галавою, выказаў свой погляд.

Сяляне прыходзілі невялікімі групамі. Нясьмела садзіліся на лавах збоку, пазіралі на прыежджага.

А ён думаў: аб чым гаварыць галоўным чынам, каб зацікавіць іх, каб яго гутарка ня была дарэмнай, пустазвонствам. Ён ведаў, што «абы казаць» — на гэта ня трэба вялікай здольнасці, а гаварыць так, каб зачапіць, узварушыць чалавека, штурхануць яго на дзейнасьць — на гэта патрэбна здольнасьць, дасканальнае інтуіцыйнае веданьне псыхалёгіі масаў. Чым жыве наогул беларуская вёска, і гэта вёска ў прыватнасьці — вось пытаньне, якое зараз мучыла яго.

Праз некалькі хвілін ён будзе гаварыць з імі, будзе «вучыць» іх, а ён ня ведае, што патрэбна ім у дану хвіліну, а выяжджаць на агульных фразах аб саюзе сялянства і рабочых — гэта яму не па душы.

Падсеў да нейкага дзеда. Разгаманіліся. Хутка каля іх набралася цэлая грамадка. Кожны ўторкваў сваё слова, кожны высоўваў набалелае пытаньне гэтае вёскі — перадзел зямлі. І ясна стала, што вёска хварэе ад няўмелага землябудаўніцтва. Яшчэ гады чатыры назад пабіліся на прыселкі і ўжо карыстаюцца новымі надзеламі, а дагэтуль сядзяць на старых сялібах, узаемна перашкаджаючы адзін аднаму жыць. Пераехаць на новую зямлю нельга, бо плян не зацьверджан, а не зацьвярджаюць, бо з кожным годам плату за гэта павялічваюць, набаўляюць, а цяпер ужо й акруга ня ведае, колькі «сарваць з іх», хоць яны ўжо пераплацілі гэтулькі, што й лічбу страцілі.

Лёгка яму зрабілася, калі пагаманіў з сялянамі. Цяпер ён ведаў, аб чым казаць, што казаць, як дапамагчы. Пачаў гаварыць. Было ціха. Гаварыў на беларускай мове. Сяляне нават не перашыкваліся, ня бурчэлі. Нейкія струны сялянскае душы былі моцна закрануты. Збоку было нават троху жаласьліва бачыць паўадчыненыя раты і застыглыя твары.

Ён казаў, як цяпер разьмяркоўваецца зямля, якія нормы, які парадак надзяленьня. Усё гэта перасыпаў рэальнымі прыкладамі з жыцьця гэтае вёскі. Растлумачыў, чаму гэта вёска ў такім незразумелым становішчы.

І калі ён на хвіліну спыніўся, раптам ня стала цішыні. Яе перарваў вядомы ўсей вёсцы пракуда Сёмка, ці як яго дражнілі Скулка. Часам ён напіваўся «да зьвярынага аблічча», як казалі пра яго. Як відаць, ён і цяпер быў «усусьліўшыся» і ўся сусьветная прыстаўлялася яму жартам нейкай злой сілы. Сярод магільнай цішыні ён загрымеў хрыпучым голасам. Менскі таварыш нават не задзівіўся, як быццам ён гэтага чакаў. Зусім сур'ёзна ён сказаў:

— Вы хочаце казаць? Калі ласка.

Скулка гаварыў выключна пра сябе. Даводзіў, што ён чалавек справядлівы, вельмі любіць рэзаць праўду і дзеля гэтага яго словы будуць ня ў нос. Успамінаў аб нейкіх 15 пудох сьнегу, аб «рывалюцыі, сыцылізьме і аб трох мерках пазычанага жыта». Сваю прамову закончыў прапановай:

— І прашу таварыша з цэнтру сказаць, чаму я ўвосень аддаваў вам хлеб па 50 кап., а цяпер мне аддаюць гэты самы хлеб па 1 р. 50 к... І прашу яшчэ сказаць таварыша з цэнтру, хто ў гэтым павінен: мы ці піонэры... І гэта прашу мне сказаць... Маё ўсё!

— Ня слухайце вы яго, ён вядомы зяўло. Крычыць, халяву сваю распусьціўшы! Братцы, угаманеце яго!

Гэтыя словы падлілі масла ў агонь. Усё набалелае, уся бруда жыцьця падкацілася да сэрца Сёмкі. Пачаў крыўдзіцца, што людзі зусім зьбядненіся, ня маюць нават, на што газы купіць, а калі й давялося чарвяку на вяку, дык і то вочы колюць.

Пачаўся агульны тлум. Усе спынялі Скулку, адны мякка, другія строга, а ён не супакоіўся.

Ніякага прэзыдыуму ня было, ніхто не сачыў за парадкам, бо гэтага не хацеў менскі таварыш. Апошні зусім проста папрасіў выказвацца, толькі адзін за другім. Гэта падзейнічала.

— Ён зусім не датклівы! Нават Скулцы нічога ня кажа,— гаварылі сяляне, і зьявілася ахвота пагаварыць.

Скулка зноў дамагаўся гаварыць.

— Кінь брахаць, а то ад тваёй брахні ў мяне вока забалела!

Урэшце ён супакоіўся. Пачалі выказвацца другія. Больш гадзіны гаварылі сяляне, якія быццам і забыліся, што тут ёсьць таварыш з цэнтру. А ён сядзеў за сталом, уважліва прыслухоўваўся да таго, што казалі, шпарка запісваў, і ніхто на гэта не зьвяртаў увагі. Вочы яго гарэлі здавальненнем, што ўдалося разварушыць сьпячых, прыцягнуць іх да шчырай бяседы.

З іх заблытаных выступленьняў ён вылоўліваў канкрэтнае жыцьцёвае пытаньне і заносіў на паперу.

Сяляне казалі, што яны ня лаюць Савецкую ўладу, што яны пэўны ў тым, што ў цэнтры іх дабрадзеі, але іх вясковае жыцьцё не наладжваецца, бо дагэтуль да іх варочаліся не тварам.

І калі прыежджы пачаў адказваць на пытаньні, маўчалі ўсе, нават Скулка. Позна ноччу выходзіў ён з хаты-чытальні.

Пелі пеўні, заліваліся сабакі. Ціха гаманілі сяляне. Скулка сказаў на разьвітаньне:

— Я нічога супроць таварыша з цэнтру ня маю, бо ён гаварыў з намі, як з людзьмі.

І нешта новае, моцнае, сьвежае, як вясновы вецер, ахапіла іх думку.

— Можна лепей жыць — гэта праўда!

I.

МЯСТЭЧКА КАРОЗА ў нязвычайным ажыўленьні. Рыхтуюцца ўсе да валаснога зьезду Саветаў. Ужо тыдзень, як кожны дзень па ўсіх установах пасяджэньні, пасяджэньні, пасяджэньні. Ужо па ўсіх вуліцах налеплены «чорныя сьпісы». Ужо народ цэльны дзень таўчэцца ў Выканкоме з усялякімі справамі па перавыбарах.

Вось і сёньня грамадзяне мястэчка з зацікаўленасьцю ўбачылі, як да Выканкому падскочыў на вараненькім коніку нейкі прыгожы мужчына ў бліскучай, туга зацягнутай, міліцэйскай вопратцы.

— Хто ж бы гэта? — пыталіся з усіх бакоў.— Нешта мы яго ня ведаем.

— Ды як жа-ж! Гэта-ж т. Шмыцік, з павету,— адказаў нехта.— Ён прыехаў як сябар выбарнай камісіі.

Некалькі зацікаўленых грамадзян папёрліся за ім усьлед, як быццам па сваёй справе. Яны ўбачылі, што ў Выканкоме яго сустрэлі з прывітаньнем, як жаданага гасьця.

II.

Як увайшоў т. Шмыцік, дык пасыпаліся з усіх бакоў пытаньні. Ён разьвязваў іх і на ўсе адпаведваў катэгарычна і проста. Гэта ўсім спадабалася.

— Бачыш ты, як рэжа,— шапталіся сяляне.

Тут жа каля стала старшыні стаяў у парванай шынельцы рэжысёр мясцовай трупы т. Пячурка. Яго перад прыездам т. Шмыціка гукнулі наконт пастаноўкі спектаклю да зьезду.

Убачыўшы яго, прыежджы цікаўна зірнуў на Пячурку, быццам пытаючыся: хто гэта? Старшыня папярэдзіў:

— Гэта наш мясцовы рэжысёр трупы, мы яго пазвалі, каб папрасіць што-небудзь зрабіць для зьезду.

— Ага! гэта добра! — сказаў т. Шмыцік.— А што ж вы пастановіце?

— Вялікай рэчы ў нас цяпер ня маецца, не падрыхтавана, але ёсьць невялічкая ды вельмі цікаўная рэч, асобна для сялян. Магу быць пэўным, што яна спадабаецца, як ніякая іншая,— казаў Пячурка.

— Што ж гэта за п'еса? — запытаўся т. Шмыцік.

— Гэта беларуская п'еса ў 2-х актах. Ды вось т. старшыня ведае: яе ў мінулую нядзелю ставілі — і ўсе былі здаволены!

— Якая-небудзь бязьдзеліца, вясковы жарт? — перабіў Пячурку прыежджы.— Народу трэба ставіць сур'ёзную рэч, асобна для зьезду, дзе будуць больш свядомыя грамадзяне... А як назоў п'есы?

— «Паўлінка». Вы, пэўне, ведаеце яе. Як каму, а мне здаецца, што гэта п'еса — добры малюнак з жыцьця сялян і ня можа не спадабацца. Ды ў нас і нямашака ў сучасны момант іншай п'есы, падрыхтаванай так, як гэта.

— Вельмі шкода,— тонам дырэктара сказаў т. Шмыцік,— я, у прыватнасьці, нічога ў гэтым беларускім руху ня кемлю і нават не разумею, нашто ён... «Паўлінка»? Першы раз чую? Я бачыў вельмі шмат п'ес і ведаю ўсе славутыя п'есы, але гэтай ня бачыў і ня чуў пра яе... Чаму вы не паставіце якой-

# АБСТРЫКАЎСЯ

(З жыцця Усходняй Беларусі)

небудзь п'есы Талстога. Магутны талент. А то драбязгу...

— Талстога? Напрыклад, якую?

— Якую? Якую?.. Ды хоць-бы...— Шмыцік замяўся і аж пачырванеў, бо, як на зло, ня мог успомніць.

— «Власть тьмы»,— падказаў Пячурка.

— Ага-ж, ага-ж! Во гэта рэч!

Пячурка нічога не адказаў і тольські крыху ўсьміхнуўся. На некалькі хвілін працягнулася маўчанка. Т. Шмыцік куры́ў і круціў свае даўжэнныя бялявыя вусы.

— Дык у вас нямашака іншай п'есы? — перарваў маўчанку прыежджы.— Я зноў кажу: усе славутныя п'есы я ведаю, а гэтай і ня бачыў, і ня ведаю, падойдзе яна ці не... Як вы думаеце? — звярнуўся ён да сяброў Выканкому,— вы бачылі яе?

— Бачылі,— стараючыся папасьць яму ў тон, а тым часам, каб не зачапіць і Пячурку, адпавядаў адзін з іх,— п'еса так сабе. Нічога благога няма. Сьмешна дужа.

— Ведаеце што? — адвалокшы троху ўбок Пячурку, пачаў гаварыць т. Шмыцік.— Я спрачаюся па тэй прычыне, што гэта можа пашкодзіць, радзіць нацыяналізм, што зусім нежадана. Я чуў, што ў вас тут «рух» падняўся і што стварылася нейкая ініцыятыўная група, якая парашыла як можна часьцей знаёміць грамадзян з «рухам». Трэба асьцярожна гэта рабіць.

Пячурка ніяк не разумеў, у чым тут справа, і ўпарта стаяў на сваём. Ён быў дужа прастадушны чалавек і ня бачыў, як коса пераглядаліся яны між сабой.

— Ну, калі іншага нічога няма, дык, мне здаецца, можна і гэту,— сказаў урэшце старшыня і, зьвярнуўшыся да т. Шмыціка, кінуў: вы самі будзеце рагатаць... Пабачыце.

На тым і парашылі.

### III.

Калі выйшаў за дзьверы Пячурка, пачалі гутарыць між сабой аб гэтым зваліўшымся як з неба «руху». Тав. Шмыцік дапытваўся. Яму цікаўна было даведацца, як гэта ў такім цёмным кутку нешта дзіўнае робіцца.

— Хто-ж яшчэ тут у гэтым гуртку?

— А бадай што ўся інтэлігенцыя,— казалі яму,— жанчына-ўрач, хоць яна і яўрэйка, каморнік, лясьнічыха, настаўніцтва і шмат вучняў.

— Гэта дужа цікаўна,— працягнуў т. Шмыцік,— толькі трэба сачыць, а то яны яшчэ пойдуць не па правільному шляху. Трэба сачыць.

Гутарка зноў перапынілася, бо прыйшлі прадстаўнікі прафсаюзаў, каб супольна з прыехаўшымі з павету сябрамі намеціць кандыдатаў у праўленьне саюзу і потым зацьвердзіць іх на агульным сходзе.

Намячаюць кандыдатаў.

— Ад працаўнікоў асьветы кандыдат т. Варонка,— вымаўляў старшыня прафсаюзу.

— А хто ён такі? — пытаў т. Шмыцік.

— Ён, пэўна, таксама падтрымае рух?

— Не, ён не падтрымае, але з імі ў цеснай сувязі і дужа дружыць,— казалі яму.

— Ну, дык трэба пачакаць, а то, здаецца мне, ці няма тут і контррэвалюцыі... Трэба ўсё рабіць аглядаючыся, трэба быць вельмі асцярожным.

Гэткім чынам кандыдатура Варонкі была скасавана.

### IV.

Вечар. Вялізарны местачковы тэатр блішчыць ад газа-калільнага асьвятленьня. У нязвычайнай урачыстасьці адбываецца зьезд. З напрудным інтарэсам сяляне слухаюць выдатнага прамоўцу сакратара Укому, толькі прыехаўшага. Ён кажа аб міжнародным становішчы. Ціха, ціха, можна чуць, як муха праляціць. Бура воплескаў.

Потым справаздача Выканкому. Ні жаднай спрэчкі. Поўны давер уладзе.

А ў вуборнай рыхтуюцца к спектаклю. Мажуць твары, прылепліваюць вусы, налепліваюць насы...

У перапынку сакратар Укому пытае сакратара вал'ячэйкі:

— Якую п'есу ставяць?

— Беларускую «Паўлінку».

— Вось як! Гэта дужа цікаўна! Гэта трэба ўсялякім чынам падтрымліваць! Бо вам, мусіць, вядома, што чым бліжэй к народу, тым лепей! Гэта дужа цікаўна, дужа добра!

Тав. Шмыцік, чуючы гэта, паморшчыўся, але нічога не вымаўляў. Ён бегаў туды-сюды, забягаў туды, дзе былі артысты, глядзеў на іх цікавыя старадаўнія вопраткі і дзівіўся.

Ад нечага рабіць удзельнікі спектаклю гучна пелі беларускія песьні. На яго ніхто не звяртаў увагі, бо ўжо дайшла чутка аб яго адносінах да спектаклю.

Урэшце тав. Шмыцік ня вытрываў і пачаў казаць, зьвярнуўшыся да запявалы:

— А мне дык зусім не падабаюцца беларускія песьні, у іх мала музычнасьці... Нуда, жаль, сум... Трэба вясельля, радасць...

— Няма музычнасьці?.. У гэтым кірунку музычныя аўтарытэты нязгодны з вамі! Папытайце расейскіх кампазытараў! Апрача гэтага, ёсьць ня толькі сумныя песьні, але і жыцьцярадасныя і шмат гумарыстычных.

Спрачаліся доўга, упарта, і кожны застаўся пры сваім паглядзе.

### V.

Дзінь! Дзінь! Дзінь! Усё гатова. У будку падказчыка палезла жанчына-ўрач. Заслона ціха паднялася ўгару. Ціха, ціха стала ў тэатры. І калі толькі выходзілі Пранцысь і Агата, дык усе аж зубы сашчэрвалі, бо і рагатаць хацелася і слухаць яшчэ больш.

Сакратар Укому ажна зьехаў з лаўкі на мост. Ды і т. Шмыцік, каторы сядзеў, прытуліўшыся да нейкай местэчковай пышнёхі, таксама трымаўся, трымаўся, але мімаволі стаў пукацца ад сьмеху.

Яшчэ ніколі тэатр ня бачыў такога перапоўненага сходу і гэткай буры воплескаў. Аж абурэлі, звар'яцелі ад шчырага пляськаньня.

### VI.

Павятовыя госьці паехалі. На разьвітаньні сакратар Укому гаварыў удзельнікам спектаклю:

— Я ніколі ня бачыў больш цікаўнага спектаклю, як гэты! Трэба вам працу пашырыць! Цяпер я бачу, што гэта не пустазвонства!

— Але ж т. Шмыцік, здаецца, ня так думае,— пачалі гутарыць.

— Шмыцік? Ха-ха-ха!.. Ён добры арганізатар, толькі ня чуткі. Не зьвяртайце на яго ўвагі. Ха-ха-ха. Пачакайце... Я яму накладу за гэта.

### VII.

Тав. Шмыцік яшчэ застаўся ў мястэчку. Ён валачыўся за ўсімі пышнёхамі, круціў ім галовы, даваў ім шмат абяцаньняў без усялякай задняй думкі выканаць іх. Яны аж млелі ад жаданьня пазнаёміцца, а можа часам і больш інтымна зблізіцца з ім... Ды яшчэ пры ўсякім выпадку дражніўся з прыхільнікамі беларускай мовы. Дражніўся да тых пор, пакуль не паехаў.

І калі ён ехаў з мястэчка, па дарозе сустрэў сакратара вал'ячэйкі. Ён вяртаўся з губзьезду і прывітаў Шмыціка зычным рогатам:

— Ці ведаеш навіну? Наш-жа павет далучаецца да Беларусі! Ха-ха-ха! Цяпер табе трэба будзе вучыць беларускую мову! Ха-ха-ха!

— Брэшаш,— казаў т. Шмыцік, але, зірнуўшы ў вочы сакратара, і сам зарагатаў.

— У паветры насілася,— толькі і вымаўляў т. Шмыцік.

— А што, абстрыкаўся,— кінуў яму ўдагонку сакратар і паехаў далей.

У гуртку доўга рагаталі.

«Жыль-Блаз у ролі палітыкана».



Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



Алена ВАСІЛЕВІЧ

# ПТУШКІ НЯБЕСНЫЯ

СУЧАСНЫ МАТЫЎ

ДАЎНО не гасціла я ў Бабічах. Даўно не бачылася з Верай-карэспандэнткай. А гэтым летам зноў давялося наведацца да яе. Некалі Вера Капуста была актыўнай чытачкай і аўтаркай часопіса, дзе доўгія гады працавала і я.

Гэта былі яшчэ тыя часы, калі на калгасных палетках колас гнаўся за коласам і працадні-«палачкі» важылі не болей, як аўсяная палова. Старшынь жа калгасаў па «закліках» (трыццаці-, пяцідзесяціtысячнікаў) і без «заклікаў» — з в е р х у — вазілі сватаць па калгасах і тасавалі, як карты у калодзе.

Ды ці толькі сваталі і тасавалі — з в е р х у — старшынь калгасаў?

Вось мы цяпер бясконца паўтараем словы: «застой», «прыгоннае права», «маўчанне»... Выносячы пры гэтым агульнае асуджэнне і самому часу (як быццам ч а с сам па сабе можа быць у нечым вінаваты), і ўсім людзям, хто жыў у тым часе.

Рознае было м а ў ч а н н е. Як розная яна ў нас сёння, услаўленая ўжо ўсім светам і наша г а л о с н а с ц ь.

Здаралася ж, хіба не было такога, што і ў тым задушным здранцвенні ўзмахвала раптам абвялым крыллем і абзывалася на ўвесь свет белая варона.

— Кр-рыўда! Кр-рыўда кр-ругом! — на ўвесь свет гарлала белая варона, адна-адзінюткая седзячы на сухім суку.

І усе астатнія вароны кругом, пабойваючыся гэтай адважнай дурноты, спадціцка дражнілі яе і бокам старaніліся белай вароны. (Няхай табе зарве!)

У Бабічах белай варонай была мая карэспандэнтка Вера Капуста.

На калгасным сходзе, ну ні за што ж не вытрывае, як быццам цягне яе хто за язык, выступіць і пры ўсіх людзях, проста ў вочы так і сыпане, як жарам, усю, якая б ні была яна, праўду — і ў першую чаргу, калгаснаму начальству! І старшыні, і парторгу, і брыгадзіру... (Уласнымі вачамі бачыла, як скінуў трактарыст мех збажыны ў брыгадзіраў двор цёмна вечарам, калі вяртаўся з поля, з сяўбы). Ну, то за гэта ж самае і паплаціцца добра: каня ўзараць «соткі» ці завезці дзіця ў раён да доктара ў таго ж самага брыгадзіра яна ўжо не дамоліцца. Не!

А заступіцца за суседку — гэтакую, як і сама, удаву-гарапашніцу,— у тае хату ніякія падпоркі ўжо не трымаюць і страха, як рэшата, а як самі сабе і ўсёй радні сваёй дык і старшыня калгаса, і парторг павыбудоўвалі палацы пад шыферам!.. То і суседцы не столькі дапаможа, як нашкодзіць: хто бярэцца ў адвакаты!..

І тады белая варона зноў узбіваецца на свой сухі сук і сама сабе пратэстуе на ўвесь свет:

— Кр-ругом кр-рыўда!.. Кр-ругом кр-рыўда!..

Пасля сходу, вярнуўшыся да сонных дзяцей, у сваю выстуджаную хаціну,— будавалі яе яшчэ перад вайной, разам з гаспадаром, няподаўгу, як пажаніліся,— сама настылая і скрыўджаная, Вера лезе на печ, ўгравае на цёплым ад раніцы чаране ногі, дастае з-пад бэлькі агрызак хімічнага алоўка і аркуш у «клетачкі» з сынавага ці даччынага школьнага сшытка... Прыладзіўшы да пісання дзежачку-бліноўку, тут, на ўласнай надзейнай печы, яна кідаецца зноў караць крыўду і шукаць праўды на свеце. Піша ў рэдакцыю!

З рэдакцыі ў Бабічы прыязджае карэспандэнт праверыць факты. Карэспандэнт, вядома, пытаецца і адшуквае Веру, заходзіць да яе ў хату. А людзі ж у вёсцы ўсё гэта бачаць і чуюць і ведаюць пра ўсё лепей за Веру і карэспандэнта. Людзі празываюць карэспандэнткай і самую Веру. І ў вёсцы гэта ўжо на ўсё жыццё.

...Даўно не гасціла я ў Веры-карэспандэнткі. І вось сядзім мы з Верай у яе садку, на траве пад грушай. Вера пляце ў вянкі сухую — кожная галоўка па добрым кулаку — цыбулю, я перабіраю грыбы. Хлопцы, Верыны ўнукі, прынеслі два кашы, як паднясь. Самі цяпер палуднуюць у хаце.

Непадалёк ад нас, абапершыся на плот, стаіць Верына ятроўка, глухая Фрося. Некалі, яшчэ перад самай рэвалюцыяй, Мікалай, Верын дзевер, ездзіў у Амерыку ў заробкі. Там ён ажаніўся і дадому прыехаў з маладой жонкай з дзіўным нетутэйшым імем Фрэнсіс. У Дуброве імя гэта ніхто запомніць не мог, і зваць яе пачалі — з мужавай хаты, з сям'і звычным мясцовым імем Фрося. З часам, з гадамі і сама яна прывыкла да яго, а тое імя, якое было ў яе ад нараджэння, калі і ўспаміналася ёй, дык ужо не інакш, як далёкая несапраўдная знічка.

Фрося, хоць на двары і цепльня, хоць і ніводная галінка на дрэве не скалыхнецца ад ветру, у цёплай, яшчэ не вынашанай ватоўцы, у суконнай хустцы (ёй заўсёды холадна ў гэлаў), але босая.

— То зайдзеце, пасядзеце! — гукае Фросі Вера і паказвае на ўкапаную, тут жа ў садку пад грушай, лаўку і цішэй дадае: — От жа будзе стаяць, нічога не чуючы.

— Што ты кажаш? — як і ўсе глухія, гучна пытаецца Фрося. Яна да малодшай ятроўкі звяртаецца на ты.

— Кажу, пасядзеце! — яшчэ мацней крычыць Вера.

Фрося адмоўна круціць галавой:

— Карову трэба ісці даіць.

— А Надзя што — не здалее падаіць? — пытаецца Вера, але ўжо не на ўвесь свет, не на ўсю вуліцу. Непадалёку можа аказацца і сама Надзя.

— Учора наша карова на пáшы нагу прабіла,— кажа Фрося.

— То віцінару няхай бы Толя пазваніў! — гукае Вера.

— Я сказала Надзі прамыць нагу карове карасінай, дык і яна, і ён як навaліліся на мяне! — з крыўдай кажа Фрося.

— Дзіва што яны паслухаюць яе! — абурана адклікаецца Вера.

— Дык гэтак жа заўсёды рабілі,— кажу я.— Пакуль твой ветэрынар прыедзе...

— Вядома! Але ж маці сказала...— кіпіць Вера.

— Пайду...— неяк вельмі пакорна кажа Фрося, не рухаючыся, аднак, з месца.— Грыбоў вунь колькі вашы хлопцы назбіралі... А я сваім як скажу, каб Волечка з Алікам збегалі ў лес, дык гэтыя абое як накінуцца на мяне!.. «Няхай дзеці ў двары гуляюць!..» Няхай гуляюць... Гэтулькі грыбоў і ягад сёлета ўрадзіла... У гэту пару дзеці зроду з лесу не вылазілі. Бывала, і мае — Толя і Генік-нябожчык...

Малодшы Фросін сын Генік з зімы сорак трэцяга ляжыць на вясковых могілках. З партызан. Прыходзіў з таварышам дадому з лесу ўзяць харчоў і цяплейшага адзетку. І нарваліся на немцаў.

— Але ж каго ты ўгаворыш, хто цябе паслухае,— гэты Фросін папрок чуецца ўжо недзе з двара, з-за хаты.

— Не ладзяць з ёю маладыя?

— Не дай божа!.. І скажэце вы, трэба ж каб гэтакі лёс стрэў чалавека... Дзе тая Амерыка, адкуль узяўся ў ёй наш Мікалай, і трэба ж было ёй з ім там стрэцца... А сюды як прыехала! Свякруха і свёкар на Мікалая: «Каго ты прывёз! Яна ж сярпа трымаць у руках не ўмее...». Дзіва што не ўмела! Дык каб жа толькі аднаго сярпа... А сена грэбці... А прасці, а ткаць, а карову даіць... І ўся ж сям'ішча свёкрава ў адной хаце! А тут жа і дзеці пайшлі... Добра, што Мікалай з тае Амерыкі з грашыма прыехаў, дык здолеў пабудаваць сабе добрую хату, і аддзяліліся... А потым пачаліся калгасы. А потым... Людзей кругом, па засценках, пачалі хапаць. Прыехалі аднойчы ўначы і Мікалая схапілі. Чорны воран, як тады казалі. І як у ваду шчабоўкнуў чалавек! Ні слова, ні гуку яна ад яго не дачулася. Хадзілі чуткі, што нехта з горацкіх атрымліваў пісьмы з Усурыйскага краю, дык нібыта недзе стрычаў там і нашага Мікалая... Гэта і я тады была ўжо ў іх сям'і — замужам за Мішам. Добра памятаю, як мы з Фросяй ездзілі на кані тады ў Горкі прапытваць у людзей, з тых пісем, хто яго дзе страчаў ці бачыў... Але нічога путнага так і не даведаліся, ніякага адрасу. І ён сам не абазваўся...

— Ну, і як яна — адна?..

— Як... Як усе! У калгасе за пустыя працадні душылася на рабоце... Двое ж хлопцаў засталося і дзяўчо — яно-то нядоўга жыло... Накармі. Абуй. Апрані. Ды і вучыць жа трэба было! Іх род, Мікалаеў і майго Мішы, вельмі ж усе ўдалыя былі ды здатныя да навукі... Яна і сама, вядома ж, дзе ёй было зраўняцца ў працы з іншымі спрытнёхамі... Але, не паверыш, і яна ў калгасе за дзень таксама па загону жыта выжынала...

— А хлопцы?

— Хлопцы ўдалыя, я ж кажу, былі! Вучыліся абодва добра. А як пачалася вайна — абодва адразу ж у партызаны падаліся. Генік, небарака, у сябе на двары так і застаўся ляжаць, прастрэлены. А таварыш уцёк. Здолеў! Мой Міша паспеў яго непрыкметна зачыніць у хлеўчыку — там у нас авечкі стаялі.

— А Толя?

— Толя таксама не раз быў пад кулямі. Але бог міласаў... Пасля вайны на агранома вывучыўся. Ай-ёй, які завідны быў хлопец! І маці шкадаваў і добра адносіўся... А як ажаніўся, скажэце вы, дык усё роўна як зрабіўся другім чалавекам. Праўду кажуць: села шаптуха ля вуха — няма ў мацеры кажуха!

Я мыю ў вядры грыбы, раскладваю ў міскі: асобна асавікі, асобна бабкі, сыраежкі...

— Ты ж хоць, якія пойдуць сушыцца, не мый у вадзе,— наказвае мне Вера.

— Я толькі тыя, якія марынаваць і смажыць.

— Добра, што ты падскочыла, паможаш мне з грыбамі, а то ж гэтых маіх вужовікаў не пасадзіш ніводнага. Бегчы ў лес, збіраць — дык і будзіць іх не трэба. Самі, як спружына, абодва ўскакваюць. А як перабіраць, то ўжо такая ім лянота... А цыбуля гэты год зрадзіла таксама! — без усякага пераходу кажа Вера і ўзважвае на руцэ цяжкі, як з бляклага золата адліты, вянок.— Возьмеш і сабе, дык на паўзімы хопіць... А мой жа Міша, скажы ты,— успамінае яна,— некалі цыбулі не тое, што ў рот не браў — на дух не пераносіў. Я і не садзіла пры ім яе ніколі. Бывала, дзіця каторае забяжыць да мамы — у нас дома цыбуля заўсёды расла, як лаза! — дык дзеці ўжо латашылі яе! То і мае не адставалі. Я ж, як замуж ішла, дык вось толькі перайшла гэту самую вуліцу... Свякруха, тая вельмі ж ужо любіла дачыных дзяцей. А Фросіны і мае былі ёй як чужыя. Дык мае, як малыя былі, ад мамы і не вылазілі. То



Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

хто б гэта там пільнаваў ад іх тую цыбулю... Дык ён выганіць дзіця з-за стала, калі пачуе цыбульны дух...

...І Мішы яе даўно няма. Міша таксама быў сувязным у партызан. З Пагоста, з млына, муку ім вазіў у лес. Перадаваў таксама лякарствы — фельчарка з амбулаторыі даставала. З возам мукі і перанялі яго паліцаі. І ў тым жа годзе, як і Фросінага Геніка, расстралялі пад Некрашоўскім лесам.

Нашу гамонку з Верай перабівае, глушыць трэск матацыкла. Матацыкл спыняецца на вуліцы пад Верынымі вокнамі.

— Лёня! — чуецца высокі хлапечы голас.

— А каб ты спрах быў, каб ты! — нязлосна абураецца Вера і крычыць на вуліцу: — Гэта табе гэтак цяжка прайсці нагамі сто крокаў, каб абавязкова ўзбіцца і тарахцець на гэтым чорце?

— Тэхнічны прагрэс, баба Вера! — над плотам, дзе толькі што стаяла Фрося, узнікае чырвоны бліскучы шлем-маска з металічнымі вачніцамі. Сам матацыкліст, як касманаўт усё роўна, у нейкім адмысловым блакітным камбінезоне з магнітафонам на жываце.

— А дзе Лёнька?

— Палуднуюць з Ігарам. З грыбоў толькі што прыцягнуліся,— адказвае Вера і пытаецца: — А нашто ён табе спатрэбіўся?

— Есць тэрміновая справа!

Матацыкліст адчыняе веснічкі ў сад і сцежкай, абсаджанай высокімі агністымі вяргінямі, кіруецца да хаты. Вакол хаты ў вокны заглядваюць млявыя белыя і ружовыя мальвы, густа палаюць цыніі, песціцца на сонцы малінавы мальвіны зеў і дробны россып белага рамонку... Жывы пахучы дыван!

— Чый гэта такі? — пытаюся я ў Веры.

— Хіба ты не пазнаеш пароды? Хамякоў шыбенік!.. У бабы з дзедам грошай чорт меха за спіну не закіне, дык бачыш, і гэты смаркач ужо нагамі па вуліцы не ходзіць. З каляскай матацыкла яму купілі.

— А бацькі як на гэта глядзяць?

— А што бацькі...— Вера недагаворвае.

— Здрастуйце вам! — чуецца з суседняга агарода.

Мы з Верай абарочваемся на голас.

— Госця прыехала, а ты яе адразу ў работу! — стоячы пад старой разгатай яблыняй, смяецца Верына суседка Надзея. З ёю мы таксама даўно і добра знаёмыя.

Па лапушному гарбузніку, па разорах, гупаючы гумавымі ботамі на босых нагах, Надзея кіруецца да нас — павітацца, пабачыць бліжэй Верыну госцю. Звычай вясковай непасрэднасці. Навошта чакаць запрашэння ці мо прасіць прабачэння або непакоіцца, што нехта будзе незадаволены, ці будзе крывіцца... Якая ў тым нямкасць ці нязручнасць — у звычайнай цікаўнасці?

З першага ж позірку я не то здзіўляю, не то вельмі ўжо засмучаю Надзею.

— А вой, а вой! І вам ужо на галаву зімка выпала...— выцірае фартухом і падае мне руку Надзея.— І навошта вам гэта? — паказвае яна на маю галаву.

— Ды гэта я, каб ад моды не адстаць, Надзея,— хачу я жартам адвесці ўбок яе расчараванне.

— Няўжо ж! Да мае сястры Волі — вы-то яе не ведаеце — на тым тыдні ўнучка з Гомеля прыязджала. У нейкіх банамах, у нейкай камізэльцы, што каб на агародзе павесіў, дык дальбог ніводзін бы верабей не прыляцеў... Але гэта што! Прыехала ўся сівая — куды вам да яе! У цырульні, кажа, пафарбавалі яе гэтак.

— У цырульні ўмеюць,— кажу я.

— Дзіва што ўмеюць! Дык паверыце, сястра мая, як убачыла яе, то галасіла, як па нябожчыцы... Гэта ж некалі такое дзіцятка было, з такімі кучаравымі цёмнымі коскамі...

— Ну, а сама ўнучка што?

— Што — унучка... Рагоча! Кажа, ты, бабушка, нічога не разумееш, ты адстала ад моды... А яна, бач, як скончыла гэтае вясны гандлёвы тэхнікум, дык яна ўжо не адстае!

— Клопат вялікі, няхай фарбуюцца, няхай носяць, што хочуць,— у Веры наконт часу і наконт моды свае меркаванне.— Пакуль маладыя! Я і сваім — і дачцэ і нявестцы — кажу: насіце!.. Стройцеся!.. А то яны хочуць, каб маладая дзеўчына насіла гэтакую мо як у нас, ватоўку. Ці чуні мо...

— Ды пэўна ж,— здаволеная падтрымкай сястрыной унучкі, згаджаецца і Надзея.— Некалі ж і мы строіліся...

— А хіба — не?! Галоўнае, што дзеўчына на свой хлеб выбілася. А калі яшчэ добры хлопец трапіцца, дык толькі тае і бяды, тыя яе валасы ці банамы! — канчатковую рысу падводзіць Вера.

— Ды пэўна ж,— зноў згаджаецца Надзея.— Ужо сама на сябе заробіць. Уга! Яна ж, дарма што гарадская дзеўчына, а паверыце, і пашыць сабе ўсё пашые, і мо ці не з год хадзіла на курсы, вучылася вязаць... Здольная, спрытная дзеўчына! Але ж, як той казаў, у жыцці хто едзе на снасці, а хто на шчасці...

— А то не праўда! — падтрымлівае Вера.

— Я за сваё жыццё мінюткі вольнае не згуляла, не зседзела без працы ў руках,— разгортвае далей тэму Надзея.— Ведама, застаўшыся з вайны з хатаю дзяцей, адной, удавою... Не вельмі, праўду сказаць, выгульвалася я і за сваім Аляксандрам. Ты ж, Вера, добра ведаеш, ён жа некалі не мінаў ніводнае гулянкі, ніводнае прыхільнае з прыхільнай бабай хаты... Але ўсё ж лічылася, быў гаспадар, быў у дзяцей бацька... А вазьмі ты маю залувіцу Маню. Дальбог, зроду рукавіцы гаспадару ці дзіцяці панчошкі не звязала. І нічога! Жыве сабе век за пані. Як Іван добры трапіўся.

— Яно ж гэтак... А твая Люба — хіба была спрытнейшая ці харашэйшая дзеўчына за яе? — кажа ўжо Вера.

— Вой, вой! За маю Любку няма мо нешчаслівейшай на ўсім свеце! Гэтакі ладрыга ёй дастаўся! Яна зранку на работу да сябе ў бальніцу — а ён у чаргу да віна-вадачных іздзеляў... Казала ёй гэтым летам, як яна прыязджала да мяне з дзецьмі з Рыгі ў водпуск: «Кідай ты яго, дачушка! Начорта ён табе здаўся... І так спапяліла на попел усю сваю маладосць!». Дык што вы думаеце яна мне адказала? «Шкадую, кажа, яго, дурня...». А за што дурня шкадаваць!.. Я, старая, а ў той бок, на яго, нават не зірнула б! А ёй, маладой, бач, шкада яго... Гэта цяперашнім светам, калі кожная жанчына сама сабе галава!

— Яно-то так...— Але што з тае, мая галубка, бабскае галавы, калі яна адна...— уздыхае Вера сама сабе.

З грукатам адчыняюцца дзверы — з сянец хаты выкочваюцца матацыкліст і Верыны ўнукі. Малодшы, як дзяўчынка, бялявы, сямікласнік Ігар. І старэйшы — ладны, смуглявы прыгажун, як з нетутэйшай усё роўна зямлі. Гэты перайшоў у дзевяты ўжо. Абодва рослыя, абодва ў выцертых дашчэнту джынсах, у стаптаных красоўках adidas. Не хапае толькі, як у матацыкліста, касмічных шлемаў...

— Баб! — гукае малодшы.— Мы знікаем!

— Куды гэта? — хоча ўстаць і не здолее адразу разагнуцца Вера.

— У Любічы...

— Чаго? — Верын голас набірае пагрозы.

— Есць справы,— дыпламатычна тлумачыць матацыкліст.

— Ведаю я твае справы! Не скруціў яшчэ сабе галавы і гэтым дурным таксама!..

— Баб, мы на выган толькі з'ездзім. Мы ў Любічы не паедзем,— супакойвае старэйшы ўнук.

— Запомніце мне абодва! — грозіць унукам Вера.— Прыедзе ў суботу бацька, і я вас абодвух, як міленькіх, адпраўлю дадому, назад у сталіцу!

— Бабуля, мы толькі на выган! — услед за старэйшым братам хлусіць і малодшы (трэба ім той выган!).

Спакой і цішу вуліцы зноў распорвае трэск матацыкла. Момант — і хлопцаў і след прастыў.

— Па цыгарэты, напэўна, у Любічы джганулі,— смяецца Надзея.

— Не, мае-то не кураць...— не вельмі ўпэўнена кажа Вера.

— Дзе ты іх там упільнуеш, кураць яны ці не кураць,— абыякава заўважае Надзея: дзякуй богу, у яе няма гэтага клопату — унукаў ды матацыклаў. Ёй дачка прывозіць на лета дзяцей — дык у яе абедзве дзяўчынкі.

— Гэта яны прыслалі іх мне сюды на адпачынак! — абураецца ўнукамі і іх бацькамі Вера.— Пакуль яшчэ гэты Хамяк не з'явіўся тут з матацыклам, то яшчэ нічога было. А зараз!..

— І бацькі яму дазваляюць?

— А што бацькі! — махае рукою Надзея.— Бацька круглы год у свірне — важыць ён там ці не важыць — на шалях. А маці таксама... Некалі вечна ў школу бацькоў на сход выклікалі — не хацела вучыцца. А зараз, бачыш, пры калгаснай канторы — убілася ўсё ж нейкай вучотчыцай. У белых басаножках ходзіць... І не трэба ёй ірвацца ні на той бульбе, ні на бураках або на ферме — у кароўніку, ці свінарніку...



— Ведама, парторгава пляменніца...

— І каб вы толькі ведалі, мая залатая,— ужо да мяне звяртаецца Надзея,— колькі яе, гэтае нішчае знаці, развялося зараз у калгасе!

— А на полі рабіць няма каму,— падхопліваe Вера.— Гэта ж усяго, дзякуй ім, шэфы з горада і ратуюць...

— Сэрца баліць, як успомніш, як мы некалі рваліся да працы, як трэсліся над кожным каласком, над кожным зерняткам у полі! Усю ж работу рабілі ўласнымі рукамі. Рубля, часам, за год працы не атрымлівалі. А ўсё роўна спадзяваліся на лепшае!

— А як бы ж мы яе выцяглі, тую сваю жытку, каб не спадзяваліся!.. А зараз і ў нашым калгасе — прорву тых машын розных накуплялі! Стаяць, іржавеюць без догляду... А дабро з поля, няўжо ж, памагаюць прыбіраць людзі з усяго свету!

Самі яны ўжо далей уласных агародаў хадзіць на работу не здалеюць. На пенсіі. Адрабіліся.

— Мы ўжо, як птушкі нябесныя... Не жном, не сеем...— і не разабраць, чаго больш у гэтай пакорнай Верынай усмешцы: спакою, суму ці жалю.

— Скажы яшчэ: і гнёздаў сваіх больш ужо не ўём...— з уздыхам удакладняе евангельскі і жыццёвы іх сюжэт Надзея.

— Адрабіліся. Як і не было таго жыцця... Раней мы — дзяржаве, а цяпер няхай ужо яна пра нас клапоціцца...

— У дзяржавы хапае клопату і пра нас, і без нас. Як ні ўключы і ні глянь у цілівізар, ды кругом адны толькі збыткі...

На вуліцы ля Верыных акон з ровам зноў спыняецца матацыкл.

— Ба! — чуецца яшчэ з двара захоплены голас малодшага Верынага ўнука Ігара.— «Верасы» прыехалі!

— Якія верасы?

— Ну, «Верасы»!.. Ядвіга Паплаўская... «У меня сестренки нет...» Ты ж яе любіш!

— Ну, дык што, калі люблю?

— Дык дай нам з Ігарам грошай на білеты!

— Во, з гэтага і пачынаў бы,— смяецца Надзея.

— Ба! Мы і табе купім білет! Загадчык клуба сказаў, што па старых прышлюць калгасны рафік.

— Дзіва што! Мяне там толькі і не бачыла тая ваша Ядвіга Паплаўская,— не пакідае рабіць свае работы Вера.

— Ба, нам трэба хутчэй ехаць па білеты, а то разбяруць! — настойвае Ігар.

Старэйшы Лёня не паказваецца. З дыпламатычнай місіяй адправіў малодшага брата.

— А вам бацькі пакінулі грошай на верасоў? — пытаецца ў Ігара Надзея.

— Дзіва што пакінулі! — тузаецца на месцы, ніяк не ўстане на хворыя ногі Вера.

А Ігару, слухаючы і назіраючы за гэтымі старымі, яшчэ больш не цярпіцца.

— Ну, хутчэй ты, ба!..

— Зноў палецце на злом галавы! — устае, нарэшце, з зямлі Вера і кіруецца, кульгаючы, сцежкай да хаты.

— Дык жа білетаў не будзе! — Ігар таксама ідзе ўслед за бабай у хату.

— Ой, застаялася я тут з вамі, гамонячы,— збіраецца ісці на свой агарод і Надзея.

Вера крычыць ёй з парога:

— Прыходзь, Надзея, вечарам да нас, цілівізар будзем глядзець!

— Калі датрываю, не засну,— смяецца Надзея.

— А чаму вам і сапраўды, калі прышлюць рафік, не з'ездзіць у клуб на канцэрт? — кажу я Надзеі.

— Ой, мая вы залаценькая, якія ўжо нам клубы патрэбны, якія канцэрты... Адспявалі мы свае! Адцвілі нашы верасы...

На вуліцы настырна бібікае матацыкл.

Калі ўжо гэта баба Вера адлічыць грошы на білеты?

# МЭТА ЎСЯГО ЖЫЦЦЯ

Паэт Генадзь Бураўкін нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне. Закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт па спецыяльнасці журналістыка. Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў. Член Саюза пісьменнікаў з 1961 года. Аўтар дзесяці зборнікаў на роднай мове і пяці кніг вершаў і паэм у перакладзе на рускую, украінскую мовы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Вершы паэта перакладаліся на многія замежныя мовы. Чытачоў нязменна вабіць да сябе як грамадзянска-публіцыстычная паэзія Бураўкіна, так і яго філасофская, пейзажная, інтымная лірыка.

Зараз Бураўкін — Старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню. Зразумела, нашых чытачоў не можа не зацікавіць свет думак і пачуццяў такой прадстаўнічай асобы беларускай грамадскасці: скажам прама, перш за ўсё ён паэт і застаецца ім у плыні хуткаплыннага жыцця.

Сваё крэда Г. Бураўкін выклаў так: «Мэта ўсяго майго жыцця і задача кожнага майго дня — служэнне роднаму народу. Яму я абавязаны прыналежнасцю да сумленнай, шматвяковай гісторыі, да добрай, чулай душы і высокіх гуманістычных ідэалаў продкаў і сучаснікаў. Без яго не ўяўляю я будучыні ўсёй нашай зямлі. У яго славу складаю, як умею, свае вершы».

**— Пачнём з тэмы, арганічна падказанай і вашай творчай спаведдзю і бегам жыцця. Вы працавалі над вобразам заснавальніка нашай дзяржавы У. І. Леніна. У гэтым вобразе вы ўвасобілі рэалізм яго мыслення і яго ўсведамленне высокай адказнасці за лёс Радзімы і чалавецтва... Перабудова — аднаўленне ленінскага вобліку сацыялізму — дынамічна развіваецца: каму, як не паэту, сваёй духоўнасцю паказаць, ці становіцца яна ўнутранай патрэбнасцю людзей, а не толькі знешнепалітычным працэсам!**

— Я думаю над пытаннямі, што такое канкрэтныя рэвалюцыйныя падыходы, у чым сутнасць ленінізму ў дзеянні, што такое Праўда, якая роля інтэлігенцыі ў грамадстве? Калі я разважаю, напрыклад, над вобразам Леніна, я выходжу, у прыватнасці, на тэму нацыянальнай памяці. Тэма гэта для мяне не толькі не старэе, але набывае новы сэнс: як народныя традыцыі, рэвалюцыйныя заваёвы зараз абнаўляюць і грамадскую, і асабістую самасвядомасць, як яны дапамагаюць ачышчэнню ад застою эканамічнага і духоўнага жыцця?

**— Праблема «каранёў», «вытокаў», «асновы», абагачэнне гуманітарнай памяці сына айчыны...**

— Войны, разруха, фашысцкая агрэсія не шкадавалі нашых культурных каштоўнасцей. Узяць слуцкія залататканыя паясы, унікальныя шэдэўры народнай творчасці. Падобных няма ва ўсім свеце. Але іх вельмі мала і ў Беларусі. Ходзяць чуткі, што бачылі іх у Англіі, у запасніках еўрапейскіх музеяў, але законнае іх месца дома, там, дзе іх ткалі беларускія жанчыны, уплятаючы ў іх фарбы роднай зямлі, аб чым так пранікнёна напісаў Максім Багдановіч у сваім цудоўным вершы «Слуцкія ткачыхі»...

Думаю, што ўтварэнне Савецкага фонду культуры дапаможа прывесці ў парадак многія разбураныя помнікі даўніны. Дзейнасць Фонду, бясспрэчна, будзе абвастраць пачуццё нацыянальнай годнасці, адказнасці за спадчыну продкаў.

**— Што вы скажаце аб публікацыях, абумоўленых перабудовай, незваротнасць якой замацавана XIX партканферэнцыяй, па праблемах развіцця сацыяльнай сферы, па пытаннях маралі, быту, навукі, культуры?**

— Перабудова, партканферэнцыя даюць нам, прадстаўнікам культурнага фонду, права на вялікую смеласць, адкрытасць. Зняты бюракратычныя табу на некаторыя тэмы грамадскага быцця. Калі раней мы ўцпіскалі факты ў рамкі звычных абстрактных схем, то цяпер глядзім на рэальнасць шырока адкрытымі вачамі. Гэта відаць, напрыклад, і з дыскусій, якія прайшлі на з'ездзе беларускіх тэатральных дзеячаў, на пленуме Саюза кінематаграфістаў Беларусі. Калі раней мы імкнуліся «прыцягнуць» жыццё ў нашы студыі, «увагнаць» у скамянелыя формы нашых уяўленняў аб ім, то цяпер яно само рашуча ўрываецца ў нашы рабочыя кабінеты,— і мы шчыра асвятляем пытанні адносін паміж кіраўнікамі і падначаленымі, праблемы быту і такую тонкую матэрыю, як унутраны свет людзей, іх пошукі і змаганні. І мы атрымліваем актыўныя водгукі нашых чытачоў, тэлегледачоў, радыёслухачоў. Мы, я б сказаў, дабіліся сатворчасці з імі і маем намер яе паглыбляць.

**— Вы вопытны кіраўнік: вам утульна з ініцыятыўнымі кадрамі, што вылучаюцца?**

— Больш даверу моладзі! Мы нярэдка папракаем яе у адсутнасці вопыту, але ж вопыт прыходзіць толькі з работай. Трэба выводзіць моладзь на самыя адказныя ўчасткі сацыяльнай дзейнасці. Тое масавае «старэнне» кіруючых кадраў, якое назіралася ў нас, з'явілася адной з прычын застою, пасіўнасці маладых людзей, іх грамадскай раўнадушнасці. Да гэтага часу некаторыя з аджыўшых сваё «старых» імкнуцца крыкамі аб перабудове ўтрымацца на ранейшых месцах. Але хіба могуць яны перабудавацца, калі ўсімі думкамі і справамі скіраваны ў мінулае!

Дарогу тым, у каго ёсць і маладосць, і талент, і розум! Таленавітая моладзь — найвыдатнейшая з'ява жыцця!

Так, мы ўскладаем вялікія надзеі на новы калектыў — ансамбль народнай музыкі, ён робіць першыя крокі. Ён створаны для прапаганды беларускай музыкі, нашага меласу. Творчыя кафедры прайшлі конкурс, гэта сапраўды кваліфікаваныя выканаўцы. У нас дрэнна складваюцца справы з тэхнічным абсталяваннем, не хапае электроннай апаратуры. Нашы запісы робяць ўражанне старамоднасці. А вось нашы салісты цікавыя! Я. Еўдакімаў, які спявае грамадзянскія песні, В. Пархоменка, якая таленавіта інтэрпрэтуе фальклор...

Сярод вылучэнцаў апошняй генерацыі магу назваць спартыўнага каментатара С. Новікава. Поўны энергіі А. Марозаў, яркі журналіст! Цікава працуюць у маладзёжнай рэдакцыі тэлебачання і радыё Н. Чайка, Ж. Літвіна. Паспяхова кіруе галоўнай рэдакцыяй інфармацыі радыё Л. Аноп. Асабліва ўдалыя ранішнія перадачы, больш стала палемікі, больш, калі хочаце, чалавечнасці: можна па тэлефоне ў працэсе перадачы звязацца з журналістам, паўплываць на сутнасць яго выказванняў.

**— Наша беларуская творчая моладзь вострa выступае па нацыянальна-моўнай праблеме...**

— У нас у рэспубліцы роднымі называюць дзве мовы — беларускую і рускую. Я не ўяўляю сабе паўнацэннага жыцця без рускай мовы, якая адкрывае мне скарбы вялікай рускай культуры і іншых культур свету. Гэта з аднаго боку. З другога — беларуская проза, паэзія, драматургія без перакладаў на рускую не мелі б такога масавага чытача, які ў іх ёсць. І ўдзячны я мове Пушкіна, Някрасава, Талстога, Дастаеўскага, Буніна за тое, што і мае сціплыя творы адзначаны ўвагай шматтысячных чытачоў.

Руская перакладчыцкая школа — адна з самых бліскучых. З-за каранной блізкасці паміж беларускай і рускай мовамі і народамі яна аказала асабліва вялікі ўплыў на нашых майстроў перакладу. Не сумняваюся, што Юрка Гаўрук, Язэп Семяжон, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін прайшлі «школу» Жукоўскага і Забалоцкага, Маршака і Пастарнака.

Наогул узаемадзеянне моў і літаратур — гэта вялікае шчасце. І калі ў нашай шматнацыянальнай краіне кожная мова — гэта залаты колас у снапе, то руская — своеасаблівае перавясла, якое аб'ядноўвае ўсе гэтыя каласы.

**— Руская літаратура служыць ідэйна-маральнаму ачышчэнню чалавека, і яна вам дарагая...**

— Перш за ўсё высокагуманнымі матывамі. У маіх любімых паэтаў заўсёды ў пашане павага да чалавека, давер да яго высокіх імкненняў. Вазьміце Пушкіна, Някрасава, Лермантава, Буніна, Маякоўскага. Ды і Дастаеўскі, даследуючы зло, шукаў у душах людскіх дабро.

Некалькі слоў аб ролі Максіма Горкага ў станаўленні Саюза пісьменнікаў СССР. З якой здзіўляючай чуласцю сусветна славуты пісьменнік адносіўся да першых вопытаў, першых крокаў, парасткаў новых, нараджаных Вялікай рэвалюцыяй літаратур! А Аляксандр Фадзееў, які чытаў практычна ўсё цікавае, што з'яўлялася ў савецкай прозе, і пісаў найпадрабязнейшыя, добрыя і строгія адначасна, пісьмы аўтарам! А дапамога Мікалая Ціханава ў прапагандзе савецкай паэзіі Сярэдняй Азіі і Закаўказзя! Я ўжо не гавару пра перакладчыцкі подзвіг такіх выдатных паэтаў, як Пастарнак, Ісакоўскі.

Хачу сказаць і пра свой лёс. Мяне перакладалі шырокавядомыя майстры М. Зянкевіч, Д. Кавалёў, Я. Хелемскі. Удзячны І. Шкляруску, Р. Куранёву, І. Бурсаву. Супрацоўніцтва з імі вучыла мяне даражыць родным словам, узважваць і правяраць праўдай кожны свой радок.

Такім чынам, пераклад... Гэта справа «узаемавыйгрышная»: і для таго, хто перакладае, і для таго, каго перакладаюць. Калі ўважліва ўчытацца, напрыклад, у вершы і паэмы А. Куляшова і А. Твардоўскага, можна знайсці відавочныя ўзаемаўплывы — у душэўных жэстах, у глыбінных матывах. Або — М. Ісакоўскі, які выдатна пераклаў па падказцы А. Твардоўскага славутую паэму «Сцяг брыгады» Куляшова: свет Куляшова не быў для яго чужы і, вядома ж, застаўся з ім, няхай толькі водгукам, назаўсёды. Або — «Палеская хроніка» І. Мележа. Без уліку яе вопыту немагчыма ўявіць сучасныя кнігі аб калектывізацыі любога савецкага празаіка. А творчасць В. Быкава — у многім яна прадвызначыла ўсю сённяшнюю савецкую прозу аб вайне. Пра гэта прама гавораць Ю. Бондараў, В. Астаф'еў, Р. Бакланаў. Або — вопыт М. Танка, П. Панчанкі, Р. Барадуліна, іх непаўторны паэтычны тэмперамент, безумоўна, улічваецца і рускімі, і ўкраінскімі, і малдаўскімі майстрамі.

**— Вы бывалі за мяжой, сустракаліся з суайчыннікамі. Што значыць для іх роднае слова!**

— Калі лёс закідвае чалавека далёка ад дому, слова застаецца для яго святой, залатой ніткай, якая нябачна звязвае яго з калыскай. Бываючы за мяжой, я сустракаўся з суайчыннікамі — і беларускае слова выклікала ў іх слёзы. Людзі былі самыя розныя, і лёсы ў іх былі розныя. Але для ўсіх роднае слова было вельмі дарагім і важным. Беларусы старэйшых пакаленняў імкнуцца перадаць веданне сваёй мовы дзецям, тым самым як бы змацоўваючы іх сувязь з радзімай.

**— Нашы народы прадэманстравалі перад усім светам прынцып новага мыслення — мір як вышэйшы ідэал жыцця...**

— Лепшыя вершы, песні на ўсіх існых мовах — аб міры, аб каханні, аб жыцці. Я не ведаю ніводнага сапраўднага таленту, які апяваў бы пакуты і смерць. Гэта ненатуральна.

Сённяшні дзень на зямлі трывожны, як ніколі. Над ім узняты тупы ядзерны кулак, які, калі яго не спыніць, знішчыць усё — і нашы гарады, і нашых дзяцей, і нашы песні. Таму я ўсімі сіламі душы сваёй падтрымліваю вялікі рух за мір, за супрацоўніцтва краін і народаў, за духоўны росквіт на планеце. Пара ўжо ўсім ясна ўсведоміць, што цяпер формула гранічна простая: мір — гэта жыццё, а вайна — гэта смерць. Для ўсіх на зямлі. Для ўсіх!..

**Гутарку вёў Валерый НЯФЕДАЎ, прафесар Мінскага інстытута культуры.**



Данута
БІЧЭЛЬ-
ЗАГНЕТАВА

# РОЗНЫЯ ГАЎІ

ТРЫПЦІХ

*Гаўя на санскрыце — лясны верабей.*

## 1. Легенда пра латвійскую Гаўю

Птушка Гаўя звіла на вяршыні гняздо.
Нізку пацерак зыркіх схавала ў гняздзе.
А з Нямеччыны чорны груган-ліхадзей
нізку ўкраў, крадучыся пад жухлай гвяздой.

Але ж глянуць карцела — які мае скарб.
А як пацеркі ўбачыў, аслеп і аслаб:
бурштыновыя кроплі ганяючы ледзь,
сэрца Латвіі торгала — ворагам смерць.

І груган на той свет, не ў Нямеччыну, ўцёк.
Гаўя ўпала з вяршыні на глістае дно.
Абагнула ракою гары шорсткі бок.
Ад чужынцаў стаіла дваістае дно.

Прасачыліся слёзы паўз горы-бурты.
А набіліцы кроснаў — прыбояў гурты —
слёз вуток прыбівалі да слёз,
і застыў
у таемных глыбінях мядовы бурштын.

## 2. Прыток Нёмана

Гаўя пушчы спрадвечнай ажно па калена!
Захлынае вясновай паводкай душу.
Вадаспадам за шчырай бяседай сямейнай
пакаленні ўстаюць пад праменнем дажджу.

Сумны голас жалейкі свідруе курганне
праз мураўку, дзірванне, праз тоўшчу
вякоў.
Ачышчае істоту дзікунскае гранне.
У пітэкантрапах бачу сваіх сваякоў.

Ды няўжо ў плыннай Гаўі тапіліся дўшы?
Між сястрынскімі мовамі ставілі мост?
Хто дубіўся, як дуб, каранёў не парушыў,
абуджае ў нашчадках нянавісць і моц.

Безыменны мой продак, трывалы,
маўклівы.
Ці няведанне шчасцем было сапраўды?
Можа люд занядбаны быў тым і шчаслівы,
што пра атам не чуў, не прадбачыў бяды?

Ад прыроды нясцерпнага час вымагае.
Напаўняюцца рэкі самотай магіл.
Убірае ў душу сваю родная Гаўя
несвядома, як маці, з Чарнобыля пыл.

## 3. Парозна

Аніякай лучнасці паміж намі.
Адгавеемся шчырасцю на сутонках.
Гаркаты пасмакуем,
хрустак з тваёй торбачкі —
падзелімся патаемным.

П'ю зеляноту вачэй,
лашчу вочы тваёю радзімкай —
і не гарачэю, бы крушніца.

Вопыт і кшталт акавіты
смакуеш, аднак не п'янееш.

Колькі ў душы заспаромлена
дабрыні, міласэрдзя, даверу, цяпла!
Што прыдбала, тым і дзялюся.
Што згубіла, аб тым памаўчу.
Ніякай даганы.
Процьму знайду і растрачу —
няма перад кім пахваліцца.
Вымерлі ўсе аднагодкі.
Ад начальнікаў і ад начальніц,
ад мяшчанства не маю заслоны.

Шчырая праўда — без мяне ты ніхто.
І лухта несусветная.

І ніякага шчасцейка мне без цябе —
адгасцявала, адшчасціла, адсвяткавала.
Ды ад шчасця ні плёну, ні клёку.

Праз гадзіну,
на досвітку,
ранкам суграным
пакідаеш мяне, я заплачу —
раўгеша.
Засну і прысню, што памерла.
Жыццё без цябе, як нябытнасць.
Як прачнуся, слязіну змахну
ад шкадобы да маці.
Горам дачкі ўдвая гарапашная маці.

Сэрцам шляхотным спагадаць буду дужым,
у падушку самотна, не на плячы, буду
плакаць.

Сэрца шляхотнае лепей,
чым сто дваццаць сем песень.
Ды яго не спяеш перад светам.
Уласным болем захоплены кожны.

Хацелася знікнуць між глею
ці ў хвалях прадоннае рэчкі.
Жанчын успаміны не грэюць.
Выстуджваюць цела дарэшткі.

Словамі, словамі, справамі
запоўню пустэчу — адсутнасць тваю,
о, Нёман адхлання майго,
павярнуся да Нёмана смерці.

Па дарозе падумаю — дзе ты цяпер:
з якой — ведаць не ведаю, бачыць не бачу,
уявіць не ўяўляю —
з тваёй маладосці замглёнай.
І не шкада мне ўжо яснага дня
і лагоднага сонца
і нават зажуранай Гаўі.
І нават сваёй прыгажосці.

Памкнуся і знікну ў мінуласць,
дзе рэчкай празрыстай сама я
са скрухай слязіну змахнула.
Мне шчасця Радзіма не мае.

Парозна.
Уроскідзь.
Аніякага зліву дзвюх рэк суіменных,
акрамя што сплываюць абедзве
крынічнай гаючасцю ў мора.

Пясчанае дно нашай Гаўі
і вочы людзей, што растуць ля яе,
празрыстыя.
Глізкае дно Гаўі латгальскай бурштынавай
двоміцца ад ледавеню.

Берагі нашай Гаўі
лагодныя, плыткія, дольныя.
Хадзі па сцяжынах, заплюшчыўшы вочы,
куляйся і абнімайся са жвірам,
нібыта з каханкам.
Каўзлівыя сцежкі гарыстых суклонаў
латвійскае сонечнакосай красуні
не кожны асмеліцца мераць.

Тутэйшы мужык
нібы з яйка сягоннечы вылуплены,
спяшаецца, нібы мядзведзь за вераб'ём,
не асмеліцца з жонкай сварыцца.
Ды вецер хіба закілзаеш
паміж частаколін у плоце!

А тамака жонкі прысушкай крынічнай
з пячоры Гутмана
законных сваіх як напояць з далоняў
сваіх —
то прысушаць да скону.
І самі нап'юцца з далоняў таксама сваіх,
не з мужчынскіх —
і вольніцу ад патаемнага чару трымаюць.
І Ружа Турайды
ўзмацняе сямейную вернасць з магілы.
Ці гэтак папраўдзе, ці на адвод вачэй —
крыём застаецца.

Душа народа — дно ракі,
што гадуе народ.
Рака прабіваецца з нетраў Радзімы
праз глыбы і грунту і часу.
Раку глыбіня спаталяе.
Ракой спаталяецца доля.

Любоў мая гоіць цябе,
нібы Гаўю крыніцы.
Вазьмі маё сэрца і незалежным застанься.
І Гаўя ўтапіцца спяшаецца ў Нёман,
аднак не мялее з любові.

Схавацца б за дні, за імёны.
Няхай белы свет не зважае!
Знікаю ў натоўпе — чужая.
І ты прада мною — знікнёны.



# НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## ГУКАННЕ ВЯСНЫ

Пасля мясаеду перад постам, гэта значыць на масленым тыдні, «гукалі вясну». Калі з'яўляліся першыя праталіны, дзяўчаты з Радзілавіч (цяпер Дзяржынск) ішлі на поўдзень у лес. Узрывалі снег, даставалі барвянок і плялі сабе вянкі. Іх упрыгожвалі стужкамі, кветкамі, перазімаваўшымі журавінамі і ўскладалі на галовы. Спявалі веснавыя песні, вадзілі карагод:

Вясна-красна,
Што ты вынесла?
Ой! Што ты вынесла?
(Паўтараецца кожны другі радок).
А я вынесла
Чэрэпок масла.
Чэрэпок масла,
Галава красна.
Гаршчок сыра,
Галава сіва.
Усе дзевачкі
Павыходзілі.
Адно аднае не вывелі,
Бо ў Галечкі дзіця малое.
Дзіця плачэ,
Калыхаць хочэ.
Гаршчок кіпіць,
Выкіпаць хочэ.
Устань, стары,
Пакалыш дзіця.
А я пойду
Дэй повесную.
Дэй повесную,
Дэй покрасную.

Самы вялікі вянок урачыста ўскладалі або закідалі на адзінокую грушку або бярозку, што стаіць на ўзгорку. Вакол дрэўца таксама вадзілі карагод з песнямі:

Ой, венчэ, мой венчэ,
Да зелёны барвенчэ.
Як я цебе звіла
Шчэ ўчора звечора
Да й на вішэньку однесла.
А моя маці ішла
Да мой венчык знайшла,
Да нелюбому оддала.

Спявалі таксама «Ой! Ужэ весна-веснячачка», «Бугай раве, на пашу хочэ», «Ой, поросці кропе» і іншыя. Тут жа пад дрэўцам на праталіне сядалі кругом (іншы раз удзельнічалі і хлопцы) і елі сыр, масла, кашу і абавязкова звараныя яйкі.

На масленым тыдні таксама выходзілі ў лес з упрыгожанай елачкай. Спявалі тыя ж веснавыя песні. Елачку з вянком хавалі ў лесе ад хлопцаў, а хлопцы яе шукалі і забіралі сабе вяночак.

У суседніх вёсках Букча і Тонеж ранній вясною хадзілі «чыркаваць», або спяваць «Чырку» (іншы раз таксама з елачкай). Былі рады малаку, варылі кашу, пяклі яйкі і ўсё бралі з сабою. Знаходзілі за вёскай высокія месцы, цёплыя бугры або сядалі ў лузе ці ў полі на «под», дзе стаяў раней стог. Частаваліся і спявалі:

Ой, выйдзем, дзевачкі,
На новае лета.
Зімавалі — не спявалі,
Весну ждалі...
Ой, чырочко-пташэчко,
Не залета далечэчко,
Не занось мойго венчыка.
Бо мой венчык-патрэбчык.
Братка жаніці,
Сястру замуж аддаці.
Сястру замуж аддаці,
Веселле спраўляці.

Веснавыя абрады запісаны ў Лельчыцкім раёне: у в. Дзяржынск у 1985 г. ад Цыбуліч Г. А. (1929), Алесіч М. А. (1929), Паповіч П. М. (1924) і інш.; у в. Букча ад Сушчык М. С. (1907), Гайкевіч Г. Ф. (1936) у 1987 г. і в. Тонеж ад Сафанавай Т. А. (1902).

## САКАВІК

1/16. С. Працяг ПАМІНАЛЬНІЦЫ (памінальнага, дзедавага, усяеднага тыдня) — тыдзень перад Масленкай.
3/18. Пт. МАСЛЕНЫЯ ДЗЯДЫ (Масаедныя, Паставыя, Дзедавая Пятніца).
6/21. П. МАСЛЕНІЦА (Масленка, Масніца) — пачатак масленага тыдня (пустога, развітальнага). ГУКАННЕ ВЯСНЫ.
9/24. Ч. АБЕРТАС (Паўрацэнне) — дзень паварочвання мядзведзя ў бярлозе. ВАЛОСЫ (Валося, Аўлас, Улас Тлусты, Крывы Чацвер) — свята язычніцкага жывёльнага культу.
12/27. Н. ГУКАННЕ ВЯСНЫ (Гувясна, Вясна) — апошні дзень масленага тыдня, дзень сустрэчы вясны.
14/1. А. АЎДАКЕЙ (Аўдокій, Яўдоха, Яўдокі, Галдакей, Аўдоцця Вясноўка) — дзень вясны. Гуканне вясны.
19/6. Н. ЗБОР (Ізбор, Узбор) — пачатак збору селяніна да выезду ў поле, нядзеля першага зборнага тыдня пасля масленіцы.
20/7. П. Дзень астранамічнага вясенняга раўнадзенства.
22/9. С. САРАКІ (Саракасвятыя) — дзень прылёту птушак («сарака выраяў»).
24/11. Пт. РЫГОР — вясновы дзень.
30/17. Ч. АЛЯКСЕЙ ЦЕПЛЫ (Аляксей Весняны, Аляксей, Алексій, Ляксей, Алісійкі) — цёплы вясновы дзень.

Народны каляндар складзены пераважна на матэрыяле Беларускага Палесся. «1/16. С.» і г. д. — азначае: даты па новаму і старому стылях, дні тыдня (П., А., С., Ч., Пт., Сб., Н.). У дужках падаюцца некаторыя назвы, якія вядомы ў розных рэгіёнах Беларусі.

## ПРА СВЯТЫ І ПРЫСВЯТКІ

Перад Масленіцай у чацвер — Валосы — каб жывёла была спраўная. На Валосы пяклі бліны ці аладкі, каб валы былі гладкі.

(Драгічынскі р., Клімчук, 1968).

На Аўдакей кажуць: прадзі, гультай, бо будуць голыя бакі, як не будзеш працї... У Аўдакей садзілі памідоры на расаду і трымалі на акне.

(Лельчыцкі р.)

Саракі... Гэта ўжо зусім вясна, бо ўжо з выраю прыляцеў жаваранак. На Сараці пякуць галушкі з прэснага, а часамі з кіслага цеста. Гэта жаваранкі. На Сараці прыкмячаюць, што калі ў гэты дзень бывае замаразак, то чакай цяпер дваццаць дзён марозу, а калі не, то яшчэ будзе сарачня маразоў.

(Случчына. Сержпутоўскі. 1930).

На Аляксея лёд такі слабы, што яго і рыба разаб'е хвастом. (Рэчыцкі павет, Пяткевіч. 1938).

На Рыгора зіма ідзе ў мора. (Прыказка).

## РЭЦЭПТЫ СЯЛЯНСКАЙ КУХНІ

**Каўбасы сялянскія** — традыцыйны старадаўні мясны кулінарны выраб. Кавалкі свежага свінога мяса (не вельмі тлустага) аддзялялі ад сухажылляў, рэзалі на больш дробныя кавалкі і перакручвалі на фарш, да якога прымешвалі невялікія кубікі свежага свінога сала, затым дабаўлялі спецыі (падпражаны патоўчаны кроп, каляндру, дробна пасечаныя долькі часнаку, духмяны перац, соль). Спецыі раўнамерна перамешвалі з мясным фаршам і набівалі ім добра вымытыя чыстыя тонкія кішкі, парэзаныя на часткі, якія потым завязвалі з абодвух канцоў суканымі льнянымі ніткамі або шпагатам. Кожнае колца мела ў акружнасці прыкладна 40—50 см. Затым кольцы замацоўвалі на невялікай жэрдцы і падвешвалі пад страху пабудоў на прасушку, завяльванне на сонцы або над вусцем печы, пад бэлькамі сенцаў.

Такім жа фаршам туга набівалі свіны, вычышчаны і добра вымыты страўнік, які зашывалі льнянымі суравымі ніткамі, абвязвалі шпагатам і таксама папярэдне абсушвалі, завяльвалі ў сонечнае надвор'е, падвешваючы на крюку пад стрэхамі пабудоў. Такі мясны кулінарны выраб называлі каўбухом, марцінам, кіндзюком. Каўбух захоўваўся значна даўжэй, чым іншыя сальна-мясныя вырабы і прызначаўся для больш цяжкіх сенакосных работ. Каўбух і каўбасы захоўваліся падвешанымі на жэрдачцы на гарышчы або ў сенцах, клеці.

**Выпуск падрыхтаваў Алесь ЛОЗКА.**

Беларусь

Уладзімір САВІЧ. Гуканне вясны.

| САКАВІК | П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | | | | | | | | |



Парыў ветру.

# НАШ ВЕРНІСАЖ

**В**ОСЕННЮ МІНУЛАГА ГОДА ў зале Інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі, пасля некаторай бюракратычнай валакіты, адбылася выстава «Жывапіс. Графіка. 88.». У ёй удзельнічала кагорта маладых беларускіх мастакоў: Віктар Альшэўскі, Уладзімір Савіч, Мікола Селяшчук, Валерый Славук, Уладзімір Тоўсцік і Фелікс Янушкевіч. Адчувалася, што мастакі перараслі выдзеленую ім выставачную залу і вымушаны былі адбіраць толькі самае лепшае з таго, што хацелі б паказаць, але, і нягледзячы на гэта, наведвальнікі атрымалі добрую магчымасць для знаёмства з мастакамі, якія даўно прыкметна вылучаюцца сярод сваіх калег.

Сёння госць нашага вернісажу Віктар Альшэўскі. Большасць яго работ — гэта асэнсаванне рэчаіснасці нашага грамадства з усімі яго станоўчымі і адмоўнымі бакамі. Характэрнай у гэтым плане з'яўляецца карціна «Адзінота», на якой вобразы, залітыя месячным святлом, увасабляюць сумную і вечную гісторыю жыцця і смерці. Мастак напамінае, што ў наш шматгранны, шматаблічны час чалавек усё роўна застаецца адзінокім і ў сваёй радасці, і ў сваёй бядзе.

Нельга абысці ўвагай карціну «Парыў ветру», пра якую некаторыя гледачы гавораць, што на ёй мастак паказаў вецер перабудовы. Сам жа Віктар Альшэўскі сцвярджае, што ён намаляваў аўтапартрэт і вецер, які разбурае, знішчае ўсё, што спыніла сваё развіццё, свой рух. І тое, што гледачы ў гэтай карціне бачаць подых перабудовы, сведчыць, што карціна «працуе», выклікае асацыяцыі з надзённымі праблемамі, запрашае да роздуму.

Работы Віктара Альшэўскага закончаныя па кампазіцыі і адметныя па каларыту. Мастак аддае перавагу халоднай, сіне-зялёнай гаме колераў, з чаго і ствараецца





● Адзінота.



таямнічы «бяздонны» фон палатна, які нагадвае час надвячорка, святло месяца,— адчуваеш, як душа напаўняецца пачуццём трывогі за стан нашай зямлі, культуры. Нават у тых карцінах, на якія мастак «кінуў сонца», праглядаецца след трывогі, след вечара: ці ў халодных ценях, ці ў задуменных тварах. Віктар Альшэўскі — «месячны» мастак, мастак-рамантык.

Калі ўпершыню давялося ўбачыць карціну «Рэстаўратар. Аўтапартрэт.», я адразу звярнуў увагу на падабенства аўтапартрэта з вядомым нам усім Дон Кіхотам. Хіба што ў руцэ мастака замест дзіды — вялікі малярскі пэндзаль, і ў адрозненне ад літаратурнага героя, мастак не ваюе з ветракамі і прывідамі — у яго свае канкрэтныя справы. І таму не дзіўна, што на запытанне цікаўнага гледача: «Вы, відаць, працуеце рэстаўратарам замкаў, храмаў!» — мастак адказаў: «Замкаў і храмаў я не рэстаўрырую. У мяне больш складаная праца — рэстаўрацыя чалавечых душ, духоўнага вобліку чалавека». І, па-мойму, нельга лепей і дакладней сказаць пра творчасць, чым сказаў Віктар Альшэўскі.

Віктар ШНІП.



● Каралева балю.



● Індыйскі матыў (Свята ў Махабаліпурамі. З паездкі ў Індыю і Шры Ланку). Трыпціх.

**Захаванне міру, прыроды і памяці стала сёння тою галоўнаю справаю, ад поспеху якой залежыць само жыццё. Пра гэта гавораць палітыкі, вучоныя, пісьменнікі — усе, хто, вызваляючыся ад цяжару мінулага, усяго таго, што аджыло свой век, гатовы прыняць і прымаюць цяжар будучыні. Якая яна, будучыня! Якім чынам мы яе ажыццявім! Ці здолеем наогул ажыццявіць! Няпростыя гэта пытанні. Няпростыя і нялёгкія. Здавалася б, колькі існуе чалавецтва, столькі марыць яно пра храм будучыні, імкнучыся сцвердзіць ідэалы дабра і хараства, а кожнае новае пакаленне знаходзіла толькі руіны храма, толькі тугу па ідэале. Мо таму, што з веку ў век, з году ў год лёгка парушалася, дэфармавалася сістэма сапраўдных каштоўнасцей і — у выніку — храм аказваўся ўзведзеным на пяску. Мо таму, што ўзводзіўся храм, а трэба было пасадзіць дрэва... «Культура — гэта тое, што павінна расці, нельга пабудаваць дрэва, яго можна пасадзіць і гадаваць, чакаць, пакуль яно не ўбярэцца ў сваю пару, а калі яно вырасце, не варта наракаць, што з семя вырас дуб, а не ясень»,— пісаў вядомы амерыканскі паэт Т. С. Эліят, і з ім цяжка не пагадзіцца. Мінулае, як і будучыня, ёсць толькі ў памяці, і калі культура асобы фармуецца дзейснай памяццю аднаго чалавека, культура народа — памяццю народнай. Гэта ісціна даўно ўжо не патрабуе доказаў, і ў той жа час усё большую трывогу грамадскасці Масквы, Ленінграда, Ноўгарада, іншых культурных цэнтраў краіны выклікае становішча архітэктурных ансамбляў і помнікаў, дзяржаўных бібліятэк, музеяў, архіўных сховішчаў: ад недагляду разбураюцца унікальныя храмы, у часе пажараў гараць старыя рукапісныя кнігі, пасля разрываў каналізацыйных труб гінуць раскіданыя па падвалах каштоўныя архівы. Трывога — агульная. Пад пагрозаю — культурныя скарбы. У нас у Беларусі, на жаль, таксама. З гэтай прычыны і сабраліся ў рэдакцыі часопіса «Беларусь» людзі неабыякавыя, зацікаўленыя, каб выказаць свой непакой за лёс твораў старажытнага мастацтва, за лёс самой беларускай культуры, каб разам пашукаць выйсце з цяжкага становішча, у якім апынуліся музейныя ўстановы.**

**ТАІСА БОНДАР, паэтэса, нам. галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь»:**

— У славянства, у славянскіх плямёнаў — адны карані, і мы па праву ганарымся тым, што такія магутныя, жыццястойкія парасткі прайшлі праз нашу глебу, што мужны, горды род наш, не вымерлы ў ліхалецці, не вынішчаны войнамі, не здратаваны нягодамі на працягу ўсіх стагоддзяў прыгнёту і бяспраўя, захоўвае і захаваў мову сваю, самабытную сваю культуру, і крыўдна, балюча, што мы ўсё ў меншай ступені адчуваем сябе гаспадарамі неацэнных скарбаў: не імкнёмся сабраць раскіданыя па свеце летапісныя архівы, не ўмеем ганарыцца продкамі, братамі сваімі, якія ўнеслі вялікі ўклад у культуры іншых краёў і народаў, не баронім родную мову, якая выходзіць з ужытку, кепска захоўваем, не вымаем з запаснікоў шэдэўры старажытнага беларускага мастацтва, збядняючы і свой народ і яго гісторыю. Беларусь на сённяшні дзень — адзіная рэспубліка, якая не мае музея нацыянальнага мастацтва...

**Аляксей МАРАЧКІН, мастак:**

— Ды ці ж толькі музея нацыянальнага мастацтва! Сумна казаць, але да вырашэння праблем нашай духоўнай культуры, а апошні час паказвае, што гэта датычыць не толькі аднае яе, мы, беларусы, прыходзім запознена. Ну, мяркуйце самі... Этнаграфічныя музеі народнай архітэктуры і побыту пад адкрытым небам ужо даўно існуюць на Украіне, у Латвіі і Эстоніі, а мы толькі сёння, і то з цяжкасцю, завяршаем гэтую справу. Музей дзіцячага малюнка ў Арменіі славуты на ўвесь Саюз, а ў нас яшчэ толькі-толькі вядуцца размовы аб арганізацыі эстэтычнага цэнтра. Дарэчы, чамусьці супольна са спартсменамі.

А ўзяць праблему мовы. Як мы яе вырашаем? У Эстоніі, рэспубліках Закаўказзя нацыянальная мова набывае статут дзяржаўнай, а мы, пры фактычна крызіснай сітуацыі, якой няма бадай што ні ў адной з саюзных рэспублік, знаходзімся на ўзроўні дыскусій: патрэбна дзяржаўная мова ў рэспубліцы ці не. Мне думаецца, што наша асцярожнасць, інертнасць, абыякавасць да свайго роднага караніцца не толькі ў гадах застою, а ідзе ці не з тых часоў, калі на Беларусь глядзелі, як на правінцыю, ускраіну Расіі. Тое, што гэтая «ўскраіна» жывіла сваім умельствам Маскву, адорвала духоўным багаццем бібліятэкі Пецярбурга, вядома ўсім, але... Але і сёння комплекс другараднасці, калі многія глядзяць на сваё роднае, як на нешта ніжэйшае, горшае, дае пра сябе знаць.

**Гаўрыла ВАШЧАНКА, народны мастак БССР:**

— Думаю, што гэта вынік нашага няўмелага, нядбайнага выхавання. Навучанне ў японскай школе, напрыклад, пачынаецца з таго, што дзеці вучацца рысаваць іерогліфы, з першых урокаў далучаючыся да разумення прыгожага. А абавязковае для ўсіх вывучэнне вершаскладання, калі спасцігаецца прыгажосць роднай мовы? А ўрокі, на якіх дзеці спяваюць родныя песні? Японскі настаўнік можа перапыніць любы урок і вывесці дзяцей палюбавацца, як ідзе першы снег, як пачынаюць красаваць сады. Не кажучы ўжо пра абавязковае наведванне музеяў, гістарычных мясцін і храмаў, калі школьнікі з дапамогаю настаўніка наладжваюць першыя кантакты з гісторыяй, якія пяройдуць пазней у пастаянную, трывалую сувязь.

А ў нас? У школе адменена каліграфія і дзяцей проста вучаць пісаць літары. Нават на ўроках спеваў не гучаць родныя песні. Не выкладаюцца нават азы вершаскладання, а што да музеяў, то іх так мала, што няма пра што і гаварыць. І гэта ў сталіцы! Становішча ж у абласных і раённых цэнтрах зусім безнадзейнае. А мы пасля здзіўляемся: адкуль бярэцца неадукаванасць, як нараджаецца бездухоўнасць?

**Таіса БОНДАР:**

— Урад рэспублікі, Міністэрства культуры БССР робяць пэўныя захады, каб палепшыць гэта становішча. Распрацавана цэлая праграма па ўдасканаленні музейнай справы, мяркуецца стварыць і адкрыць цэлы шэраг новых музеяў і музей нацыянальнага мастацтва.

**Юрый КАРАЧУН, дырэктар Дзяржаўнага мастацкага музея БССР:**

— Зноў гаворка пра планы, праграмы, якім мы спазніліся з гэтым ужо на многія дзесяцігоддзі.

Згублена і, на жаль, беззваротна шмат часу. Многія значныя творы беларускага мастацтва па волі лёсу і адказных, дакладней — безадказных людзей апынуліся ў свой час у музеях Польшчы, Украіны, Літвы, Масквы і Ленінграда. Шмат чаго з таго, што павінна быць у фондах музея, знаходзіцца яшчэ ў цэрквах і касцёлах. А сёння — па-ранейшаму вывозіць і захоўваць гэтыя творы няма дзе.

**А. МАРАЧКІН:**

— І ўсё ж марна разводзіць рукамі, трэба неадкладна брацца за работу. Калі хочам, каб кожны, хто зацікавіцца, і найперш дзеці нашы, мелі ўяўленне аб духоўнасці народа, яго нацыянальнай самабытнасці. Трэба падбаць пра нацыянальны тэатр і пра музей нацыянальнага мастацтва, і не на словах падбаць... Дзе на сённяшні дзень старадаўнія беларускія абразы? У музеі Акадэміі навук БССР, які закрыты для наведвальнікаў? У запасніках Дзяржаўнага мастацкага музея? Дзе нашы вытокі кніжнай графікі? Першадрукі? У спецыялізаваных фондах бібліятэк? Дзе, нарэшце, скарбы нашага народнага мастацтва? Раскіданы па невялічкіх музеях? У экспазіцыях у Заслаўі і Раўбічах?

**Г. ВАШЧАНКА:**

— У сувязі з тым, што ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР ідзе рэканструкцыя і ўвесь першы паверх, дзе раней выстаўлялася беларускае мастацтва, цяпер заняты пад склады, мы не маем ніводнай больш-менш поўнай экспазіцыі нацыянальнага мастацтва — ні старажытнага, ні сучаснага.

**Мікола КУПАВА, мастак:**

— Наколькі мне вядома, мы валодаем багатымі фондамі не толькі беларускага старажытнага і беларускага сучаснага мастацтва, а таксама багатай калекцыяй рускага і замежнага выяўленчага мастацтва. Усе гэтыя скарбы, апрача прадстаўнічых збораў рускага і мізэрнай экспазіцыі старажытнага беларускага жывапісу, скульптуры і ўжытковага мастацтва, мусяць захоўвацца ў сховішчах. Ужо даўно існуе ў рэспубліцы гэта праблема. Мы шмат гаворым пра яе, але ўсё застаецца па-ранейшаму.

**Ю. КАРАЧУН:**

— У сталіцах і іншых гарадах саюзных рэспублік існуюць, працуюць па некалькі мастацкіх музеяў, дзе адпаведна сабраны, як, напрыклад, у Кіеве, заходняе і ўсходняе, рускае і ўкраінскае мастацтва. У нас жа па сённяшні дзень — адзіны дзяржаўны мастацкі музей БССР, які нясе функцыю ўсеагульнага збору, навуковай апрацоўкі і прапаганды ўсіх твораў мастацтва, якія знаходзяцца ў яго фондах. І нават прыбудоўка, якая дасць магчымасць шырэй паказаць фонды, стварыць сховішчы, рэстаўрацыйныя майстэрні і лабараторыі, цалкам не вырашыць праблему захавання і вывучэння нацыянальнай спадчыны. Дарэчы будзе сказаць, што пытанне дабудовы адзінага ў Мінску, маючага унікальную калекцыю, мастацкага музея, вырашалася амаль 30 гадоў. Таму і не дзіўна, што аб Музеі нацыянальнага мастацтва, які павінен стаць цэнтрам збору і вывучэння усяго, што ёсць у нашай мастацкай спадчыне, ад старажытных часоў да апошніх твораў беларускіх савецкіх мастакоў, мы маем магчымасць сур'ёзна гаварыць толькі сёння.

**Юрый ПІСКУН, малодшы навуковы супрацоўнік аддзела старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР:**

— Не зашкодзіла б высветліць прынцыповую канцэпцыю Музея нацыянальнага мастацтва. Што ўключыць у гэта паняцце? Усе здабыткі прафесійнай мастацкай творчасці беларускага народа ад сівой мінуўшчыны да нашых дзён: у такім разе павінны быць прадстаўлены ўсе галіны выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — фрагменты манументальнага жывапісу і разьбы, скульптура, станковы жывапіс, графіка (у тым ліку і кніжная), ювелірнае мастацтва, мастацкія тканіны, кераміка, шкло. Узнікае рад праблем, звязаных са спецыфікай гістарычнага развіцця беларускага нацыянальнага мастацтва, якое зазнавала надзвычай вялікае ўздзеянне фальклорнага пласта мастацкай культуры. Для позняга сярэдневякоўя (XVII — XVIII стст.) такая сітуацыя была асабліва характэрна, прытым мастацкія вартасці народнай скульптуры, жывапісу позняга сярэдневякоўя сёння не выклікаюць сумнення. Другое: мастацка-рамесніцкая прадукцыя сярэдневяковага беларускага горада вызначалася тым, што за галоўнае прымалася не мастацкая аздоба, а фармальна-утылітарная прыгажосць рэчы, калі вырабы рамяства паўстаюць як бы ў дваістай якасці: як творы прафесійнага мастацкага рамяства і як помнікі матэрыяльнай культуры. Які бок адносін гэтых рэчаў да культуры больш каштоўны для нас?

Трэцяе: беларускае мастацтва мінулых стагоддзяў вызначалася такімі асаблівасцямі, як адкрытасць сістэмы, узаемадзеянне разнастайных тэндэнцый, міжнародных уплываў і ўзаемадзеянняў. Як успрымаць творчасць Нектарыя Сербіна ў Супраслі, кракаўскага друкара Б. Ваяводкі ў Брэсце, вармейскага рэзчыка І. Шміта ў Гродне і г. д.? Як здабыткі нацыянальнай беларускай культуры ці як іншакультурныя ўкрапіны ў яе? Не сакрэт, што многія помнікі сярэдневяковага беларускага мастацтва ці мастацтва, створанага на беларускай зямлі, нашы суседзі часта ўспрымаюць як вехі сваёй мастацкай гісторыі. Такая складаная сітуа-

цыя ідзе з часоў сумеснага культурнага жыцця ў адной дзяржаве беларусаў і літоўцаў, палякаў і ўкраінцаў, што абумовіла стылістычнае адзінства іх мастацкай культуры. Таксама як і творчасць мастакоў-беларусаў у XIX ст.— Гараўскага, Хруцкага, Смуглевіча, Рушчыца аб'ектыўна з'яўляецца здабыткам беларускага і рускага, беларускага і літоўскага, беларускага і польскага народаў. І апошняе: лёс многіх помнікаў беларускай мастацкай культуры склаўся так, што яны апынуліся па-за межамі Беларусі. Адзін бок гэтай праблемы: як улічыць у канцэпцыі музея нацыянальнага мастацтва працу беларусаў-мастакоў па-за межамі Беларусі (Сцяпан Іваноў-Полубес, Клім Міхайлаў і інш. у Рускай дзяржаве XVII ст.; Пётра Сергіевіч у XX ст. у Вільні), сюды ж неабходна аднесці і творчую спадчыну тых мастакоў, бібліяграфія якіх была цесна звязана з Беларуссю — такіх як Надзя Хадасевіч-Лежэ, Казімір Малевіч, Марк Шагал. Ці трэба ўлічваць гэтыя фігуры еўрапейскага мастацкага небасхілу пры стварэнні музея нацыянальнага мастацтва?

Паколькі існуюць такія пытанні, павінен быць і адказ на іх.

**Ю. КАРАЧУН:**

— Але ж аб'ёмы і структура музея безумоўна будуць залежаць ад памяшкання альбо некалькіх памяшканняў, якія будуць яму адведзены.

Я гавару адведзены, бо добра сабе ўяўляю магчымасці будаўніцтва ў наш час новага музея, які па самых танных падліках можа каштаваць 8—10 мільёнаў рублёў.

**Г. ВАШЧАНКА:**

— Мне, здаецца, можна абысціся без такога дарагога будаўніцтва, якое зацягнецца на гады і гады. У горадзе ёсць шэраг будынкаў, якія павінны былі б належыць музеям, як гэта і робіцца ў іншых краінах, калі самыя прэстыжныя палацы адводзяцца пад нацыянальныя музеі, тым самым становячыся «візітнаю карткаю» горада, краіны.

Асабліва гэта актуальна цяпер, калі цэлы шэраг дзяржаўных, партыйных будынкаў перадаецца на сацыяльна-грамадскія патрэбы. Як у Магілёве, дзе па прапанове Дзяржаўнага мастацкага музея БССР абкомам партыі перададзены пад карцінную галерэю помнік архітэктуры, былы будынак Магілёўскага гаркома партыі.

**Ю. КАРАЧУН:**

— Цалкам згодзен. Нядаўна ў Мінску пабудаваны новы Дом палітычнай асветы, а былое яго памяшканне па вул. Я. Купалы, у якім і па планіроўцы і па размяшчэнню яго ў прэстыжнай частцы горада з поспехам магла б размясціцца галерэя сучаснага беларускага мастацтва, перададзена савету ветэранаў, які мог бы заняць куды меншы і больш утульны асабняк.

Трэба было б аддаць пад музей і будынак на плошчы Свабоды, помнік архітэктуры, былы манастырскі корпус Базыльянскага манастыра, збудаваны ў 17—18 ст., дзе яшчэ да вайны размяшчаўся Дзяржаўны музей БССР, а пасля вайны — Дзяржаўная карцінная галерэя і Музей Вялікай Айчыннай вайны. Нягледзячы на крытычнае становішча музеяў рэспублікі, размешчаных пазней у гэтым памяшканні прафсаюзных арганізацый здавалі значную плошчу ў арэнду іншым установам.

Тут жа, на плошчы Свабоды, ёсць і другі дом музейнага прызначэння — гэта былы будынак гасцінага двара 17 ст., дзе выступаў, ужо ў савецкі час, У. Маякоўскі, і размяшчаліся некалі першыя органы Савецкай улады.

Надышла пара разгледзець пытанне выкарыстання пад музеі і іншых будынкаў-помнікаў архітэктуры мінулага. Гэта, перш за ўсё, сядзіба 1840 года, збудаваная архітэктарам Казімірам Хрышчановічам, што за паркам М. Горкага па вул. Фрунзе, якую займаюць розныя арганізацыі. Гэта, нарэшце, Пішчалаўскі замак, што па вул. Валадарскага, збудаваны ў 19 ст., таксама К. Хрышчановічам, заняты пад турму, у якой адбывай пакаранне ў 1864—65 годзе В. Дунін-Марцінкевіч, удзельнікі падзей 1905 года.

**М. КУПАВА:**

— Прадбачлівыя кіраўнікі дзяржавы ў цэнтры сталіцы будавалі універсітэты, музеі, бібліятэкі, культурныя цэнтры. А ў нас наадварот: у цэнтры сталіцы застаюцца турмы, прытым некаторыя займаюць самыя выгадныя месцы горада, а універсітэт, інстытуты, кінастудыі з цэнтра горада выносяцца за горад, у поле. Хіба гэта нармальная з'ява, калі ў цэнтры амаль двухмільённага горада, сталіцы буйной рэспублікі, будуецца не мастацкі музей, а гмах Міністэрства ўнутраных спраў? Калі ўжо не будаваць нацыянальны музей паводле адмысловага праекта, то зусім лагічна выкарыстаць для гэтай мэты адзін з лепшых архітэктурных ансамбляў горада пасля комплекснай рэстаўрацыі Верхняга горада. І такім ансамблем я бачу муры базыльянскіх кляштараў з неіснуючай цяпер бажніцай св. Духа. Гэты архітэктурны комплекс XVII ст. уяўляе сабой выдатны помнік рэнесанснай культуры Беларусі, сама бажніца — гэта твор мастацтва, фасад якой быў аздоблены маляўнічымі роспісамі, што ўжо немалаважна. Экспазіцыя старажытнага мастацтва ў будынку, які ўвасабляе пэўныя традыцыі нацыянальнай архітэктуры, служыла б вырашэнню многіх эстэтычных задач.

Цяперашні будынак Дзяржаўнага мастацкага музея БССР трэба пераўтварыць у Музей беларускага савецкага мастацтва. У прыбудове музея, якая, усё ж хочацца верыць, нарэшце будзе зроблена, стварыць музей рускага і савецкага выяўленчага і ўжытковага мастацтва. У аднолькавых езуіцкім Марыінскім касцёле і калегіуме стварыць карцінную галерэю замежнага мастацтва з арганнай канцэртнай залай.

Такі комплекс захадаў сведчыў бы пра сапраўдную перабудову ў духоўнай сферы рэспублікі, пра сапраўдны клопат у адносінах да нацыянальнай культуры.

З сумам можна зазначыць, што не вядзецца на сённяшні дзень і выхаванне нацыянальных кадраў, высокакваліфікаваных спецыялістаў у мастацтвазнаўстве: няма ў музеі такога мастацтвазнаўца, які б мог правесці экскурсію на беларускай мове. А гэта, пагадзіцеся, сцвярджае нігілістычнае стаўленне да нацыянальнай спадчыны наогул.

Спадчына ў нас багатая, і трэба б гаварыць не толькі пра музеі Мінска, а і пра замкавыя комплексы ў Нясвіжы і Міры, дзе могуць быць створаны экспазіцыі выяўленчага мастацтва. А што тычыць Нясвіжа, то ў гэтым замку варта было б аднавіць старажытную радзівілаўскую галерэю.

***Уладзімір* СТАЛЬМАШОНАК, *старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР:***

— На вялікі жаль, можна з поўнай упэўненасцю прадбачыць, што з нашай гаворкі выснікі будуць самыя несуцяшальныя. Практыка сведчыць якраз пра гэта. Кардынальных зрухаў у культурным будаўніцтве рэспублікі як не было, так і няма.

Прабачце мне за грубаватае параўнанне, але гэты наш сённяшні круглы стол мне нагадвае гудок для выпускання пары. Сабралася інтэлігентная публіка, пагаварыла, пакрычала аб набалелым і — разышлася. А між тым даўно пара не гаварыць, а дзейнічаць.

Некаму падасца маё меркаванне занадта рэзкім, але я ўжо столькі чуў размоў аб неабходнасці стварэння музея нацыянальнага мастацтва, назавём яго Нацыянальным музеем, столькі сам гаварыў пра гэта, што, здаецца, даўно язык намуляў. Гаварыў на ўсіх узроўнях, ад райкома партыі да Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, усё даказваў тое, што відавочна, і доказаў не патрабуе. Вядома, ні сродкаў, ні памяшкання для стварэння такога музея ў рэспубліцы пакуль няма. Але ж яны не з'явяцца самі па сабе. Хто шукае, той знойдзе.

**А. МАРАЧКІН:**

— Трэба сказаць, што і асобы, ад якіх залежыць вырашэнне такой важнай праблемы, як адрыццё музеяў, наладжванне выставак, павінны мець шырокі погляд на працэс фарміравання і развіцця беларускага мастацтва, поўную дасведчанасць і кампетэнтнасць, а не прывычку пакорліва глядзець у рот вышэйшаму начальству і аддана ківаць галавою. Не першы раз на запыты грамадскасці ці нашых дэпутатаў аб будаўніцтве Нацыянальнага музея чыноўнікі прыкрываюцца інструкцыямі і рэзалюцыямі аб цяжкасцях з матэрыяламі, лімітамі і г. д. Хаця ў тыя часы, якія мы ахрысцілі як застойныя, знаходзіліся і грошы і матэрыялы будаваць яшчэ якія гмахі. Амаль што ва ўсіх абласных гарадах і раённых цэнтрах узводзіліся цэлыя «палацы з'ездаў», якія сёння пыхліва высяцца на заасфальтаваных шэрых плошчах з усёй атрыбутыкай. За дошкамі гонару і плакатамі надта ўтульна адчувалі сябе бюракраты. Той-сёй думае адсядзецца і сёння. І гэта сведчыць пра тое, што перакосы, якія нам засталіся ад учарашняга дня, трэба выроўніваць агульнымі намаганнямі.

Гэта ж ненармальнае становішча для нашай суверэннай рэспублікі, члена ААН, не мець такога духоўнага асяродка як Музей беларускага нацыянальнага мастацтва. Хаця ў той жа час мінчане, жыхары Беларусі хутка будуць мець агромністы Палац рэспублікі. Я не так даўно агледзеў яго яшчэ незавершаныя інтэр'еры, і ў мяне адразу з'явілася сумненне, ці трэба было гарадзіць такі, прабачце, вялізны «куфар з калонамі» на Цэнтральнай плошчы, каб размясціць у ім дзве кіназалы: адну, вялізную,— наверсе, другую, меншую,— унізе... Я ўжо не гавару аб архітэктурных вартасцях гэтага Палаца.

**У. СТАЛЬМАШОНАК:**

— Палац культуры мы, сапраўды, неўзабаве будзем мець, вось толькі нацыянальную культуру можам незаўважна страціць, калі будзем займацца толькі крытыкай памылак нашых кіраўнікоў.

Зараз праўленне СМ БССР сумесна з кіраўніцтвам інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР накіроўвае ўсе намаганні на тое, каб зрабіць агульнадаступным Музей старажытнабеларускай культуры АН БССР, які дагэтуль быў закрыты для наведвальнікаў. Прэзідыум АН БССР выдзяляе на гэтыя мэты 5 тысяч рублёў у год. Адразу, як толькі будзе скончаны мантаж проціпажарнай бяспекі, музей будзе адчынены. Вядома, гэта не вырашэнне праблемы Нацыянальнага музея, аднак гэта ўжо першы канкрэтны крок на шляху да таго, каб нацыянальнае мастацтва стала даступным народу. Да таго ж Музей старажытнабеларускай культуры АН БССР мог бы стаць асновай для Нацыянальнага музея, яго першай дзеючай адзінкай...

**Вольга ЦЕРАШЧАТАВА, *загадчык Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР:***

— Вядома, мы не маем нічога супраць таго, каб наш музей стаў асновай для стварэння музея нацыянальнага мастацтва. Для гэтага ў нас ёсць усе падставы. Шмат гадоў супрацоўнікі музея збіралі яго экспанаты, з кожнай экспедыцыі нешта прывозілі. Вядома, усё гэта рабілася ў значнай ступені на энтузіязме, на любові да нацыянальнага мастацтва. Зараз у нас самая багатая ў Беларусі калекцыя народнага мастацтва, пададзенага ў комплексе — жывапіс, скульптура, ткацтва, саломка, разьба па дрэве, ганчарства, вышыўка, выцінанка і г. д. У фондах музея — тысячы помнікаў старажытнага мастацтва, а ў архіве музея захоўваюцца апісанні твораў, звычаяў, абрадаў, звесткі аб народных майстрах, аб вытоках той ці іншай плыні ў народным мастацтве. У нас адкрыты фонды з аўтаматычнай касетнай сістэмай захоўвання жывапісу, скульптуры, разьбы і іншых помнікаў культуры. Калі да таго багацця, што захоўваецца ў нашых фондах, дадаць скульптуру, разьбу і творы жывапісу, якія мы ў свой час аддалі Дзяржаўнаму мастацкаму музею БССР, пачатак Нацыянальнаму музею быў бы пакладзены.

Але не забывайцеся, што музей — гэта не толькі збор экспанатаў. Музей — гэта навуковая база для вывучэння нацыянальнага мастацтва, якая павінна прапагандаваць і захоўваць спадчыну. У музеі трэба працаваць вучоным — весці даследаванні, пісаць манаграфіі, вывучаць экспанаты, апісваць іх, рабіць пашпарты на кожны помнік, нарэшце, папаўняць фонды на навуковай аснове, а не проста захоўваць у належным стане сабранае. Надзённая неабходнасць такой працы вынікае і з таго, што тут гаварылася, і з таго, на жаль, сумнага факта, што ў гісторыі беларускага мастацтва шмат што сказана, недагаворана, не вырашана.

**Ю. ПІСКУН:**

— Сапраўды, стварэнне Беларускага музея нацыянальнага мастацтва звязваецца з неабходнасцю вырашэння вялікага кола праблем і навукова-тэарэтычнага і практычнага характару. Само паняцце скарбніцы нацыянальнага мастацтва, чым і павінен стаць музей, пашыраецца да злучэння адначасова едкасных, але і супярэчлівых адна да адной з'яў: сучаснае і старажытнае мастацтва, свецкае і рэлігійнае. Вырашыць усе названыя праблемы і супярэчлівасці вельмі складана. Нам уяўляецца, што канцэпцыя нацыянальнага мастацкага музея можа будавацца ў двух кірунках. Першы кірунак: музей прад-

стаўляе рафінаваную карціну развіцця нацыянальнага мастацтва. У яго збор уваходзяць помнікі найбольш тыповыя, з адметнымі нацыянальнымі асаблівасцямі сваёй мастацкай стылістыкі. Вялізны аб'ём матэрыялу, шырокія яго параметры ў часе, прасторы, якасных асаблівасцях вымушаюць да жорсткага адбору. Помнікі музея павінны быць, што пажадана, вышэйшай мастацкай вартасці, яны павінны быць цесна звязаны з падзеямі нацыянальнай гісторыі, духоўнага жыцця нацыі, найбольш выразна выказваць асаблівасці нацыянальнага густу і характару. У такім выпадку за аснову пабудовы экспазіцыі прымаецца прынцып падачы матэрыялу ў храналагічным парадку, усе віды мастацтваў, незалежна ад канфесіянальнай, сацыяльнай, якаснай (прафесійныя ці народныя) прыналежнасці твораў, уваходзяць у адну экспазіцыю на аснове адначасовага стварэння гэтых твораў (безумоўна, унутры гэтай мадэлі могуць быць і больш вузкія дзяленні). Такая канцэпцыя не з'яўляецца адкрыццём. Аналагічную мадэль прапанаваў для Беларускага дзяржаўнага музея яшчэ В. Ластоўскі, калі быў яго дырэктарам. Храналагічны прынцып пабудовы экспазіцыі пануе ў большасці мастацкіх музеяў краіны. Вельмі цікавы прыклад — выстаўка «1000-годдзе рускай мастацкай культуры», экспанаты якой, размешчаныя ў храналагічнай паслядоўнасці, адбіраліся па прынцыпу тыповасці, узорнасці, яскравага ўвасаблення нацыянальных традыцый у помніках хрысціянскага мастацтва Расіі і блізкіх да яго па зместу помніках. Таму правамоцным было з'яўленне на гэтай выстаўцы і курганных ювелірных вырабаў старажытнасці і карцін Несцерава, Ганчаровай.


Фота Віктара МІКАЛАЕВА.

Але пры храналагічнай канцэпцыі Нацыянальнага музея (назавём яе так умоўна) непазбежны такія страты, як недастатковая глыбіня раскрыцця матэрыялу, немагчымасць шырока паказаць яго полі-варыянтнасць і інш.

Другую канцэпцыю музея ўмоўна можна назваць «прадметнай». Музей у гэтым выпадку ўяўляецца як аб'яднанне тэматычных аддзелаў-музеяў, кожны з якіх прысвечаны пэўнаму раздзелу мастацкай гісторыі і пэўнай мастацкай адзінцы культурнай структуры. Нешта блізкае да гэтага па структуры ўяўляюць музеі Крамля ў Маскве.

У «прадметнай» канцэпцыі Беларускага музея нацыянальнага мастацтва можна выдзеліць наступныя структурныя адзінкі: Музей сярэднявечнага мастацтва Беларусі з экспазіцыяй у ім іканапісу і скульптуры (як прафесійнай так і народнай), партрэтнага жывапісу, кнігадрукаў, літургічных рэчаў, матаў абразоў; Археолага-этнаграфічны мастацкі музей з экспазіцыяй мастацкай культуры горада і вёскі, мастацкіх рамёстваў і народнага мастацтва; Музей мастацтва Беларусі XIX ст. з экспазіцыяй твораў мастакоў, якія працавалі на Беларусі ў той час; Музей выяўленчага мастацтва Беларусі XX ст. Пералік структурных адзінак нацыянальнага музея не павінен быць жорсткім, прапанаваныя структурныя адзінкі можна дапаўняць па меры накаплення фондаў іншымі музеямі, напрыклад: Музей-сядзіба Ванькoвіча (даўно запланаваная), ці Музей сучасных народных рамёстваў і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і інш. Пажадана, каб паміж усімі экспазіцыямі нацыянальнага музея існавала цесная сувязь, каб размяшчаліся яны зручна для наведвальнікаў, паблізу адзін аднаго, і, такім чынам, каб усе яны працавалі на стварэнне найбольш поўнай, аб'ёмнай карціны развіцця нацыянальнай мастацкай культуры.

Такім чынам, прынцыпы, пакладзеныя ў аснову першай «храналагічнай» канцэпцыі музея, у другім выпадку істотна могуць быць дапоўнены магчымасцю рэгіянальнага поліварыянтнага і, наогул, больш змястоўнага паказу матэрыялу. Уяўляецца, што пры кожным з аддзелаў-музеяў існуе выставачная зала, дзе размяшчаюцца працяглыя выстаўкі ці цыклы выставак па профілю аддзела. На гэтых выстаўках экспанаваліся б не толькі рэчы з фондаў музеяў, але ў асноўным з іншых музеяў рэспублікі і краіны. Такія выстаўкі маглі б функцыяніраваць і як перасоўныя.

**В. ЦЕРАШЧАТАВА:**

— Усе гэтыя пытанні і тысячы іншых, якія абавязкова ўзнікнуць, калі музей пачне працаваць, мы не можам вырашыць простым галасаваннем — яны павінны вырашацца на навуковай аснове. Вось чаму мы, супрацоўнікі Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР, мяркуем, што музею нацыянальнага мастацтва лепш за ўсё заставацца, як кажуць, «пад крылом» Акадэміі навук БССР, як самастойная навуковая адзінка, як гэта зрабілі, скажам, у Арменіі і Грузіі або ў Новасібірску. Праўда, 5 тысяч рублёў, якія нам выдзяляе прэзідыум АН БССР, пойдуць на аплату дазорцаў і экскурсаводаў, а на фарміраванне і папаўненне музея неабходны дадатковыя сродкі. (Для параўнання скажу, што любы раённы музей, напрыклад, Веткаўскі, мае 10—15 тысяч рублёў у год толькі на закупкі.) А патрэбны ж яшчэ сродкі на рэстаўрацыю і кансервацыю твораў і г. д. Так што справа за малым: як толькі прэзідыум АН БССР выдзеліць дастатковыя сродкі, можна сфарміраваць музейную групу, якая пачне распрацоўваць разгорнутую навуковую праграму стварэння музея нацыянальнага мастацтва. Мяркую, супрацоўнікі аддзела старажытнабеларускага мастацтва — найбольш падрыхтаваныя для гэтага людзі.

**А. МАРАЧКІН:**

— Наколькі мне вядома, памяшканне Музея старажытнабеларускай культуры дазваляе экспанаваць толькі невялікую частку таго, што знаходзіцца ў яго фондах...

**В. ЦЕРАШЧАТАВА:**

— Так, праблема, вядома, у памяшканні. Але гэту праблему можна вырашыць, было б жаданне.

Існуе некалькі варыянтаў. Папершае, у свой час мастак У. М. Капшай па нашаму заказу зрабіў праект, паводле якога два ўнутраныя дворыкі, якія знаходзяцца за сценамі сённяшняга музея, лёгка ператвараюцца ў дзве вялізныя і арыгінальныя залы, дзе можна размясціць вялікую экспазіцыю. Каштаваць гэта будзе не вельмі дорага: дах і дзве сцяны.

Па-другое, можна размясціць Нацыянальны музей у некалькіх будынках: народнае мастацтва — у нас, у АН БССР, старажытны жывапіс — у Базыльянскім манастыры, сучасны жывапіс — у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

Па-трэцяе, можна ўвесь Нацыянальны музей размясціць у нейкім зручным старажытным будынку, які ўяўляе мастацкую каштоўнасць, а ў АН БССР пакінуць фондасховішча (бо сховішча тут вельмі зручнае) і памяшканне для работы навуковых супрацоўнікаў.

**У. СТАЛЬМАШОНАК:**

— Адным словам, варыянтаў можа быць мноства, галоўнае ж, каб справа скранулася нарэшце з месца, каб яна не патанула ў паперах, рашэннях і добрых намерах.

**Т. БОНДАР:**

— Тым больш, што гаворка ўжо не толькі пра мастацтва, а пра жыццё, пра тыя маральныя і духоўныя каштоўнасці яго, якія нясе з мінулага ў будучае мастацтва.

У свеце, які стаў сведкам такога матэрыяльнага спусташэння, як тое, якому мы падвергліся, і духоўным скарбам таксама пагражае немінучая гібель, калі мы, кожны, не здолеем уратаваць іх, ахоўваць і прымнажаць. Уратаваць жа духоўныя скарбы можна толькі, калі не хаваць іх, а паказаць свету — і паказаць так, каб увесь свет прызнаў іх адметнасць і значнасць, каб само жыццё абараніла іх.

Гутарку за круглым сталом запісалі

**Людміла СУХАНАВА**
**і Віктар ШНІП.**

У СВЯТОЧНАЙ ІЛЮМІНАЦЫІ шэрыя, аж счарнелыя прыцемкі звіваліся вакол садкоў і святочна-вясёлых заснежаных дамоў, што збягалі з пагоркаў і патаналі ў нізінах гарадскіх ускраін.

Электрычка набірала хаду, і ўся стракатасць святочных агнёў бясшумна паплыла назад і тут жа знікла, як абрынулася ў прадонне...

Пасажыраў у вагоне — не прадыхнуць. Але нам з жонкаю пашэнціла — месца на лаўцы прапанаваў малады чалавек у шыкоўнай куртачцы і андатравай шапцы, якая пасавала да яго шырокага чарнявага твару. Устала і яго спадарожніца — танклявая дзяўчына ў элегантным светлым паліто з блакітным пясцом-каўнерыкам і ў белай ваўнянай шапачцы; на яе расчырванелым тварыку прыязна гарэзіліся вялікія бліскучыя вочы. Як мы неўзабаве даведаліся, гэта была жонка маладога паўнаватага чалавека.

Мы ім падзякавалі і, крыху збянтэжаныя, занялі лаўку. Я ўзяў у рукі газету, але ў вагоне было цемнавата, ліхтары свяцілі слаба, газету даваліся адкласці. Міжволі я пачаў услухоўвацца ў гаману пасажыраў. Уладкаваўшыся, пасажыры палагаднелі і пачалі гаварыць пра тое, каб не спазніцца на сустрэчу Новага года.

Маўчалі бадай толькі гэтыя двое, ім, мабыць, было добра ад таго, што яны разам. Не трэба было мець асаблівай назіральнасці, каб заўважыць, што яны, маладыя, адчуваюць сябе на вяршыні шчасця.

— Мабыць, толькі пажаніліся? — не стрымалася, выказала сваю здагадку жонка.

— Хіба гэта бачна? — у адзін голас абазваліся маладыя людзі.

— Па вачах.

— Сапраўды так,— прызналася дзяўчына ў ваўнянай шапачцы і густа пачырванела: — Едзем да маёй мамы. Мы зарэгістравалі шлюб. Ён во — мой Генік — заканчвае політэхнічны, на архітэктара вучыцца. А я — у друкарні, лінатыпісткай... Калі ведаеце, ёсць такая спецыяльнасць.

Жонка ціха — штурхель мяне ў бок:

— Глядзі, далібог, дзіва! Гэта ж і мы з табою, Іване, гадкоў сорак, бадай, будзе, як ехалі пад Новы год да маёй мамы, у наша Роўнае Поле. Памятаеш?..

...Сапраўды тое ўраз прыпомнілася. Тая наша паездка на другім годзе пасля вайны. Аня, калі вызвалілі Мінск, паступіла ў вучылішча паліграфістаў і пасля заканчэння стала працаваць наборшчыцай у друкарні. Дэмабілізаваўшыся з Савецкай Арміі, я вярнуўся з Германіі, з гарадка недалёка ад Эльбы, дзе мы сустрэлі Дзень Перамогі, і застаўся ў Мінску на працу ў рэдакцыі маладзёжнай газеты. Усе нашыя перыядычныя выданні месціліся ў Доме друку. Я пазнаёміўся з Аняй на раённай камсамольскай канферэнцыі, яна — камсорг цэха, была дэлегатам, а я — карэспандэнт, асвятляў гэтую канферэнцыю.

Пад новы, 1947, год Аня прапанавала паездку да яе маці ў Роўнае Поле, вялікае сяло на ўзбярэжжы Свіслачы. Прыгарадны цягнік тады спыняўся на станцыі Зарэчанск, за тры кіламетры ад Роўнага Поля.

Снежаньскім надвячоркам мы накіраваліся на вакзал, купілі білеты на прыгарадны цягнік, які меў тры вагоны пасажырскія, астатнія чатыры — таварныя, тады называлі іх цялятнікамі.

Сцямнелася, насунуўся самотны зімовы вечар, калі мы селі ў амаль пусты вагон. Было цёмна і холадна. Вагон стары, расхістаны, грымеў на стыках, як не развальваўся. Людзей было зусім мала. А нам, маладым, гэта якраз і наруку. Аня была апранутая бадай не па-зімоваму: на плячах — матчына хустка-гарусоўка, лёгкае, падбітае ветрам паліто, і на нагах гумоўкі-боцікі. Затое ў мяне, нядаўняга салдата-франтавіка, экіпіроўка што трэба, паношаны, але ўвогуле прыстойны кажух, шапка-вушанка, якую выдалі мне зімою сорак пятага, калі выбівалі фашыстаў з Кёнігсберга; на нагах — абношаныя на дарогах Польшчы і Германіі, мытыя ў Одэры і Эльбе, але яшчэ ніштаватыя боты. Акрасай майго гарнітура быў ярка-зялёны, з карычневымі палосамі шалік, які таксама меў сваю баявую біяграфію.

Пры такой апратцы кавалера, згадзіцеся, дзяўчыне і ў калядныя маразы можна ехаць не тое што ў нейкае там прыгараднае сяло, а і ў самы Верхаянск, скажам...

Аня была ціхоня, але не пазбаўленая гумару. Я ж кавалер, не пахваляючыся, у кішэнь па слова не лез.

МЫ ТАК ЗАГАВАРЫЛІСЯ, што нічога не чулі і нікога не бачылі. Ачомаліся, калі правадніца, якая хадзіла па вагоне з ліхтаром «лятучая мыш», тыцнула амаль пад нос мне сваю «электрыку» і ахрыплым голасам аб'явіла: «Новае Сяло!». Яшчэ і дабавіла для форсу: «Станцыя Беразай, каму трэба, вылязай!..»

— Ой-ёй! — падхапілася Аня: — Гэта ж мы ўжо Зарэчанск праехалі. Нам трэба было ў Зарэчанску сысці!..

— Самі вінаваты,— кінула праваднічка і, засмяяўшыся, кпліва дадала, пацяшаючыся: — Хочацца і налюбіцца і не замачыцца. Ножкі маладыя — сэрцы гарачыя — газуйце...

— Мабыць, ужо не паспелі,— занепакоілася Аня.

— Не бядуй, дзяўчына! — прыпынілася, была, праваднічка і да мяне: — З такім салдатам не загібееш. Так, франтавік?

— Як-небудзь,— я адчуў сябе вінаватым і таму маўкліва, унурыўшыся, падаўся да выхаду. Маўчала і Аня.

Саскочыўшы на платформу, мы борзда рушылі па каляіне ў бок Зарэчанска. Аня крыху палагаднела: «Мабыць, Новы год давядзецца страчаць у дарозе».

Я перахапіў з рук Ані хатулёк, які сабрала яна для маці, і пагля-дзеў на наручны гадзіннік — таксама мой трафей, ён свяціўся ў цемры зеленкавымі лічбамі:

— Не бядуй, Анюта, маем у запасе гадзіны са дзве!..

Тулячыся ў каўнерык свайго лёгкага палітончыка, Аня бедавала: гэта ж трэба такая няўдача! Да Зарэчанска, мабыць, вёрстаў пяць тэпаць, а там убок добрыя тры вярсты... Во ў Новым Сяле і радня ёсць. Наш дзядзька там жыве, Каспяровіч. Маглі б, калі на тое, і завітаць...

— Яшчэ пабудзем! — бадзёра гукнуў я, намагаючыся ўлучыць прыхінуцца ці абняць дзяўчыну, але яна не далася і лёгка памчалася па каляіне, спрытна мінаючы злядзянелыя і зацярушаныя снежнымі крупамі шпалы. За ёю, угрунь з ветрам, які заўзята студзіў твар і рукі, бег і я з жарцікамі:

— Як думаеш, Анюта, адолеем мы да Новага года рубеж — Роўнае Поле?..

— А, гэнае, як удасца!..

Аня засмяялася гулліва:

— Глядзі, каб у палон не трапіў, салдат!

— З вялікім задавальненнем, хоць і сёння!..

— Ой, які прыткі. Мабыць, у гарачай вадзе купаны.

— А няго ж!

Смеючыся і жартуючы, мы вярухліва крочылі, не зважаючы на цемрадзь ночы, якая спускалася і брала ў свае халодныя абдымкі наваколле; не палохаў і пругкі бакавы вецер, што віхрыўся ля чыгуначнай каляі, намятаў гурбачкі на абочынах, застаўленых драўлянымі шчытамі і атуленых куртатымі елачкамі. Спрытна браўся марозік, шчыраваў у змове з свавольнікам-ветрам.

Пабраўшыся за рукі, мы ўзялі добрую хаду. Ціхае патрэскванне марозіка ў прыдарожным ельніку, рып сняжку-сыпцу пад нагамі падвясельвалі дарогу.

Гусцела сінеча, напаўняючыся таемна-ўрачыстай звонкасцю; неба, акрытае белым полагам ночы, уквечанае дробнымі, чыста прасяныя зярняты, зоркамі, пакрысе ніжэла, як бы зліваючыся з полем, на ўлонні якога ўдалечыні чарнеў лес, загадкава вабячы сваёй таемнасцю.

Аня раптам спынілася, нібы ў роздуме ці нечага спалохаўшыся, махнула рукой і з крыкам: «Ваня, даганяй!» — неслася ўздоўж рэек, спрытная і гуллівая; за ёю віхрылася сухім снежным пылам пазёмка.

— Бягу! Бягу! — грукацеў па камлыгах я адубелымі кірзачамі.— Бяжым... Да цешчы на бліцы!..

— Глядзі, каб гарбуза не паднеслі.

Аня бегла хутка, аж задыхалася. Я дагнаў яе, спыніў, паказаў на неба:

— Вунь зорка паляцела!..

Не паспела дзяўчына агледзецца, як я прыхінуў яе блізка, нязграбна дакрануўся да асмягла-гарачых вуснаў, але яна, праворніца, выхапілася, кінулася наўцёкі, раскрылі́ўшы рукі, як бы збіраючыся ўзляцець ці знікнуць у гэтай беласнежнай казцы.

Раптоўна акрэсліліся сілуэты будынкаў, уквечаных цьмянымі светлякамі агнёў.

— Глядзі, Зарэчанск! — узрадавалася Аня.

Я і сам ужо ўбачыў, што са змроку вырас прыземісты будынак зарэчанскага вакзала, прыстанцыйныя пабудовы, што ўцалелі з ліхалецця.

Мы спыніліся аддыхацца. Яшчэ трэба было адолець кіламетры тры, ужо ўбок ад Зарэчанска, каб патрапіць у Роўнае Поле.

ЗА АСЕЛІЦАЙ З БАЛОТА, што падступала ледзь не да самай дарогі, нахапіўся вецер, закружыў снежным пылам: з захаду грозна сунулася і заняла амаль усё неба грывастая чорная хмара. Завіхрыліся, замільгацелі бухматыя, пушыстыя сняжынкі. Усчалася завеямяцеліца. Снег сыпаў як з сяўні. За два крокі не відно ні дарогі, ні поля, ні прыдарожнага хмызу. Мы соўгаліся вобмацкам, абы не збіцца са слядоў, наезджаных з восені калёсамі і па снезе ўжо санкамі і валакушамі.

Я зразумеў, што нельга спяшацца, бо як згубім торную дарогу, то давядзецца начаваць у гэтай снежнай купелі.

— Колькі там яшчэ, Анюта, да сяла? — крычу я, спыніўшыся. Але яна, мабыць, не пачула, увішна праступае і не азіраецца. Я баюся згубіць яе, але мае кірзачы падводзяць — слізгаюць у сыпкім снезе, і я стараюся ісці цішэй, каб не збіцца на абочыну. Нарэшце Аня спынілася.

— Во ўзыдзем на пагорак,— гаворыць яна,— то злева будуць



# ЦЁПЛАЯ

**Сцяпан КУХАРАЎ**

АПАВЯДАННЕ

# МЯЦЕЛІЦА



магілкі. Не нашы, слабадскія. Будзем ісці міма іх.— Яна намагаецца ўсміхнуцца.— Ты не баішся?

— Я то не баюся — нагледзеўся за вайну мерцвякоў. А як сама? Не спалохаешся?..

— З табой жа,— чую яе стоены голас. Яна спынілася, баронячыся ад ветру, пачала страсаць снег.— Ты ж, мабыць, не з палахлівых...

— Не скажы,— я затуліўся, паглядзеў на наручны гадзіннік.— У дзяцінстве вельмі баяўся мерцвякоў.— Нас, малых, палохалі хлопцы-бальшуны, калі пасвілі коней на начлезе...

Стрэлкі сышліся — дванаццаць! Добрыя людзі страчаюць Новы год. Пад самотны спеў мяцеліцы мы і павіншуем сябе... Я, абняўшы дзяўчыну, абвясціў:

— З Новым годам, дарагая! З новым шчасцем!..

— І цябе, Ваня, з Новым годам! З нашым шчасцем!..

Пад посвіст ветру і песню завірухі Аня аб'явіла гэтае сваё віншаванне — я зразумеў яго як яе згоду быць нам разам на ўсё жыццё. Я кінуўся абдымаць яе, і Аня не баранілася. Кружыла, кіпела, як у гаршку, завіруха-мяцеліца, засыпаючы ўсё вакол мяккім, пульхным серпанцінам.

— Хутчэй дамоў! — Аня кумельгам панеслася па накатаным пагорку, на які ўзбегла заснежаная дарога, і мы не адчувалі ні холаду, ні страху, які пакрысе толькі што падбіраўся за плечы. Наперадзе няяснымі абрысамі, нібы цені страхапудаў, вымалёўваліся слабадскія магілкі.

Вецер трохі пацішэў, бо натыкаўся, як на сцяну, на густыя, калматыя лазнякі па берагах ракі. Сяк-так мы дабрылі да вёскі. У крайніх хатах свяціліся вокны цёплымі агеньчыкамі.

Я храбрыўся, але недзе ўнутры, на сэрцы, было вусцішна: першы раз у чужыя людзі. Як цябе там стрэнуць, будуць аглядаць з ног да галавы...

Аня як зразумела мой настрой — тулілася да майго пляча, гаварыла, перасільваючы дрыжыкі:

— Мабыць, маці ўжо нас заждалася.— Аня старалася крочыць са мною нага ў нагу, але ледзь патрапляла, балазе вуліца не надта занесена снегам, і вецер як зжаліўся над намі, крыху аціх, палагаднеў.

Раней Аня казала: «У нас дома, апрача маці, нікога няма: брат Уладзя страчае Новы год у жончынай радні, а сёстры Марыля і Надзя — у горадзе. Кватаруе ў нас, праўда, настаўнік, але ён ужо, мабыць, адпачывае».

— Мы адны будзем святкаваць?..— кажу я, разглядаючы, хоць і ўначы, хаты і вуліцу незнаёмай і ўжо крыху вядомай, з расказаў Ані, вёскі, якая, як і ўсе навакольныя, перажыла страшную і вялікую вайну.

Амаль пры кожнай — гародчык, за стрэхамі хат і адрын — садкі; сям-там у снежным убранні перад вокнамі — бярозкі, клёны, арабіны, высокія, гонкія; у іх голых, аздобленых снегавымі каралямі галінах раскашуе валачобнік-вецер, улагоджаны мяцеліцай.

Пад ціхі, лагодны спеў і раскашаванне мяцеліцы, вёска, адзначыўшы прыход новага мірнага года, засынала. Праўда, сям-там яшчэ ў вокнах свяціліся агеньчыкі ў самаробных газнічках і задымленых лямпах; застылі над сталамі постаці-цені людзей, якія не спяшаліся на спачын. Недзе за прысадамі падаў голас гармонік і патануў у белай цішы — маўклівасць.

Я не спяшаўся, хацелася агледзецца і крыху супакоіцца. Успомнілася сёе-тое, што ўжо ведаў пра жыццё вёскі з расказаў Ані. У Роўным Полі, хаця і адгароджаным ад чыгункі топкім балотам з зараснікам чароту і аеру, за якімі выкручвалася бруістая Свіслач, амаль усе хаты партызанскіх сямей былі спалены і разрабаваны; толькі ўратаваліся ад агню тры двары ў гэтым, ад могілак, канцы. Уратавалася, ацалела і хата Івана Людніка. Яго семнаццацігадовы сын Уладзік са старэйшымі пайшоў да партызан за год да прыходу нашых войск. Такім вяскоўцам даводзілася хавацца па радні ў суседніх вёсках. Хаваліся ад карнікаў усёй сям'ёй і Людніку. Часцей заставалася ў доме гаспадыня Аксеня Калюстраўна. Ёй дасталася больш за ўсіх. Гэта яе ў маразы паліцэйскія вадзілі пад ружжом, збівалі, дапытваючы, дзе сын, але яна ўсё знесла — і пабоі, і пагрозы — і засталася жывая. Хату партызана знявечылі — павыбівалі вокны, развярнулі печ; забралі ўсё да ніткі... У ліхалецце хапіла ад фашысцкіх памагатых і гаспадару; і ён, яшчэ не стары, даваенны чыгуначнік, не дачакаўся вызвалення, памёр вясною. Аксеня асталася адна, саракагадовая ўдавою з чатырма дзецьмі. Балазе дзеці падрасталі. Надзя ўжо нявеста, пайшла на працу ў горад, за ёй і меншыя — Аня і Марыля, паступілі вучыцца. Уладзік замяніў бацьку-стрэлачніка. З дапамогай дзяржавы і дзяцей Аксеня Калюстраўна сяк-так акрыяла, але нястача, беднасць яшчэ глядзелі з усіх куткоў.

Мабыць, гэта крыху бянтэжыла і Аню. Неяк яна прыціхла, узяла ў мяне з рук хатулёк, дзе былі сякія-такія гасцінцы — пячэнне, абаранкі, цукар, дзве банкі трасковай пячонкі і мой дадатак — бохан пытляванага хлеба (я ведаў, што калі ідзеш першы раз у хату, бяры хлеб — не памылішся!) і бутэльку мятнага лікёру, патэпала папераздзе. Маўчала, тады азвалася змушана, жартаўліва:

— Ці ўгадаеш, дзе наша хата?

— А вунь яна, пад бярозай!

— Як ты здагадаўся?

— А хіба не бачыш, вокны свецяцца...

І сапраўды, гэта была хата Ані Людчык, у ёй усе чатыры акны, два на вуліцу, свяціліся. А вілаватая бяроза пры паграбку звесіла свае доўгія, серабрыста-белыя косы амаль долу,— яны ціха-ціха гайдаліся, нібы ў запрашальным вітанні.

— Заходзь, не саромся! — Аня адчыніла настылыя коўратцы, і я апынуўся на ганку, роўна і далікатна ўсланым свежым, бялюткім ходнікам, сатканым з серабрыста-бліскучых зорачак-сняжынак...

Чамусьці доўга атрасаў наліплы снег, доўга шукаў клямку, але дзверы самі расчыніліся. На парозе стаяў прысадзісты малады чалавек у цёмным гарнітуры, у белай рубашцы наросхрыст і прыязна ўсміхаўся ўсім сваім круглым тварам, раскінуў рукі для прывітання:

— А я вас усё чакаю — вочы праглядзеў...

Я здагадаўся, што гэта і ёсць кватарант. Вітаючыся, ён і назваўся: Бадыльчык, Мікалай Ігнатавіч, тутэйшы педагог...

Назваў і я сябе: Іван Аляксеевіч, газетчык. Аня шуснула за перагародку, да ляжанкі, дзе, відаць, была гаспадыня. Яна хутка адтуль выйшла. Павіталася. Я не ўзіраўся надта ў твар, але прыкмеціў, што яны падобныя з Аняю. Маці была такая ж светлая з твару, толькі валасы, сабраныя ў тоўстую куксу, выдавалі ўзрост і былі трохі рыжаватыя, а вочы на шырокім твары — зусім, як у Ані.

Маці ўважлівa і спакойна распытвала, чаму мы спазніліся, запрасіла да навагодняга стала, які быў падрыхтаваны і за якім ужо, відаць, пасядзеў кватарант з пачатай бутэлькай хатняга віна.

Мікалай Ігнатавіч і цяпер узяў на сябе клопат гаспадара, прапанаваў тост за новы год, які мы ўжо сустрэлі ў дарозе, за шчасце маладых — за нас з Аняй. Мне было трохі няёмка. Пад позіркам Анюцінай маці я ніякавеў, бянтэжыўся. Не ведаю, чаму на мяне напала такая разгубленасць, амаль страх. Я ўкрадкам пазіраў на Аксеню Калюстраўну. Яна пабыла з намі крыху і, спаслаўшыся на позні час, пайшла. Доўга не вытрымала ў застоллі і Аня. Яе зморыў пасля дарогі сон.

З Мікалаем Ігнатавічам мы прасядзелі аж да рання.

* * *

— Што засумаваў, бацька? — Ганна Іванаўна таўханула мяне ў бок, усміхнулася сумнавата: — Падымайся, бо зноў праедзем, як тады...

Я спехам падхапіўся. Закінуў на плечы рукзак з падарункамі. Мы падзякавалі тым маладым, што так ветліва ўступілі нам месца. Яны ўжо, мабыць, і забылі пра нас, бо сцішана сядзелі, абняўшыся,— электрычка памалу разгрузілася, і ў вагоне стала вольна.

Да Новага года заставалася роўна адна гадзіна.

...За вокнамі гуляла-раскашавалася вея-мяцеліца, а ў старой цешчынай хаце было поўна святла і гаманы. Вялікая радня сабралася за навагоднім святочным сталом.

— За Новы год! За мір! За шчасце!

Аня праслязілася. Я здагадаўся — падняўся з келіхам:

— Успомнім нашу добрую і цярплівую Аксеню Калюстраўну. За мацярок нашых!

Афармленне Уладзіміра КРУГЛОВА.

# ЯГО БЕСЯДЗЬ

## ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА

БЕСЯДЗЬ... Вось я зноў напісаў дарагое мне слова і задумаўся. Задумаўся не толькі таму, што яно абудзіла ў маёй памяці мноства асацыяцый і родных сэрцу вобразаў. Не толькі таму, што «птушкі помняць гнёзды свае», хоць гэта і святая праўда.

Я раптам адчуў, што ў маёй свядомасці даўно ўжо жыве дзве Бесядзі: адна з іх — рака майго маленства, а другая вось ужо колькі гадоў жыве ў нашай літаратуры. Прачытайце творы А. Куляшова, І. Чыгрынава, А. Русецкага, В. Хомчанкі, Л. Левановіча, і вы пераканаецеся ў гэтым. Але будзем паслядоўнымі...

Бесядзь, як сведчыць БелСЭ,— «рака, левы прыток Сажа (бас. Дняпра). Даўжыня 261 км. Пачынаецца ў Смаленскай вобласці, цячэ ў Магілёўскай, Бранскай і Гомельскай абласцях. Шырыня рэчышча ад 10—20 м у верхнім цячэнні да 30—40 м у ніжнім, на асобных участках да 100 м».

Не, так, відаць, у нас наўрад ці што атрымаецца — адсунем убок салідны том энцыклапедыі, бо яе сухая навуковая даведка гаворыць усё і ў той жа час — нічога. Прынамсі, у ёй няма ні слова пра самае істотнае: Бесядзь — адна з самых чысцейшых рэк на Беларусі. Далёкая ад прамысловых цэнтраў і густанаселеных гарадоў, яна захавала надзіва чыстую і празрыстую, аж да крынічнасці, ваду. Нават у летні спякотны дзень яна не губляе прыемную, трохі калючую, прахалоду. А цяпер ва ўсё гэта ўдыхніце жыццё, дайце ўволю святла і сонца, уявіце крутыя стромістыя берагі з карабельнымі соснамі і старымі, як свет, дубамі, з аднаго боку, і шырокімі заліўнымі лугамі са шматлікімі старыцамі — з другога. Дадайце да гэтага гарэзлівых ластавак, што жывуць па-над самай вадой у пячорах абрывістых берагоў, не забудзьце руплівых пчол і басавітых чмялёў, якія непадалёк ладзяць свае гнёзды... Я не памятаю, каб прыбяседскія мужчыны, ідучы касіць, бралі з сабою збанкі з вадой — касцы пілі прама з рэчкі. Але затое я добра помню старога Гарашчонка, які, калі верыць мясцовым рыбакам (на Бесядзі ці не ўсе — рыбакі), адпускаў злоўленых акунёў назад у ваду і пры гэтым скептычна дабаўляў: «Чысціць келска...»

Прыблізна такой, толькі, відаць, больш паўнаводнай, а значыць і больш прыгожай, упершыню ўбачыў Бесядзь Аркадзь Куляшоў, якому рака абавязана сваім другім жыццём і сваёй першапачатковай вядомасцю: у 1940 годзе 26-гадовы паэт піша першы варыянт знакамітага верша «Мая Бесядзь». Памятаеце...

Я ўпарты, не кіну пачатае справы,
Каменне крышу, разграбаю пяскі.
Пад кпіны аматараў лёгкае славы
Капаю рэчышча ўласнай ракі.
З надзеяй гляджу на крыніцу
спатканую,
Хачу, каб яна разлілася ракой...
Не Волгай магутнай,
Не нават Камаю,
Хоць Бесяддзю, што на радзіме
маёй.

У гэтых радках увесь Куляшоў! З яго нязрымслівым характарам, з яго вялікімі патэнцыяльнымі магчымасцямі. «Мая Бесядзь» — не проста эстэтычная праграма патрабавальнага да сябе паэта, сэрца якога «абпалена смагай радка», не проста яго жыццёвае крэда, але і вернасць сваім караням, сваёй зямлі. І разам з тым у будучага Майстра ўсё яшчэ наперадзе, ён з надзеяй глядзіць «на крыніцу спатканую». Заўважце, рака Бесядзь таксама пачынаецца з крыніцы...

Магчыма, нехта іранічна ўсміхнецца: «Пашчасціла ж Бесядзі... На яе беразе нарадзіўся Куляшоў». Так, сапраўды пашчасціла! Але будзем справядлівымі — пашчасціла абаім. І паэту, і рацэ. Уздзеянне прыроды на чалавека, на яго лёс, на фарміраванне яго як асобы наогул цяжка пераацаніць — гэта аксіёма. А калі чалавек яшчэ і паэт...

Пра тое, што Бесядзь, Прыбяседдзе зна́чылі для Аркадзя Аляксандравіча, вельмі цёпла расказвала маці пісьменніка Кацярына Фамінічна Ратабыльская, незабыўную сустрэчу з якой падарыў мне лёс улетку 1981 года. Кацярыну Фамінічну я заспеў жывой-здаровай у Хоцімску — маляўнічым гарадку па-над Бесяддзю — за спрадвечным сялянскім заняткам: 89-гадовая жанчына, былая настаўніца, жала ячмень у сваім клапатліва дагледжаным садзе. Помніцца, першае, што мільганула ў памяці: «Я маці абавязан кожнай рыскай». Настолькі відавочным аказалася падабенства маці і сына. У нас на Магілёўшчыне ў такіх выпадках кажуць: як выкапаны. Уразіла і яшчэ адна акалічнасць — маці паэта жала залітую сонцам палоску. Разумееце, жала! Я б не здзівіўся, каб не ведаў, што тэма жніва адна са скразных тэм у лірыцы позняга Куляшова. Гэта і «Адзіны серп на сённяшнім жніве», і «Сноп апошні залатога жыта», і, вядома, вось гэтае, класічнае:

І ёсць адказнасць перад строгім
вершам,
Перад яго пачаткам і канцом,
Каб баразну радком пачаўшы
першым,
У сноп звязаць шаснаццатым
радком.

— Сын вельмі любіў гэтыя мясціны, любіў тутэйшых людзей, іхнюю гаворку,— расказвала Кацярына Фамінічна,— заўсёды сюды імкнуўся. Тут яму добра думалася і лёгка пісалася. У маладосці Аркаша вельмі любіў саматэвіцкія кірмашы. Яны адбываліся штолета на Ілню. Ах, якія гэта былі кірмашы!.. Падабалася на Бесядзі і Аркадзевым сябрам. Юлька і Зміцрок часта ў нас гасцілі. Юлька дык той нават верш пра нашага Дуная склаў.

Юлька і Змітрок... Так па-свойску, па-мацярынску ласкава, называла яна мсціслаўскіх паэтаў Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенку, якія неаднойчы бывалі ў доме Куляшовых.

Усё помніць сэрца маці... І пра сына, і пра яго таварышаў яна гаварыла цёпла і спагадліва. Як пра жывых. Я слухаў яе зусім нестарэчы голас, і ў мяне міжволі нараджалася адчуванне іхняй прысутнасці: быццам яны толькі што былі тут, сядзелі, гаманілі, а цяпер выйшлі некуды на Бесядзь і вудзяць рыбу...

Помніцца, у той вечар я з хваляваннем і новым разуменнем перачытваў куляшоўскі «Маналог», прысвечаны памяці любімых сяброў, незаконна рэпрэсіраваных у чорныя трыццатыя... Я зразумеў, які неймаверны боль, якую незагойную рану насіў паэт у сваім сэрцы праз усё жыццё. Сёння, калі пра сталінскія рэпрэсіі мы даведаліся горкую і страшную праўду, «Маналог» успрымаецца яшчэ больш балюча, гучыць яшчэ больш трагічна:

Адзін памёр ад тыфусу брушнога
За кратамі, сярод муроў сырых,
Без стужак, без вянкоў, без
некралога,
З клеймом абвінавачвання цяжкога,
Згубіўся ён сярод магіл чужых.

Гэта — пра Юлія Таўбіна.

Другі на фронт з таежнага барака
Шчаслівы ўцёк. За валам агнявым
Яго салдацкі штык вяла атака,
Там ён на смерць пад прозвішчам
сваім
Хадзіў і пахаваны разам з ім.

Гэта — пра Змітрака Астапенку.

Хай згублены сляды іх захавання.
Не страчаны іх сувязі з зямлёй,
Яны для іх — не вечны супакой,
А месца пасмяротнага спаткання,
Прызначанага ў памяці маёй.
Пакуль жыву, яны жывуць са мной.

А гэта — пра іх і пра сябе.

Думаецца, няцяжка здагадацца, што кожны прыезд на малую радзіму быў для паэта шчымлівым спатканнем з маладосцю, а значыць — і з імі.

Пра тое, што Бесядзь значыла для Куляшова, сведчыць і яго апошняя паштоўка, у якой паэт віншаваў з Новым годам свайго старога сябра, любімага настаўніка Сцяпана Андрэевіча Брыльянтава, які вучыў яго яшчэ ў сямігодцы: «Спадзяюся, што хутка зноў пабачуся з вамі ў Саматэвічах, родных маймy сэрцу». На жаль, спадзяванне не спраўдзілася — у тую зіму Аркадзя Аляксандравіча не стала.

...Па-ранейшаму імклівa бяжыць празрыстая Бесядзь. Бяжыць праз лясы, лугі. Усё гэтак жа блішчаць-пераліваюцца на яе пясчаным дне адшліфаваныя вякамі каменьчыкі. Але касцы ўжо наўрад ці адважацца піць яе ваду, як пілі ў гады жыцця Куляшова. Чарнобыльская бяда закранула сваім страшным крылом і Бесядзь, а родныя сэрцу паэта Саматэвічы ўвайшлі ў радыяцыйную зону.

Не, не выпадкова хваляваўся і непакоіўся паэт, раздумваючы над шляхамі цывілізацыі, над заўтрашнім днём чалавецтва:

Зноў прыпадае з жалем Бесядзь
родная
Да каранёў дуброў, да ног сяліб —
Хвалюецца, што нечысць
вадародная
Даверлівых яе атруціць рыб.

І калі вы думаеце гэта напісана? У 1963 годзе! Тут ёсць над чым падумаць і ёсць чаму здзівіцца, і ўсё ж здзіўляцца, відаць, не варта — вялікі паэт заўсёды прарок!

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

*Валерый МАСЛЮК, вершы якога мы прадстаўляем, вядомы больш як галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага. Ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. І тое, што Валерый яшчэ і паэт, дарэчы, паэт своеасаблівы, са сваім паэтычным голасам, са сваім бачаннем свету, відаць, не ўсе ведаюць, бо Валерый Маслюк друкуецца мала. Дэбютаваў жа даволі даўно і за гэты час паспеў выйсці да чытачоў у калектыўным зборніку «Сцяжына» (1983). Вершы яго вылучаюцца не толькі тым, што ў большасці сваёй напісаны верлібрам, а і тым, што кожны яго твор пранізаны святлом, якое, трапляючы ў душу чытача, застаецца ў ёй назаўсёды.*

*Паэт нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Ропна на славутай Полацкай зямлі, якую ён любіць, за якую ў яго баліць душа, і таму нядзіўна, што гэтыя пачуцці прысутнічаюць у кожным яго творы.*

*Вершы Валерыя Маслюка нешматслоўныя, але змястоўныя і метафарычныя, і мы спадзяёмся, што яны не пакінуць нашых чытачоў абыякавымі.*

✦

Што адбываецца?
Што адбываецца?
Не засынаецца.
Не прачынаецца.
Постаці дрэў
Ветрам скамечаны.
Кожная дробязь
Ачалавечана.
Ліст на падлозе
Нішма —
Анёлак забіты
Быццам.
Ціха смяецца
Лямпа начная...
Цябе не хапае.
Помніш:
Некалі ўсё —
Ад гузіка да сусвету
Поўнілася табой,
Пахам тваіх валасоў,
Гукам слоў,
Ціхім смехам,
Тваім і маім існаваннем...
Няўжо не каханне?
Няўжо, як заўсёды,
Заўтра настане?
Лета закаласіцца?
І нехта
Твае суніцы
Вуснамі будзе зрываць,
Як і ты ў той ліпень?
А помніш наш лівень?
Няўжо не помніш:
Кроплі, нібы гарошыны,
Білі па твары пякуча...
Госпадзі,
Як балюча.
Добры дзень!
І зноў пакута:
Як назваць цябе
Цяпер?
Словы супраць.
Нараджаючыся,
Халоднымі цаглінамі кладуцца
на паперу,
Вырастаюць у будынак праўды
Без цяпла,
Дзе ў кожным вугле
Прамавугольная дрэмле ўсмешка.
Людзі, звяры і птушкі,
Радзіма мая —
Усё, з чаго складаецца
сутнасць!
Скажыце,
Чаму памірае каханне?

✦

Каханая заснула.
Ля шчакі
я адчуваю
цеплыню дыхання
і вечнай таямніцаю
кахання
бялее ў цемры
лінія рукі.



**Валерый МАСЛЮК**

### В. Быкаў. «Знак бяды»

Ці то сон,
ці то памяць крылом
зачапіла,
але з ночы ў ноч
неадвязны прывід:
людзі ў белым,
як крыж —
толькі б моцы хапіла! —
на схуднелых плячах
цягнуць свой знак бяды.
Не адрынуць, не стаць,
не ўзваліць на суседскія
плечы.

Знак і людзі — адно,
паяднанае часам Адно.
Шоргат стомленых ног,
суму вечная песня
пра чаканы спакой
і душы жытло.

Апускаюць гады
на цяжар свае рукі,
б'юць дажджом,
неўраджаем гнятуць.
Попел войнаў і бед
павялічвае мукі.
У чаканні чаргі
дзеці побач брыдуць.
Адпачыць бы і ім,
паляжаць у траве духмянай...
Не сціхаецца ход,
не з'яўляецца ціхі дом...
Ды і як паляжыш? —
раптам стоміцца тата ці
мама...

Сон усё гэта,
ці можа бяда
і мяне зачапіла крылом?

---

*Свой першы зборнік **Алесь БАДАК** назваў, можа, і надзвычай празаічна: «Будзень», але яго вершы, як правіла, аб тым будзённым, што далёка не будзённае, бо яно — ад душы маладога чалавека, вельмі чулай і ўзнёслай, ад яго шчымлівага роздуму, засяроджанага ў клопаце пра шчасце чалавечае, зямное, штодзённае, будзённае. Галоўнае, што малады паэт — увесь у пошуку праўды, праўдзівага слова пра складанасць жыцця, лёсу — свайго і сваіх сучаснікаў-аднагодкаў і неаднагодкаў, увогуле сваёй Радзімы з яе праблемамі сённяшнімі і з яе лёсам гістарычным і легендарным. Ёсць у вершах Алеся Бадака і шырокая разгалінаванасць тэм і матываў, і прастор для думак і эмоцый, што сведчыць аб унутраным духоўным багацці яго лірычнага героя. Сам паэт імкнецца намацаць арыгінальны рытм, інтанацыю, танальнасць, своеасаблівую вобразнасць, кампазіцыю верша. У цэлым усё гэта выразна сведчыць, што ў беларускую паэзію ў асобе Алеся Бадака ідзе яшчэ адзін паэт арыгінальны, шчыры, праўдзівы і глыбокі.*

**Алег ЛОЙКА.**

### Душа

Расстралялі паэта.
І цела вярнулі зямлі.
І на неба душу адпусцілі паспешна.
Але ўгору ўзляцеў адно птушак
зажураны клін,
А душа засталася
У вершах.

А калі тыя вершы схавалі ад
зроку людзей,
Падалася душа вандраваць
па краіне.
І, адкрытая свету,
Яна адчувала мацней
І любоў, і нянавісць.
І ў мілай Айчыне

Зарыдала душа у пякельных
слязах да краёў,
Закрычала душа прад людзьмі
на каленях:
— Што ж вы робіце з моваю
Вашых бацькоў і дзядоў!
Што ж вы так пагарджаеце
Вашым найменнем!

Здрыганулася неба.
Сарваліся спуджана і —
Зіхатлівыя зоркі уніз паляцелі.
Толькі людзі не чуюць
Ні крыку,
Ні плачу,
Калі
Не адзета душа
І ні ў верш,
І ні ў цела!

Расстралялі паэта.
І цела вярнулі зямлі.
У трыццатыя
Гэта рабілі паспешна.
Узлятаў над Айчынаю птушак
зажураны клін,
А душа заставалася ў вершах.

### Пагоня

Я крыкну —
і крык мой ахрыплы патоне
У стомленым груку гарачых
падкоў.
Спынюся —
мяне насцігае
Пагоня
Скрозь памяць далёкіх, забытых
гадоў.

У чым вінаваты я перад табою,
О мудры мой продак?!
Скажы мне, а мо
Бярог ты Радзіму сваю тады болей?
І мы ж яе ворагам не аддамо!

Скрозь памяць ляцяць узмакрэлыя
коні.
За што ты караеш?
Чаму ты маўчыш?
Бліжэй і бліжэй за спіною
Пагоня,
Ніжэй і ніжэй нада мною
Мячы...

### У тумане

Нехта нябачны
У шэрым тумане
Ціха гукаць мяне
Вечарам стане
Голасам, поўным
Пяшчоты і болю.
— Хто ты? — спытаю.
Адкажа мне:
— Воля!
Толькі пачну
Да яе набліжацца —
Голас паціху
Пачне аддаляцца.
Следам пайду я,
І будзе навокал
Шэры туман,
Хоць выкалі вока.
Сэрца заные
І стомяцца ногі.
Стану.
Адчую,
Што збіўся з дарогі.
Гляну уніз —
Там недзе
Далёка
Сонца пачне
Выплываць з-за аблокаў.

### Госць

Жывуць у небе змалку
На лецішчы вятроў
Сястра мая маланка
І сумны брат мой гром.

Там холад і пустэча
І ціш ва ўсіх канцах.
І цьмяна зорак свечкі
Там свецяць па начах.

Нараніцу прачнуся
Ад холаду.
І зноў
Захочацца вярнуцца
З гасцей хутчэй дамоў.



**Алесь БАДАК**

* * *

Снег таропкі.
Пабялелы
І аглушаны ім ранак.
Вашы думкі вам балелі
Успамінам,
Нібы раны?

Той жа горад.
Той жа скверык.
Я ізноў сюды вярнуўся.
Белы снег на белым свеце.
Пад яго цяжарам
Гнуся.

### На пашы

Мулка на цені сваім пастушку.
Жмурыць блакітныя вочы і сумна
У неба глядзіць і чакае, пакуль
Воблака
Сонца ў кішэню засуне.

Зрэдку падыме цяля галаву
І на раку пазірае.
Цягнецца пуга далей у траву,
Ды пугаўё не пускае.





У суботу вечарам.


Дзень нараджэння Вадзіма.

# ФОРМУЛА СЯМЕЙНАГА ШЧАСЦЯ: КАХАННЕ + АДКАЗНАСЦЬ +...

*Уладзімір і Ала ЦВЯТКОВЫ*
*лічаць сябе шчаслівымі. У іх ёсць усё,*
*што неабходна чалавеку для сямейнага шчасця —*
*каханне, дзеці*
*(Валі нядаўна споўнілася чатыры гады, а Вадзіму — усяго два),*
*трохпакаёвая кватэра,*
*дзе яны жывуць з цешчай і бабуляй,*
*нарэшце, любімая работа, сябры...*
*Звычайная савецкая сям'я.*
*Жыве яна ў адным з мікрараёнаў нашай сталіцы*
*ў стандартным пяціпавярховым доме*
*на вуліцы Янкі Маўра.*
*Мы пабывалі тут. Пазнаёміліся з кожным членам гэтай тыповай,*
*як нам падалося,*
*маладой сям'і канца васьмідзесятых гадоў.*
*Хочам пазнаёміць і вас.*

## *УЛАДЗІМІР*

Мы з Алай вучыліся ў адной школе, але адзін аднаго амаль не ведалі. Нас пазнаёміла яе сяброўка. З таго дня мы сустракаліся, пакуль я не пайшоў у армію. Потым перапісваліся. Мне пашанцавала: я служыў непадалёку ад Мінска, таму Ала часта прыязджала да мяне. За чатыры гады можна было разабрацца ў сваіх пачуццях. Звольніўся ў запас, і — адразу пажаніліся.

Пасяліцца вырашылі ў Алы. У яе мамы, Таісы Станіславаўны (яна пенсіянерка), трохпакаёвая кватэра, дзе жыве таксама Аліна бабуля. У нас свой пакой, у дзяцей — свой. Так што пакут з жыллём, як гэта часта бывае ў маладых, перажыць не давялося.

Улетку 1984 года нарадзілася Валя. Дзякуючы Таісе Станіславаўне мы не адчулі цяжкасцей з першым дзіцем. Дый на другога рашыліся галоўным чынам таму, што разлічвалі на яе дапамогу. Падтрымка цешчы, яе парады для нас неацэнныя.

Кожны, хто заводзіць сям'ю, думае, ці зможа ён яе забяспечыць. Я працую фатографам 5 разраду ў фоталабараторыі НДІ прыборабудавання. Займаюся тэхнічнай фатаграфіяй. Атрымліваю ў месяц у сярэднім 200 рублёў. Работа задавальняе мяне і маральна, і матэрыяльна.

Але жывеш не для адной работы. Трэба яшчэ з карысцю праводзіць вольны час. Хаця са з'яўленнем дзяцей яго стала намнога менш, але тут зноў выручае цешча. Скажу адразу, што без яе наша сямейнае жыццё склалася б інакш. Дзякуючы Таісе Станіславаўне мы маем магчымасць і кнігі чытаць, і ў тэатры, і ў кіно, і на выстаўкі хадзіць, і спортам займацца. У нас у інстытуце праводзіцца шмат спаборніцтваў. Я люблю спаборніцтвы па міні-футболу, лыжах, кросу... Удзельнічаю не столькі дзеля спартыўных дасягненняў, колькі для падтрымкі бадзёрасці і добрай фізічнай формы.

Захапляюся таксама партрэтнай фатаграфіяй. Ёсць пяць фотаапаратаў розных марак, павелічальнік, кінакамера. Зрабіў два вялікія фотаальбомы са здымкамі дзяцей, удзельнічаю ў выстаўках мастацкай фатаграфіі.

І ўсё ж нішто так не з'ядноўвае сям'ю, асабліва маладую, як трывалыя традыцыі. Асабліва, калі яны закладваюцца з маленства. Традыцыі — гэта тая нябачная сіла, тая жывая вада, якая надае сямейнаму калектыву небывалую моц, стойкасць у жыццёвых бурах.

Сямейныя святы — гэта таксама наша традыцыя, прычым шматгадовая. У гэты дзень мы ўсе разам, і ўсім нам хораша. Сярод самых любімых свят — сустрэча Новага года. Калі дзеці былі маленькімі,

выкарыстоўвае для канчатковага разліку з жыццём часцей, чым зброю;

— пра паляўнічае ружжо яго ўладальнік успамінае не толькі напярэдадні адкрыцця сезона. Ён — здараецца — у раз'юшаным стане смаліць з двух ствалоў у суседа, што пакрыўдзіў яго, або па падлетках, якія залезлі ноччу ў сад...

— ружжы становяцца «аргументамі» ў спрэчках з жонкай, роднымі. Добра, калі не гучыць стрэл...

— зброя паляўнічых трапляе да злачынцаў: часам яе крадуць, часам — забіраюць;

— дзеці і зброя ў доме — гэта наогул самастойная і горкая тэма: занадта часта якраз у дзіцячых руках страляюць «незараджаныя» ружжы;

— за апошні сезон зарэгістравана каля 1.400 парушэнняў правіл палявання, браканьерства і г. д.

На гэтым пералік падобных фактаў я спыняю: не таму, што іх больш няма, а таму, што — занадта многа.

Мне запомніліся словы Анатоля Рыгоравіча:

— Нехта забіў у запаведніку лася. Прысылаюць пыж. Вось, маўляў, знойдзены на месцы злачынства. Цяпер знайдзіце ўладальніка ружжа. А ўладальнікаў ружжаў значна больш, чым афіцыйна зарэгістравана. Таму што раней паляўнічая экіпіроўка прадавалася свабодна. Само жыццё патрабавала абмежаваць і ўзяць пад кантроль продаж зброі. Цяпер, можа, прыйшоў час наогул спыніць гандаль ружжамі? Занадта вялікую цану грамадства плаціць сёння за хобі невялікай колькасці сваіх грамадзян. А разумным рэгуляваннем колькасці жывёлы няхай займаюцца тыя, для каго гэта — прафесія.

## II. ГЕН ЗБРАЯНОСЦА

— У кожным з нас сядзіць «ген збраяносца»,— гаворыць эксперт Самец.— Вельмі сумленны чалавек падыме з тратуара кашалёк, выявіць клад, знойдзе чужыя ключы — прыйдзе ў міліцыю або дасць аб'яву. Але калі ён вa раптам стане ўладальнікам пісталета, кінжала, ружжа — пачне хаваць іх, любавацца імі, будзе захоўваць гэту сваю таямніцу. За рэдкім выключэннем таямніца і ўлада кінжала, пораху, ружжа не зніклі, наадварот, сталі больш рамантычнымі, прыцягальнымі... А адчуванне падпарадкаванай табе сляпой смяротнай сілы не робіць людзей лепшымі...

Зразумела, што чым радзей будуць гучаць у лясах, гарадах і вёсках стрэлы, тым менш будзе работы ў крыміналістаў МУС рэспублікі. Афіцэр Самец тут, безумоўна, адстойвае ведамасны погляд. І вось такі ведамасны погляд і падыход трэба назваць правільным. Пры зносе будынкаў да гэтага часу знаходзяцца боепрыпасы, рэвальверы, пісталеты, якія па 30—40 гадоў захоўваліся ў ідэальным стане. Іх уладальнікі памiралі, але і дзецям не гаварылі аб існаванні сховаў. З часоў вайны людзі хаваюць аўтаматы, штыкі, снарады... Снарады — глушыць рыбу, аўтаматы і штыкі — біць дзікоў.

Усё гэта ёсць. З'явіліся фанатыкі, якія нелегальна спрабуюць «канкурыраваць» з ваенным канструктарам Калашнікавым. У Гродне, напрыклад, інжынер аднаго з заводаў некалькі разоў прыцягваўся да адказнасці за выраб зброі. Справа нават не ў тым, што з заводскай сталі, на дзяржаўных станках нараджаліся яго прымітыўныя, але ўсё-такі здольныя забіваць «цацкі». Справа ў іншым: чалавек так захацеў узброіцца, што зрабіў пісталет-кулямёт. Зрабіў і сам не мог растлумачыць — навошта.

— Проста вельмі захацелася мець нешта вельмі падобнае на аўтамат.

Яго, вядома, пакаралі. І ніхто не падумаў: чалавек жа таленавіты. Але чаму не новую сокавыціскалку, напрыклад, а грозны сродак знішчэння захоплена вынаходзіць ён? Такія «прыхільнікі зброі» хочуць стаць членамі таварыства паляўнічых, хочуць легальна быць «пры ствале». У іх гэта (амаль заўсёды) не атрымліваецца. Добраахвотнае таварыства, няхай адзначыць, нават людзям з эліты, але з «грашкамі», ружжо ў рукі не дае. І тут мы павінны сказаць яму дзякуй. Але... Калі ў мужчыны, які адчуў дзікае жаданне мець зброю, няма магчымасці адкрыта яе купіць,— ён яе шукае і... знаходзіць.

У вёсках у старых удоў, у паляўнічых, якія заяўляюць аб «згубленым у балоце ружжы», часам зброю проста крадуць. І як крадуць!

Вось у Оршы зусім нядаўна адбылося наступнае. Пяць малакаліберных вінтовак украў з ціра грамадзянін Н. Прынёс іх і восем тысяч (8 тысяч!) патронаў у гараж. Паклікаў сяброў:

— Ну, як? Нядрэнныя рэчы?

— Арсенал!

Пачалі, вядома, страляць. Аднаго са сваіх сяброў забілі. Выпадкова забілі. Таму што ў руках было шмат «ствалоў» і тысячы патронаў. Перапалохаліся смяротна. Мёртвага сябра кінулі ў Днепр, у палонку. Было гэта ў студзені. А ў красавіку каля Шклова труп усплыў.

І вы думаеце, што ўдзельнікі забойства пазбавіліся за тры месяцы ад ружжаў? Не. Яны зрабілі з іх «абрэзы» і адшліфавалі каналы ствалоў. Такая ўжо сіла ў зброі — цяжка з ёй развітацца.

— Цяжэй, чым з нявестай,— зусім сур'ёзна гаворыць Самец.

Самая вялікая колькасць нелегальна ўзброеных мужчын — у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Паляўнічых там таксама шмат. І лік надзвычайных здарэнняў — як няцяжка здагадацца — па гэтым рэгіёне вядзецца з уразлівай стабільнасцю. Некалькі месяцаў назад, напрыклад, у раёне Кобрына адбылося разбойнае нападзенне на вадзіцеляў замежнага аўтамабіля грузавых перавозак. Злачынства пакуль не раскрыта. І таму расказваць аб ім цяпер я не буду. Магу толькі адзначыць, што на вадзіцеляў было настаўлена паляўнічае ружжо. Дакладней — «абрэз». «Абрэз» з ружжа, якое некалі было прададзена паляўнічаму.

## III. СНАЙПЕРЫ З ДЗІЦЯЧАГА САДА

Гэты раздзел будзе даволі кароткі. Але ён — патрэбен. Відаць, са мной тут не змогуць пагадзіцца некаторыя чытачы. І ўсё-такі некалькі слоў на тэму «Дзеці і зброя».

У нашых дзяцей занадта многа цацачнай зброі. Пры багацці пластмасавых пісталетаў і аўтаматаў яны мараць пра «сапраўднае» ружжо, пісталет, фінку... І робяць «пугачы», «самапалы», «узрыўпакеты»... Калі мы думаем, што гэта выхоўвае кемлівасць і мужнасць,— вельмі памыляемся. Гэта калечыць і ў прамым і ў пераносным сэнсе нашых хлапчукоў.

Кемлівасць, на самай справе, выхоўвае захапляючая гульня або, напрыклад, дзіцячы камп'ютэр. А іх — няма. Мужнасць прыходзіць з пераадоленнем цяжкасцей, з перамогай над сабой і сваім, напрыклад, ранейшым спартыўным рэкордам. Але дзе вы бачылі за апошнія гады танны і добры дзіцячы спортінвентар? Затое колькі душа пажадае — цацачных гармат і аўтаматаў, кулямётаў, пісталетаў і шабель, кортыкаў... Не ведаю, не ўпэўнены, што пяць—дзесяць пластмасавых ружжаў і амаль сапраўдная кабура выдатна выхоўваюць пачуццё патрыятызму ў дзіцяці. Не пераканаць, што гульні «Паляўнічы ў джунглях», дзе трэба па-снайперску страляць у жырафу, тыгра або ў кенгуру, вучаць мужнасці, дабрыні.

## IV. ДЭФІЦЫТ ДАБРАТЫ

Паступова адыходзілі ў мінулае баі гладыятараў, рыцарскія турніры, катаванні інквізіцыі, рабства, адмяняліся пакаранні смерцю... Ужо ў наш час у радзе краін прымаюцца законы, якія забараняюць мучыць і па-варварску забіваць жывёлу. Праўда, мы пакуль аб падобных законах толькі думаем і толькі пачынаем гаварыць...

Наогул, аб многіх нашых наспелых і пераспелых праблемах сказаны толькі першыя словы. Вось — армія. Наша выдатная, слаўная армія таксама, здаецца, перастае быць «зонай, закрытай для крытыкі». Да нядаўняга часу ўсе, хто служыў, відаць, ведалі аб «дзедаўшчыне», жорсткіх, «нестатутных адносінах», афіцэрах-браканьерах, выпадках крадзяжу боепрыпасаў і зброі, забойствах і самагубствах ваеннаслужачых... Але ніхто аб гэтым не гаварыў адкрыта: генералы — не хацелі, журналісты — не маглі. А ад замоўчвання «негатыўных з'яў» гэтыя самыя «з'явы» не зніклі.

Менавіта гонар, дабрата (а дзе дабрата — там і сапраўдная мужнасць) заўсёды вызначалі абаронцаў нашай Айчыны. Аднак тыя хваробы, ад якіх цярпела грамадства, не маглі не закрануць і ваенных...

— Раз мы сёння гаворым пра зброю, то тут трэба шчыра прызнаць: не ва ўсіх армейскіх падраздзяленнях наладжан яе строгі ўлік,— пачуў я ад эксперта Самца.

Ён — адзін з тых, хто працуе па «Барысаўскай справе». Гэта злачынства паспела абрасці чуткамі, домысламі. Таму — коратка — аб тым, што ж на самай справе адбылося ў лясным масіве ля Барысава.

Двое юнакоў і двое дзяўчат ноччу каталіся на аўтамабілі. Заехалі ў лес. Калі адзін з хлапцоў нахіліўся перамяніць касету ў магнітафоне — прагучалі выстралы. Толькі аднаго яго абмінулі кулі... Малады мужчына служыў у Афганістане і змог хутка з'арыентавацца: прыкінуўся мёртвым.

Дзяўчаты (кожнай не споўнілася і 20 гадоў) загінулі, другі юнак быў паранены.

Аўтамабіль расстрэльвалі з аўтамата. Забойцы падышлі, узялі магнітафон, грошы і дакументы. І — пайшлі.

Калі баявая зброя аказваецца ў руках у бандытаў — яна нясе бессэнсоўныя, на першы погляд, смерці. Бо, напрыклад, «барысаўскія» забойцы маглі і не стаць забойцамі: перад ствалом «калашнікава», у 12 ночы, у лесе, маладыя людзі не сталі б шкадаваць магнітафона...

Але такая ўжо заканамернасць: украдзены пісталет або аўтамат нібы ап'яняе, туманіць розум, абуджае ў злачынцы (украў — ужо злачынца) жаданне атрымаць асалоду сілай зброі, «суперменствам».

Вядома, вельмі і вельмі важны строгі кантроль за боепрыпасамі і зброяй у ваенных частках. А ён яшчэ не такі, які павінен быць. Інакш не было б «Барысаўскай справы», не выявілі б нядаўна на паштамце ў Мінску пасылку з... баявымі гранатамі. Іх укралі, каб глушыць рыбу. Так, «ціхае паляванне» бывае і вельмі гучным і — бязлітасным, «здабычлівым». Не хачу ўтойваць: у канцы нашай гутаркі з крыміналістамі МУС рэспублікі размова (як мне здалося — нечакана) зайшла аб былых воінах-інтэрнацыяналістах.

Маладыя людзі бачылі ў Афганістане смерць таварышаў. Забівалі самі. Яны перажылі такое, што некаторыя з іх цяпер не лічаць жыццё чалавека найвялікшай каштоўнасцю. І гэта таксама трэба ведаць. Ведаць для таго, каб мець магчымасць сёння дапамагчы тым, хто ўчора дапамагаў рэвалюцыйнаму Афганістану, хто неўзабаве пасля школьных экзаменаў апынуўся на вайне.

Я зараз не стану называць імя юнака-ветэрана, якому было «што дзіка забіць, што — чалавека» і якому ўжо нельга дапамагчы. Я коратка раскажу, як і з-за чаго ён пайшоў на жахлівае злачынства.

У адным Мінскім рэстаране хлопец пазнаёміўся з прапаршчыкам. Калі прапаршчык расплачваўся з афіцыянтам — ветэран баёў у Афганістане заўважыў у яго вялікую суму грошай. І з-за грошай учарашні салдат вырашыў забіць новага знаёмага. Ён прапанаваў прапаршчыку «паехаць да дзяўчат». Паехалі...

Спачатку пабывалі ў Серабранцы на кватэры «афганца». Ён узяў бутэльку гарэлкі і сякерку. Затым адвёў прапаршчыка да ракі, засек яго, распрануў, узяў кашалёк.

— Я бачыў столькі крыві, што рука не здрыганулася...— гаварыў юнак потым, пасля арышту.

* * *

Відаць, толькі ўрачы ды эксперты-крыміналісты дастаткова добра ведаюць, як часта адбываюцца забойствы, раненні і самагубствы — наўмысныя, неасцярожныя, выпадковыя... Будзённыя трагедыі.

Сёння вельмі многа плакатаў са словамі «Не — зброі на зямлі!». Добры і правільны заклік. Але ці не настаў час нам сказаць «Не!» і зброі ў нашых дамах?

Валерый ЛАРЫН.

**Васіль ГІГЕВІЧ**

АПОВЕСЦЬ

# ШТУЧНЫ РОЗУМ

Калі за глухой сцяною ад чалавека будзе знаходзіцца кібернетычная машына, якая зможа весці такі дыялаг з чалавекам, што ён не здолее адрозніць, хто з ім размаўляе, чалавек альбо машына, то гэта азначае, што чалавек — кібернетычная сістэма...

Фактычна з гэтага пастулата Мілера і пачалося развіццё кібернетыкі; намаганні многіх вучоных былі скіраваны на тое, каб стварыць такую кібернетычную машыну, якая б вяла дыялог з чалавекам на роўных...

Доўгі час пасля заканчэння матэматычнага цэнтра Мілер працаваў у закрытай вайсковай установе. Бясспрэчна, што мы ніколі не ўведаем, якімі праблемамі ён там займаўся. Там жа, у закрытай вайсковай установе, Мілер зрабіў шмат фундаментальных адкрыццяў, абараніў доктарскую. Аднойчы, калі журналісты надта ўжо прычапіліся да Мілера з пытаннямі наконт адказнасці вучонага за свае адкрыцці, ён так сказаў:

— Мне, як вучонаму, які вывучае і спазнае аб'ектыўныя законы прыроды, што існуюць насуперак волі і жаданням людзей, нацый і народаў, мне зусім няважна, на чыю часовую карысць пойдуць мае адкрыцці. Я не вінаваты, што нарадзіўся тут, у Злучаных Штатах, я не вінаваты, што гэта дзяржава аплачвае мае фундаментальныя даследаванні. Магу запэўніць вас у адзіным: седзячы ў рабочым кабінеце, займаючыся разлікамі, я нікога не забіваю ды і не магу забіць. Навука, як вам вядома, не належыць адной нацыі, адной дзяржаве, навуковы прагрэс — з'ява інтэрнацыянальная, адкрыцці вучоных належаць усяму чалавецтву. Адкрыццямі Ньютана, Кеплера, Ома, Эйнштэйна карыстаюцца ўсе людзі, усё чалавецтва...

Не буду каменціраваць гэтае інтэрв'ю, яго і без мяне шмат каменціравалі журналісты, адны — абвінавачвалі Мілера ў апалітычнасці, другія — у хітрай дэмагогіі...

Пра асабістае жыццё Мілера ўвесь час пладзілася шмат чутак і плётак, верагодных і неверагодных, мне іх пераказваць не варта, магу сказаць толькі, што ў свае пяцьдзесят Мілер быў адзінокі, дзяцей у яго не было, і гэта яго не засмучала. Жанчын ён не пазбягаў, але і вялікай прывязанасці да іх у яго не было. Сярод блізкіх людзей Мілер часта гаварыў: «Самае дарагое для мяне — асабістая свабода, яе не прамяняю ні на якое салодкае сямейнае ярмо...»

Мілер меў асабістую двухпавярховую вілу за горадам, тры легкавыя машыны і ўсё астатняе, што можа дазволіць сабе чалавек у нашым грамадстве, які мае некалькі легкавых машын.

Жыццё Мілер вёў даволі аскетычнае: работа ў закрытых лабараторыях, дзелавыя сустрэчы, тэніс, паляванне, рыбалка, строгая дыета — усё гэта ў Мілера было загадзя распісана, запланавана і, што самае дзіўнае для сучаснага чалавека, усё гэта акуратна выконвалася ў прызначаны час. Ніхто ніколі не бачыў Мілера п'яным. Найбольш ярка характарызавала Мілера мянушка, якую аднойчы прыляпілі журналісты: Машына... Мілер — Машына...

Сапраўды Мілер нечым нагадваў машыну, спраўную, дакладную кібернетычную машыну, якая ў сваёй рабоце не ведае збояў і сумненняў.

Адных людзей Мілер прыцягваў дзелавітасцю, пунктуальнасцю, другіх нечым палохаў, аднак, бадай, ніхто не заставаўся раўнадушным, калі чуў пра Мілера. «А-а, Мілер-машына!..» — у гэтых словах маглі быць і іронія, і павага, і нават зайздрасць — што хочаш, ды толькі не абыякавасць.

У свой час мне таксама ўдалося ўзяць інтэрв'ю ў Мілера. Дарэчы, што здзіўляла многіх, гэта тое, што Мілер ніколі не рабіў таямніц са свайго жыцця, са сваіх поглядаў на жыццё. Ён часта і ахвотна даваў шматлікія інтэрв'ю, разважаючы пра розныя праблемы, часта зусім процілеглыя, напрыклад, у адным інтэрв'ю ён мог гадзінамі разважаць пра жаночую эмансіпацыю альбо сексуальную рэвалюцыю, праблемы якой горача абмяркоўваліся ў спецыфічных жаночых часопісах, а ў другім — пра навейшыя гіпотэзы і тэорыі касмагоніі...

Зноў жа, каб не траціць марна час, я прывяду сваё інтэрв'ю, якое некалі абышло многія выданні. Адзінае, што цяпер зраблю,— паспрабую заадно пераказаць некаторыя з маіх тагачасных думак.

— Доктар Мілер, як вы адносіцеся да смерці?

— Да чыёй?

— Да смерці чалавека ўвогуле... Смерць любога чалавека, і мая, і ваша ў тым ліку,— гэта нейкі парог, за якім адны людзі бачаць хаос, бездань, а другія — працяг жыцця, пабудаванага па невядомых нам законах. Што вы бачыце?

— Я пакуль нічога не бачу, малады чалавек... (О-о, я і цяпер памятаю ягоную ўсмешачку! Хоць на той час я і быў пачынаючы журналіст, але ўжо тады я не раз адчуваў такія ж скептычныя ўхмылачкі, позіркі спецыялістаў, якія з вышыні сваёй спецыяльнасці браліся тут жа разважаць пра ўсё на свеце, няважна, хто яны былі: вучоныя, медыкі, эканамісты,— але ўсмешачкі і позіркі ў іх былі адны і тыя ж...) Смерць — ёсць смерць. Пакуль жывы, я магу разважаць пра яе. Толькі і ўсяго. Дарэчы, а чаму, малады чалавек, вас гэта турбуе? Ці вы, можа, плануеце абмінуць яе?

— Гэта не толькі аднаго мяне хвалюе. Як мне вядома, загадка смерці хвалявала і хвалюе чалавецтва на працягу ўсёй гісторыі.

— Вам можа падацца неверагодным, але я афіцыйна заяўляю — і вы гэта можаце запісаць: мяне загадка смерці не хвалюе.

— Значыць, калі не памыляюся, вы лічыце, што ўсе загадкі чалавечага быцця можна вывучыць і растлумачыць з дапамогаю фізічных і матэматычных законаў?

— Не зусім карэктна вамі сфармулявана пытанне, але ў прынцыпе я скажу: так... Я — дзіця свайго рацыянальнага веку. Як вучоны, я лічу, што ўсё ў свеце заканамерна. І таму з дапамогаю фізічных і матэматычных законаў мы можам усё ўведаць.

— Значыць, як у свеце, так і ў самім чалавеку ніякіх таямніц няма?

— А вы лічыце, што яны ёсць? (Езуіцкі метад пераадрасоўваць пытанне табе ж!.. Гэтым Мілер карыстаўся выдатна.)

— Ва ўсякім разе мне думаецца, што чалавек іх адчувае. Каханне, смерць, нараджэнне чалавека — усё гэта таямніцы...

— Гледзячы для каго... Якая можа быць таямніца ў нараджэнні чалавека, калі ўжо цяпер мы можам гадаваць яго ў прабірцы альбо ў колбе? Ужо цяпер маці-донары выношваюць чужых дзяцей. Аперацыі па трансплантацыі органаў чалавека: сэрца аднаго чалавека б'ецца ў грудзях другога. Галава аднаго чалавека можа быць прышыта хірургамі да тулава другога... Вы не задумваліся, што ўсе таямніцы пад націскам адкрыццяў, зробленых намі, тэхнакратамі, даўно рухнулі?.. Чалавеку ўсё дазволена, ніхто над ім не ўладарыць. І таму ён, чалавек, можа рабіць усё, што захоча, што палічыць патрэбным. І таму ўсё ў свой час можна растлумачыць. І каханне. І смерць. Ды, урэшце, гэта намі і тлумачыцца.

Добра памятаю, што мне чамусьці стала боязна пасля гэтых слоў Мілера. Ён сядзеў перада мною ў сваім кабінеце за сталом, на сцяне за ягонай спінаю вісеў вялікі партрэт Эйнштэйна, ён глядзеў на мяне так... як глядзяць на мёртвы камень. Я адчуваў сябе вінаватым, хоць у чым — не ведаў. Каб найхутчэй адкаснуцца ад гэтага няёмкага пачуцця, спытаў:

— Доктар Мілер, ці часта ў вас бывае пачуццё сумнення ці хоць бы разгубленасці пры сутыкненні з некаторымі праблемамі, якія вы яшчэ не вырашылі?

— Разумееце, малады чалавек, я жыву па тых законах, па якіх мне цікава жыць. Дапусцім, вам цікава ведаць, што з вамі здарыцца пасля смерці, у якую форму матэрыі вы ператворыцеся, у жывую альбо ў нежывую, і таму ў сваіх пакутлівых сумненнях вы праводзіце ўсё жыццё, так нічога толкам і не высветліўшы. Да аналагічнага пытання я падыходжу не з эмацыянальнага боку, а з чыста аналітычнага. Я займаюся аналізам гэтай праблемы гэтак жа, як бы я займаўся аналізам нявырашанай матэматычнай задачы. Эмоцыі тут не дапамагаюць, а наадварот — усё заблытваюць да неверагоднасці... І паверце, пры такім падыходзе я знаходжу асалоду.

— Як жа вы тады ацэньваеце чыста чалавечыя



(Працяг. Пачатак у № 1 за г. г.)

каштоўнасці, якія часта бываюць нелагічнымі: сумленне, сорам, самаахвярнасць...

Часта чалавек ведае, што робіць глупства, і ўсё ж ён робіць гэтае глупства... А колькі людзей па сваёй волі адраклося ад жыцця з-за няясных ім самім пачуццяў: кахання, нянавісці, любові да радзімы...

— Гэта — складанае пытанне. Коратка скажу, што адной з прычын крызіснага стану чалавецтва з'яўляецца тое, што мы, людзі планеты, у свой час не паспелі перабудаваць светапогляд на сябе і на прыроду ў сувязі з новымі рацыянальнымі фізічнымі, матэматычнымі, тэхнічнымі адкрыццямі. Людзі да сённяшняга дня не могуць адкаснуцца поўнасцю ад старых маральна-этычных каштоўнасцей, у аснове якіх ляжаць рэлігійныя містычныя вучэнні. Рэлігія знікла, яе месца ў жыцці заняла навука. Але хто-ніхто яшчэ аберуч трымаецца за старыя рэлігійныя абрады і лжывыя каштоўнасці.

— Прабачце, вы не маглі б удакладніць, якія?

— Магу прывесці прыклад. Чалавек памірае, і з ім усё памірае. Значыць, нам трэба рашуча адкаснуцца ад звыклых абрадаў пахавання: прамоў ля труны, працэсій да могілак, помнікаў надмагільных — усё гэта лішняе, нікому не патрэбнае. Ці ўзяць хоць бы тую ж знакамітую любоў да радзімы. Якая розніца, дзе будзе жыць чалавек, абы яму было добра, цёпла і сытна... [illegible] жа не, трымаюцца некаторыя аберуч за свой парог. А чаму, навошта?.. Я прывёў вам толькі некалькі прыкладаў. Падумаўшы, вы самі можаце прывесці такіх жа прыкладаў безліч.

Разгублены і прыгнечаны выйшаў я з кабінета Мілера. Я разумеў, што Мілер і сапраўды — дзіця нашага прагматычнага, рацыянальнага свету, магчыма нават — ён чалавек будучага, таго далёкага будучага, у якім, як сцвярджаюць некаторыя фантасты, людзі будуць жыць розумам, а не эмоцыямі, ды ўсё ж мне ніяк не верылася, што ў Мілера не засталося эмоцый, тых нелагічных, неразумных эмоцый, якія прымушалі малапісьменнага чалавека верыць у існаванне чарцей, бога, варажбу, ведзьмаў і ўсякую іншую нячыстую і чыстую сілу... І, паверце, калі я пачынаў думаць пра таго наіўнага малапісьменнага чалавека, які жыў у мінулых стагоддзях, ён быў мне больш сімпатычны, чым адукаваны Мілер...

Вось у чым загадка!

Нарэшце я ўпершыню сказаў гэтае слова. Мілер не выклікаў у мяне сімпатыі. Ён быў для мяне цікавы, загадкавы, жахлівы нават, але ён не быў мне сімпатычны.

Мяркую, што па гэтай прычыне з ім не ўжылася ніводная жанчына. Жанчыны могуць жыць з мужчынамі пэўны час з-за грошай, з-за багацця, з-за выгоды, але ўсё жыццё жыць з чалавекам, які міжволі выклікае агіду і пратэст...

Хоць, можа, я і памыляюся, не ведаю... Некаторыя мае калегі сцвярджаюць, што цяпер паявіўся новы тып жанчын, асабліва ён пашыраны сярод тых жанчын, якія ўмеюць доўга-доўга разважаць пра роўнасць і жаночую эмансіпацыю, і логікаю паводзін гэтыя жанчыны нічым і ніяк не ўступаюць Мілеру, таму яны з лёгкасцю кідаюць дзяцей у радзільных дамах, ля чужых пад'ездаў і цудоўна жывуць з тымі людзьмі, якіх ненавідзяць. Ды гэта ўжо — асобная гаворка.

Калі каротка падсумаваць мае ўражанні пра Мілера, пра таго Мілера, якога ведаў да Першай міжнароднай канферэнцыі па праблемах штучнага розуму, то можна сказаць наступнае:

а) Мілер як быў, так і застаўся загадкаю як для мяне, так і для іншых удзельнікаў канферэнцыі.

б) Мілера можна было баяцца, яго можна было не паважаць, але не прызнаваць у ім буйнога вучонага нельга было. І гэта, мабыць, было галоўным козырам у Мілера, якраз тым важным аргументам, які прымусіў аддаць кіраўніцтва жыцця марсіянскай калоніі штучнаму розуму.

Як і чакалася,— а інакай і не магло быць,— у лік каланістаў трапіў Мілер.

**Працяг будзе.**





**Уладзімір СКАРЫНКІН**

◆

Стаю на парозе
Бацькоўскага дому
У журбе і трывозе,
Прэч гонячы стому.

Знясілены лебедзь —
Я марыў аб шчасці
У травы дзе-небудзь
Ля Лосвіда ўпасці.

Паспаць бы ў лагчыне,
Я думаў,
ля Віцьбы,
У роднай хаціне
Душой адпачыць бы!

Ды родная хата —
Чужое гняздзечка.
Між рамамі —
вата,
Пабелена печка.

У прыцемку шэрым
У смутку і скрусе
Стаіўся і ў дзверы
Пастукаць баюся.

На рэчку шыбую
Лагчынай самохаць,
Каб радасць чужую
Нічым не спалохаць.

### *Глыбінка*

Нібыта праз тоўшчу вады,
Гляджу на зямлю безупынку.
Я хутка спушчуся туды —
Спушчуся з нябёс у глыбінку.

Рыпіць пад крылом вышыня,
Лячу ў паднябессі без стомы.
А ў сэрцы
да гэтага дня —
Глыбіннай хваробы сімптомы.

Дарма экстрасенсы-сябры
Рабілі ўсялякія спробы.
Ні магі,
ні дактары
Не лечаць ад гэтай хваробы.

Мне трэба —
і трэба даўно! —
Ізноў у глыбінку вярнуцца,
Згубіцца на станцыі Дно,
У глыбоцкіх азёрах
«скупнуцца».

Наверсе —
цыклоны гудуць,
І пеняцца хвалі прыбою.
У ціхай глыбінцы ідуць
Падзеі сваёй чарадою.

Ні штормы, ні смерчы да дна
Не ўздыбяць
глыбокае мора.
Глыбінка, глыбінка...
Яна
Няпэўнага веку апора.

Спушчуся я ў глыб —
і не дам
Работы сябрам-экстрасенсам.
Жыццё мітусліве там
Глыбінным напоўніцца сэнсам.

◆

Я не скажу табе,
у чым прычына,
Чаму я смутак не магу суняць.
Ты песню лепей заспявай,
дзяўчына,
Пра вербы,
што над грэбляю шумяць.

Над гаманлівай рэчкай
пад вярбою,
Каб вырваць боль з душы,
нібы куколь,
Дазволь палюбавацца мне табою,
Падпець табе ўпаўголаса дазволь.

Халодным вечарам
напеў народны,
Што ў запаветных тайніках жыве,
Такі шчымлівы,
задушэўны,
родны,
На сэрца
цёплай хваляй наплыве.
Я не скажу табе,
у чым прычына,
Чаму я смутак не магу суняць.
Ты песню лепей заспявай,
дзяўчына,
Пра вербы,
што над грэбляю шумяць.

### *Не сівы конь бяжыць*

*Ніне Мацяш.*

Не сівы конь бяжыць —
Машына коціцца.
І разам з песняю,
І разам з песняю
Дзяўчо маркоціцца.

А голас тоненькі,
Як чараціначка:
«Ой, спадабалася,
Ой, спадабалася
Ты мне, дзяўчыначка».

Гляджу з пяшчотаю
На беларусачку.
І ўзяць мне хочацца,
І ўзяць мне хочацца
Яе за ручачку.

Дзяўчына гордая
Рукі не падала:
«Бадай бы лепш таго,
Бадай бы лепш таго
Кахання не знала».

Па ветравому шклу
Плыве дажджынача:
Ой, спадабалася,
Ой, спадабалася
Ты мне, дзяўчыначка.

◆

Я не забуду ніколі
Пасляваенных бясед...
Цукру кавалак і солі
Нам ахвяруе сусед.

Сёння ў нас будзе застолле,
Сёння мой брат —
юбіляр.
Выграбла з печы вуголле
Маці мая ў самавар.

Бохан змачыла вадою.
Сёння к нам госці прыдуць!
Зноўку сябе сіратою
Мне не дазволяць адчуць.

Бульбай напоўняцца міскі!
Будзе стаяць на стале
Нават салата з радыскі!
Нават з парэчак жэле!

Шумнаю будзе вячэра —
Мірнае ж неба наўкол!
Радасць і светлая вера
Сядуць з гасцямі за стол.

Радасць —
што родныя сцены
Не спапяліла вайна,
Што паніжаюцца цэны,
Як надыходзіць вясна.

Вера —
што скора за хлебам
У зледзянелай смузе
З раніцы самай не трэба
Будзе стаяць у чарзе.

Песень крылатыя тройкі
Неслі гасцей са двара.
Гэта былі не папойкі —
Светлыя ўрокі дабра...

Госці пастукалі ў дзверы.
Як ім цяпер дагадзіць?
Хочацца радасць і веру
З імі за стол пасадзіць.

### *У Кушлянах*

Вось я і прыехаў у Кушляны —
У лясны і лугавы зацішак,
Дзе дагэтуль сцежкі і паляны
Не забылі пра цябе,
Францішак.

Ля Смаргоні,
у глухім закутку —
Твой прычал апошні і радзіма.
Не скакаў ты пад чужую дудку,
На сваёй зайграў —
усім на дзіва.

Твой натхнёны спеў —
не стогн працяжны,
Ён разліўся песняю магутнай.
Мой зямны паклон табе,
прысяжны
Беларусі-матухны пакутнай.

Зноў клякочуць словы Бурачковы *
У перасмяглым ад самоты горле:
«Не кідайце беларускай мовы,
Каб не ўмёрлі!»

◆

Не трэба нам ні Коласа,
ні Блока,
Анучы нам патрэбны і філей.
Зайшлі мы ў бездухоўнасці
далёка...
О, толькі б дзеці не пайшлі далей!

Я сам згінаўся,
як нікчэмны лёкай,
Ліў важнаму двурушніку ялей.
У крывадушшы мы зайшлі далёка...
О, толькі б дзеці не пайшлі далей!

На плошчы —
брукаванай і шырокай
Іду маўклівы з імі ў Маўзалей.
Мы адышлі ад Леніна далёка...
О, толькі б дзеці не пайшлі
далей!

---

*** Мацей Бурачок — псеўданім Францішка Багушэвіча.**





- Пачатак раскопак на станцыі «Няміга».
- У час раскопак.
- Раскапаны вал Мінскага замчышча.
- Гінуць знаходкі археолагаў.

Фота Пятра Кастрамы.



# ХТО АДКАЖА ЗА «ПАВІЛЬЁН?»

З БУДАВАННЕ, велізарны дах якога «пасаджаны» над самай зямлёй, праходчыкі, што ўзводзяць станцыю метро «Няміга», называюць «павільёнам». І гэта нядзіўна: тут у катлаване захоўваюцца драўляныя канструкцыі збудаванняў старажытнага Мінскага замчышча. Як сведчаць археолагі, бёрны і зрубы, а таксама асобныя рэчы хатняга і гаспадарчага ўжытку адносяцца ажно да XI стагоддзя. Тут жа непадалёку ад «павільёна» ёсць яшчэ адзін раскоп — сведка жыцця мінчан у XVII стагоддзі.

...З навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН БССР археолагам Пятром Аляксандравічам Русавым мы стаім на беразе катлавана. Прама пад намі — «аголены» падмурак дома XVII стагоддзя, культурны слой вакол якога Пётр Аляксандравіч разам са сваімі добраахвотнымі памочнікамі ўжо апрацавалі.

— Шмат каштоўнага знайшлі тут! — пытаюся ў П. А. Русава.

— Давайце пройдзем у наш чырвоны куток, там якраз захоўваюцца ўсе нашы знаходкі,— прапаноўвае Пётр Аляксандравіч.

Колькі разоў на суботніках, што праходзілі ў рамках патрыятычнага руху «Родны горад», бачыў Русава разам з маладымі людзьмі ў гэтых раскопах, а вось зірнуць на выніку іх карпатлівай працы так і не даводзілася.

У чырвоным кутку, што размешчаны ў выселеным доме, непадалёку ад кафедральнага сабора, прама на падлозе ў драўляных скрынях, ляжаць знаходкі: чарапкі керамічнага посуду, кавалкі жалезнай руды і рэшткі кафлі, упрыгожанай раслінным арнаментам і манаграмай, косткі жывёлін. Іх асабліва шмат.

— Мы зрабілі вывад,— гаворыць П. А. Русаў,— што гэта фундамент былой майстэрні па апрацоўцы і вырабу касцяных рэчаў...

З цікавасцю разглядваю кавалкі скуры — рэшткі абутку, які насілі мінчане таго часу. Пра многае гаворыць грабянец, зроблены з самшытавага дрэва. Яго, відаць, сюды прывезлі каўказскія купцы, з якімі мінчане мелі даволі шырокія гандлёвыя зносіны.

— Шкада, што гэта багацце схавана ад мінчан,— выказваюся я.

— У мяне асабіста ёсць прапанова: зрабіць пры ўваходзе на станцыю метро «Няміга» невялічкую экспазіцыйную залу, дзе можна было б паказваць турыстам нашы знаходкі. Я ўжо асабіста быў з гэтай нагоды на прыёме ў кіраўнікоў гарвыканкома, і там мяне падтрымалі. Цяпер неабходна тэрмінова распрацоўваць дакументацыю на такое будаўніцтва, бо да завяршэння першага ўчастка другой лініі метро засталося менш як два гады.

Што ж, у словах археолага ёсць рацыянальнае зерне. Толькі шкада, што яго праца і праца яго маладых добраахвотнікаў ужо амаль цалкам зглумлена.

У «павільёне» струхнелі драўляныя канструкцыі замчышча, што адносяцца да XI стагоддзя, і вінаватыя ў гэтым менавіта самі ж археолагі, якія добра ведаюць, што канструкцыі збудаванняў, асабліва драўляныя, трэба пасля іх даследавання абавязкова засыпаць тым самым грунтам, у якім яны ляжалі шмат стагоддзяў. Канечне, задума была добрая: зрабіць экспазіцыйны павільён накшталт таго, які зроблены ў Бярэсці. Тое, што робіцца зараз з канструкцыямі замчышча,— злачынства, карэнні якога хаваюцца ў абыякавасці да нашай гісторыі і культуры.

Мы праходзім з Пятром Аляксандравічам па гэтым «павільёне»: навокал гразь, сырасць, гніль. Дах і дашчаная абшыўка не ратуюць старажытнае дрэва ад пранікнення вады. А колькі наконт гэтых раскопак у свой час было звону! Метрабудаўцам давялося на сорак метраў пасунуць у бок кафедральнага сабора станцыю «Няміга», паставіць тут кран, каб дапамагчы археолагам раскапаць замчышча...

Паказаў мне Пётр Аляксандравіч і яшчэ адно месца, раскапанае метрабудаўцамі. Тут Русаў хацеў зрабіць археалагічны раскоп, але адміністрацыя археалагічнага аб'яднання на гэты конт ніякіх указанняў праходчыкам не зрабіла. У выніку — гістарычная навука страціла магчымасць папоўніць фонд новымі знаходкамі. Цяпер толькі застаецца пашкадаваць, што можна было б зрабіць тут, на «Нямізе», не проста станцыю метро, а сапраўдны археалагічна-музейны комплекс, адкрыты для мінчан і гасцей беларускай сталіцы, комплекс, які б меў вялікае значэнне ў культурным жыцці нашага грамадства.

А можа яшчэ не позна ажыццявіць усе добрыя намеры!

Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.



## КРЫНІЦА МЯДЗВЕДЗІНА*



Карлас ШЭРМАН

Крыніца б'ецца ад адчаю,
тысячагоддзямі жывую
ваду тварыла, ды адчула
свой немы скон, як рану тую.
Хіба і сапраўды не крыўдна:
сюды ў спрадвеччыну сівую
славянскае прынесла племя
сваю гаворку гаманкую,
знясіленае барацьбою
асела племя — і вякуе.
Тады ўжо свет — таксама
жорсткі —
меў абалонку хрупаткую.

Па Свіслачы спадала племя
лясамі, топкаю дрыгвою,
харчуючыся ўзятай рыбай
ці ўцятай дзідай свежыною,
малінай сакаўной, чырвонай,
як той світанак над ракою,
як тая кроў лясного звера,
ці пераможанага воя,
як воблік ярага Ярылы
ці Перуна, які страляю
маланкі ўмомант асвятляе
начэўе жаху нелюдское.
Рака была за павадырку,
і там спынілася, прыстала,
дзе іншая рака сястрою
двухрука Свіслач абдымала,
а пасярэдзіне ўзвышаўся
пагорак гожы, тут хапала
зямлі пладлівай, быў пагорак
вадой акаймаваны дбала;
і ўскінуў правадыр дзясніцу,
на словы сілы не ставала,
і людзі ўцямілі маўкліва:
тут лёс іх атайбоўваў стала,
каб гэты краявід навекі
нашчадкаў памяць шанавала,
тут не загіне род ніколі,
адкуль бы ні прыйшла навала.

Плыўма, плытамі і чаўнамі
плылі да берага цвярдога,
і знерухомелі — на ўзгорку
асмылкі сельбішча былога
угледзелі — пажар пакінуў,
і запыніла ўсіх трывога:
ці будуць шчасце мець на наспе,
дзе нечым угнявілі бога?
Зняпацку крык працяў імгненне,
аж месяц сцяўся крутарога,
правадырова ўмлела жонка
прыгожая, як перамога,
а грудзі, як пагоркі тыя,
а вочы: гляне — возьме змога,
прадонным позіркам нябесным
яна бянтэжыла любога,
крык разрываў зямлю і неба,
і крык не чуў сябе самога,
і першынец на свет прасіўся —
правадыру ішла падмога.
Быў гэта вешчы голас лёсу.
Час паімчаўся ветранога,
і сцены пачалі ўздымацца,
і пачала радзіць аблога,
не пусціць мост разводны ў замак
ні ворага, ні звера злога.

Пад вечар ля ракі двухрукай
за рукі бралася каханне,
Мядзведзіна багаслаўляла,
было крыніцаю спазнання;
дваілася, як вусны, вусце,
і ўсё жыло ад хвалявання —
рака, што клопат падзяляла,
зямля, што спорыла старанне,
і хваля лашчыла пяшчотна
сляды гарачыя прызнання,
і ногі рыбакоў, і плыткі
чаўноў замроенае ранне,
каханне пазбягала сведак,
стамлялася ад шчыравання,
хоць на м і г і хадзілі часам,
ды прызнавалі не міганне,
а мову рук, на міг самлеўшы,
Нямігі дзеці — немігане,
рака бянтэжылася, мабыць,
зірнуўшы, як славянка вяне
у хлопца дужага ў абдоймах,
утаймаваная ў тумане,
і кроў шалёная, і чырвань
гарэлі на шчаках світання.

Крыніца б'ецца ад адчаю,
тысячагоддзямі жывую
ваду тварыла, ды адчула
свой немы скон, як рану тую.
Тут князя Ігара дружына
кроў пралівала маладую,
з крывавых берагоў Няміга
выходзіла ў часіну злую,
і цяжка рэчышчу стагоддзяў
было ўтрымаць ваду святую.
Сплывалі ліхалеццяў крыгі —
жыццё крынічную крутую
піло ваду з Нямігі. Хто там
надумаў пахаваць жывую
раку, хто змайстраваў Нямізе
труну бетонную глухую?
За грэх які ў турму загналі
ваду, якой нам так бракуе?
Без слёз, без лямвнту Няміга
за што прымае смерць такую?

Крыніца б'ецца ад адчаю,
стагоддзямі ваду святую
тварыла, і не перастала.

І пад бетонам пратэстуе.

Пераклаў з іспанскай Рыгор БАРАДУЛІН.

* Якая пакуль яшчэ жыве ў Мінску, за Грушаўскім пасёлкам.

## СЛУЖБА



## ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

### ПРАЦУЮ ДАЛЁКА АД ДОМУ

Дзякую вам за рубрыку «Служба ўзаемадапамогі», за тое, што яна ёсць.

Абставіны змушаюць звярнуцца да вас, да чытачоў часопіса «Беларусь». Я — урач-інтэрнацыяналіст, псіхіятр. Па накіраванню працую зараз у горадзе Джамбуле, вельмі далёка ад дому. Тут у горадзе ёсць бібліятэка, у якой я калі-нікалі магу знайсці патрэбныя для працы кнігі. Але вельмі хутка мяне павінны перавесці працаваць у раён, дзе я ўвогуле застануся без літаратуры па спецыяльнасці. Ці варта гаварыць, колькі я як спецыяліст рызыкую страціць ад гэтага.

Зразумейце, любая кніга любога года выдання па маёй спецыяльнасці дапаможа мне аказаць больш якасную медыцынскую дапамогу людзям.

**Мой адрас:**
**484022, г. Джамбул,**
**вул. Кірава,**
**д. 275 «а», пакой 3.**
**АЛЬХОЎСКІ І. В.**

### ЦІ МНОГА Я ХАЧУ!

Мне часам кажуць, што я надта многа ў жыцці хачу, а трэба задавальняцца малым, тым, што ёсць.

Так, я мару сустрэць добрага хлопца і патрэбы да яго такія: быць рыцарам у адносінах да жанчыны, а яшчэ — добрым, спагадлівым, сумленным чалавекам. Дык няўжо гэта многа, як лічаць некаторыя мае сяброўкі? Не жадаю і не магу пагадзіцца з імі. Таму і пішу ва «Узаемадапамогу». Буду шчаслівая, калі хто-небудзь адгукнецца на мой ліст. (170).

**Таццяна, 20 гадоў.**

### ВАБІЦЬ ВЕТРАЗЬ ПАДАРОЖЖАЎ...

Мне 40 гадоў. Пражыў палову жыцця, а, зрэшты кажучы, нічога цікавага не бачыў, акрамя працы. Памятаю, як ездзіў некалі ў Ленінград і Адэсу. Колькі незабыўных уражанняў! Але гэта было так даўно...

Жыве, не згасае ўва мне мара — падарожнічаць. Жадаю ўбачыць як мага больш цудоўных куткоў любай Беларусі, усёй нашай краіны. Нарадзіўся я на Уздзеншчыне — радзіме многіх выдатных паэтаў. З дзяцінства ў мяне любоў да роднай культуры, прыроды, да родных мясцін.

Жадаю сустрэць жанчыну, якая б падзяляла і разумела мае памкненні, змагла стаць сапраўдным сябрам у жыцці. Па характару я вельмі добразычлівы, вельмі люблю дзяцей. (171).

**Алесь.**

### Я ЖЫВУ Ў ВЁСЦЫ,

завуць мяне Зоя, мне 32 гады, маю сына і дачку. Працую настаўніцай. Працу сваю паважаю і люблю. Ды і ўвогуле жыццё ў вёсцы мне падабаецца, але, вядома ж, тут няпроста знайсці сабе новых сяброў: вельмі мала маладых людзей застаецца ў калгасе. Пачуццё адзіноты прыгнятае, нават, я б сказала, збядняе і прыніжае жаночую душу. Вось і звяртаюся да цябе, «Узаемадапамога», з надзеяй на падтрымку. Калі сярод тваіх чытачоў знойдзецца чалавек, які захоча стаць для мяне і маіх дзяцей сапраўдным сябрам, мужам, бацькам, згодны паехаць з ім хоць на край свету! (172).

### СУМНА ВЕСЕЛУНУ...

Толькі зараз, калі мне ўжо нямала гадоў, я па-сапраўднаму адчуў адзіноту. «Жартуеш»,— кажуць мне некаторыя мае знаёмыя, калі я скарджуся на лёс. Не хочуць паверыць, што іх сябар — весялун, здольны спартсмен, неўтаймоўны жартаўнік, майстар, як кажуць, на ўсе рукі — аказваецца ціхім, сарамлівым у адносінах да цудоўнага полу. Але што зробіш — я такі. Таму, відаць, і не спазнаў у сваім жыцці вялікага шчасця — кахаць і быць каханым. Цяпер лаўлю сябе на тым, што замыкаюся ў сваіх чатырох сценах, дзе побач са мной — кнігі, праца, хатнія клопаты і... мая надзея. Надзея на тое, што я ўсё ж дачакаюся сваёй адзінай, свайго чалавечага шчасця, што пачую плач і смех дзіцяці. У імя гэтага раблю першы крок. Пакуль праз «Узаемадапамогу». Чакаю лістоў у адказ. Пішыце. Калі ў вас ёсць хлопчык ці дзяўчынка, якім зараз не хапае бацькі, ведайце, што дзяцей я вельмі люблю. Мне зараз 38 гадоў, рост 165 см. Працую ў калгасе, маю некалькі спецыяльнасцей. (173).

**Л. В.**

### ТУРБОТА СТАНОВІЦЦА БОЛЕМ

Як і ўсе дзяўчаты, я заўсёды горача жадала, каб мой жаночы лёс склаўся шчаслівы. Але, як ні дзіўна, мала хто з маладых людзей звяртаў на мяне ўвагу. Дзіўна таму, што я — здаровая, адукаваная, жаноцкая, клапатлівая дзяўчына. Заўсёды падтрымаю сябра, да хатніх спраў здатная, усім неабходным забяспечаная. Да таго ж, кажуць, прыгожая. Праўда, паўнаватая. Аднак моцнага складу. Гэта мяне не вельмі засмучае: не ва ўсіх жа аднолькавы густ! Мае патрабаванні да выбранніка, здаецца, не празмерныя: інтэлігентнасць, дабрыня, мяккасць. Няўжо толькі тое, што я не люблю кампаніі,— прычына маёй адзіноты? Дык жа дамаседы ёсць і сярод хлопцаў...

Вось і застаюся пакуль адна. Мая турбота становіцца болем. Але ўсведамленне таго, што некага змагу зрабіць шчаслівым толькі я, не дае права апускаць рукі. Таму і прашу парады, чакаю добрага ліста. Мабыць, дзякуючы «Узаемадапамозе», у мяне знойдуцца сябры па няшчасцю з мужчынскага боку?..

Мне 25 гадоў, жыву ў Гомелі. (174).

**Марына.**

### ШУКАЮ СЯБРОЎ ПА ПЕРАПІСЦЫ

Robert KUREK, ul. Puszkina, 30, 45—556 Opole. Polska.
Цікаўлюся жыццём людзей у вашай краіне, яе гісторыяй. Жадаю весці перапіску з моладдзю.

223620, Мінская вобл., Слуцкі раён, в. Бязверхавічы, дом 184. НАВУМОВІЧ Алена, 15 гадоў.
Захапляюся літаратурай аб Афганістане. Чакаю лістоў ад хлопцаў, якія служылі ў гэтай краіне.

213827, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Пушкіна, дом 265, кв. 58. САЛДЗІЕВА Таццяна, 13 гадоў.
Захапляюся савецкай эстрадай, маю шмат іншых інтарэсаў.

326950, УССР, Херсонская вобл., п. г. т. Верхні Рагачак, вул. Украінская, дом 103. ЧУМАК Валянціна, 16 гадоў.
Захапляюся філалогіяй, біялогіяй, літаратурай. Мару знайсці сапраўдных сяброў.

Мінская вобл., Барысаўскі раён, п/а Вяляцічы, вул. 1 Мая, дом 4, кв. 1. ЯКІМЕНАК Марына, 17 гадоў.
Люблю паэзію, асабліва Сіманава, Блока, Ясеніна. Добра разбіраюся ў музыцы. Люблю і ўмею танцаваць. Вяжу, займаюся хатняй гаспадаркай.

### АЎТАМАБІЛІ, АЎТАМАБІЛІ...

Уласнага аўтамабіля ў мяне не было ніколі. Але з дзяцінства я вельмі цікаўлюся ўсім, што звязана з нашымі чатырохколавымі сябрамі. Бібліятэчка аўтааматара, вялікая колькасць цікавых матэрыялаў, калекцыя міні-аўтамабіляў — гэта ўсё ў мяне ёсць. Але не хапае зносін з чалавекам ці людзьмі, якія б мелі тое ж захапленне. Можа, у адным з клубаў калекцыянераў ёсць секцыя аўтааматараў?

Чакаю адказаў! (175).

**Віктар.**



Наступленне.
Фота Якава МЯЦЕЛІЦЫ.

Падрыхтавала
**Алена ШАБАЛІНА.**

Аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР А. РАКІТНІЦКІ.

# ХОЦЬ І ПІРАВА, А ПЕРАМОГА!

Не прыпомніцца, каб амаль за сорак гадоў сустрэч па шашках у юнацкім, маладым і напярэдадні паўвекавога ўзросту майстар Уладзімір Гракові́ч перамагаў гросмайстра Аркадзя Плакхіна, хоць доўгі час абодва мелі аднолькавыя разрады.

І гэта, відаць, таму што Уладзімір і зараз такі ж баявы і напорысты, бескампрамісны шашыст. Яго далёка разлічаныя камбінацыйныя задумы разбіваліся аб заслон яшчэ дакладнейшых і глыбейшых задум шматразовага чэмпіёна Беларусі і СССР.

Паглядзім адну даўнейшую вострую сутычку А. Плакхіна супроць У. Гракові́ча: 1.a3-b4 b6-a5 2.e3-d4 f6-e5 3.d4:f6 e7:g5 4.g3-f4 g5:e3 5.f2:d4 g7-f6 6.h2-g3 f8-e7 7.d4-c5! h6-g5 8.d2-e3 g5-h4?

Здавалася б, не ў камбінацыйнай пазіцыі чорныя трапляюць у камбінацыйную пастку.



Выйгрыш белых.

9.c3-d4! h4:f2 10.e1:g3 a5:e5 11.e3-f4 d6:b4 12.f4:f8. Гракові́ч здаўся.

Для характарыстыкі ўпартасці ў гульні Гракові́ча варта прыгадаць, як шмат гадоў назад вядомы шахматны майстар, заслужаны трэнер БССР Аба Шагаловіч на Усесаюзныя спаборніцтвы юнакоў (калі адзін з удзельнікаў раптоўна захварэў) уключыў на «хаду» ў каманду безразрадніка У. Гракові́ча. Ён не раз бачыў вынаходлівую гульню і ўпартасць Валодзі.

Якое ж было здзіўленне, калі беларускі безразраднік «накаўтаваў» вопытнага першаразрадніка, чым і забяспечыў камандзе перамогу.

Павучальны выпадак здарыўся на камандным першынстве заводскіх калектываў Мінска ў 1988 годзе. Агрэсіўная гульня ў партыі Плакхін — Гракові́ч прыйшла да пазіцыі, паказанай на дыяграме.



Ход белых.

Тут знакаміты шашыст, які звычайна не памыляўся і ў жорсткіх цэйтнотах, на гэты раз даў, што называецца, маху: напаў на чорную шашку g7, замест e7.

Рэагаванне прысутных было рознае. Хто разгублена паціснуў плячамі, а хто, найбольш з гарачых балельшчыкаў, схапіўся за галаву. Грубая памылка гросмайстра была відавочная. Задаволены Гракові́ч адказаў: 1...e7-f6! 2.h6:f8 f6:b2 3.a3:c1 b4-a3 4.f8:b4 a5:e1, выйграў партыю. А перамога Плакхіна была даволі простай: 1.e5-d6 g7-h6 (калі 1...g7-f6, то 2.d6:f8 f6:h4 3.f8-h6 h4-g3 4.h6-e3) 2.d6:f8 h6:f4 3.d2-e3! b4:d2 4.f8:e1 f4:d2 5.e1:d6.

## ГУМАР






— Не паспелі пабудаваць, а ўжо перабудоўваюць!!

— Вые два тыдні! Такі вялікі шлюбны перыяд!

Малюнкі Алеся ШАЎЦОВА.

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Партызанка, якая мінай знішчыла ката беларускага народа гаўляйтэра В. Кубэ, Герой Савецкага Саюза. 9. Адзін з арганізатараў партызанскага руху на Украіне, двойчы Герой Савецкага Саюза. 10. Асоба каманднага саставу арміі і флоту. 11. Камера спецыяльнага прызначэння на караблі, самалёце. 12. Група байцоў, якая пасылаецца для аховы і разведкі. 13. Партызанскі псеўданім аднаго з арганізатараў партызанскага руху на Віцебшчыне. 18. Зарад выбуховага рэчыва. 20. Аўтар аповесці «Руіны страляюць ва ўпор». 21. Момант узлёту ракеты. 22. Лётчык-касманаўт СССР, двойчы Герой Савецкага Саюза. 23. Кодавая назва стратэгічнай наступальнай аперацыі Савецкай Арміі ў 1944 годзе. 25. Аўтамат, які выконвае складаныя дзеянні. 27. Навука аб падрыхтоўцы і вядзенні бою. 28. Спецыяльная вайсковая група. 32. Юны партызан-разведчык, Герой Савецкага Саюза. 33. Адхіленне самалёта ад узятага курсу. 34. Разрыўны снарад. 36. Дыяметр канала ствала агнястрэльнай зброі. 37. Мемарыяльны комплекс ва Ушацкім раёне. 38. Злучэнне караблёў, самалётаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Салдацкі шлем. 2. Адзін з кіраўнікоў Мінскага падполля. 3. Стаянка войска на прывале. 5. Вершаваны твор з легендарным гістарычным зместам. 6. Надзейная апора, цвярдыня. 7. Адказнае заданне. 8. Высадка войска на тэрыторыю праціўніка. 14. Вядомы ўдзельнік і кіраўнік абароны Брэсцкай крэпасці. 15. Савецкі канструктар стралковай зброі. 16. Карціна М. Грэкава. 17. Беларускі савецкі мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. 19. Воінскае прывітанне ружэйнымі або артылерыйскімі залпамі. 21. Ганаровая вядомасць, прызнанне чыйго-небудзь гераізму. 24. Партызанская брыгада на Міншчыне. 26. Выбуховае рэчыва. 29. Пазыўныя лётчыка-касманаўта Ю. Раманенкі. 30. Беларускі савецкі архітэктар, удзельнік стварэння мемарыяльных комплексаў «Хатынь», «Кацюша». 31. Ледакол рускага і савецкага Арктычнага флоту. 34. Крэпасць-герой. 35. Частка збудавання, якая служыць асновай для ўсёй пабудовы.

Склаў **Валерый ПІНЧУК.**

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 1

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Рахленка. 8. Езярышча. 9. Чорны. 10. Бубен. 11. Скапа. 14. «Партызаны». 17. Андарак. 18. Мінскае. 19. Угрумаў. 21. «Песняры». 25. Вышалескі. 28. Горад. 29. Лукас. 30. Ганна. 31. Валакуша. 32. Дугласія.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Галоўчын. 2. Ельня. 3. Капуста. 4. Беседзь. 5. Рыбка. 6. Шчыпоўка. 12. «Лакаматыў». 13. Ангілейка. 15. Павук. 16. Асіна. 20. Глыбокае. 22. Рабінік. 23. Харужая. 24. Веранда. 26. Нарач. 27. Вакар.



Вольга
КУРТАНІЧ

### *Кастусю Каліноўскаму*

Скача, скача новы веснік
на бацькоўскія магілы,
На зњявечаныя ветрам,
спарахнелыя крыжы.
«Падымайся,
Ты, забіты,
Падымайся,
Ты, жывы...»
Падымайся, браце кроўны,
Голаў годна падымі!
«Падымайся,
Хто нам роўня,
Падымайся,
Ты, жывы...»
Па чыіх жывеш законах,
Ты чые спяваеш песні!
Лёс, бацькамі надароны,
Адрадзіся,
Уваскрэсні!
Азірніся на дзіцятак —
На якой гавораць мове!
Ад якіх такіх парадкаў
Пазабылі свае словы!
«Мерцвякі,— гукаюць,— спіце,
Сон вам будзе ціхамірны.»
Сон ваш — сонейка ў зеніце.
Боль ваш — круціць доля ў віры.
Уваскрэсні,
Боль па мове!
Уваскрэсні,
Памяць продкаў!
Вас прыспалі адмыслоўна
З доляй новаю гаротнай.
Адурманіць не ўдалося —
Пільна сочыце за кожным.
Набрыняе боль з калоссем
Па палетачках,
па пожнях.
Ды вяшчальнік хутка скача
праз бацькоўскія магілы,
Праз зњявечаныя ветрам,
спарахнелыя крыжы:
«Падымайся,
Ты, забіты,
Падымайся,
Ты, жывы...»

### *Жанчына*

Я толькі жанчына...
як балюча пачуць —
ты жанчына...
і як горда гучыць —
ты жанчына...
ты аплакала тысячу можа
Хрыстоў...
твой абраз векапомны
у тысячы храмах...
цябе ганьбяць і любяць
тысячы вуснаў...
ты — жанчына...
ты на роўных правох
са святымі...
зямнымі...
памёрлымі...
вечнымі...
ўсё-ткі
Галгофа і Крыж —
не табе...
ты — жанчына...
цела свету адкрыла...
раскрыла абдымкі...
і радзімыя плямы
як зоркі нясеш,
свет не ведае больш прыгажосці,
чым Ты...
...Я захутваю
цела
у хмары і песні,
я гатова да веяў
закрыцца рыззём,
каб каханы не ўбачыў:
на белым плячы
пацалунак
пакінула свой
неўміручасць...

◆

На зямлі пануе навальніца,
Нам усім святла наабяцае.
Праз пакуты тваіх таямніцаў,
Мова родная, ўваскрасаю...

Грамы, ў новы нам дзень званіце,
Адспявайце у маім краі.
Крыж маланкавы ззяе ў зеніце.
Мова родная, уваскрасаю...

Водзіць позіркам лёс-паляўнічы.
Ў рог яму на дакор зайграю.
Ў ачышчэнне дажджы паклічуць:
Мова родная... ўва... скра... саю...

Бі наўсцяж душы, навальніца,
Колам хмара хай навісае.
Ўкрыжаваная і святая...

Ты... разбураная капліца —
Крук чужынскі на ёй садзіцца,
І за ім пацягнецца зграя...
Ратавальнікі роднага краю,
Уваскрэсніце!..
...Ўваскрасаю.

◆

Зямля сваю раскрыла пашчу,
як прагны звер, глынае лёс.
І нічыіх не хопіць слёз,
каб завядзёнку перайначыць.

Ляглі ў зямельку маладыя
заручыны спраўляць, Марыя.

Я ведаю: і майго мужа
збудзіць не можна з гэных мук.
Яго апошні сэрца стук
у маім сэрцы б'е натужна.

Ляглі ў зямельку маладыя
Заручыны спраўляць, Марыя.

І сыну твар пакрыла воскам —
не ўскрыліць немаўляці дух.
Яшчэ дагэтуль сыпле пух —
квяцістых яблыняў пялёсткі.

Ляглі ў зямельку маладыя
заручыны спраўляць, Марыя.

І гэтак проста і будзённа
вяршыць-здзяйсняе неба суд.
...Яшчэ кагосьці сюды нясуць
ад блаславёнага амбона.

Мяне, услед за маладымі,
за дружку выберы, Марыя...



# ВАЧАМІ ІНШЫХ — ІНШЫМІ ВАЧАМІ

**В** ЫНІКІ творчай дыскусіі мінскіх і заходнеберлінскіх фотамайстроў аб шляхах руху да ўзаемаразумення змаглі ўбачыць жыхары Мінска ў маі — чэрвені 1988 года ў Палацы культуры тонкасуконнага аб'яднання. Фотавыстаўка, наладжаная Беларускім таварыствам дружбы, сумесна з таварыствам германа - савецкай дружбы і «Акцыяй збавення» горада Заходні Берлін, праходзіла пад дэвізам «Вачамі іншых — іншымі вачамі».

Погляд збоку быў карысны абодвум гарадам. Добры погляд фатографа выклікаў добрыя пачуцці ў гледачоў. А спробы згусціць фарбы — унутранае супраціўленне.

Безумоўна, аўтары імкнуліся весці абдуманы адбор фактаў, чалавечых характараў і сацыяльных тыпаў, каб шырэй паказаць жыццё горада, інтарэсы яго жыхароў. На выстаўцы сустрэліся не проста прадстаўнікі розных нацый, культур і традыцый, але і чатыры творчыя асобы. Можна прымаць або адмаўляць іх погляды, аднак пастараемся зразумець, што нясе гледачу кожны з фатографаў сваімі работамі.

Карл Томас Лойнер — адвакат і фатограф. Увесь у пошуках арыгінальнай, кідкай формы. Ён не абмяжоўвае сябе нейкай зададзенасцю, палітра ж, наадварот, свядома звужана, тоны прыглушаны. Яго стыль уносіць у здымкі дыхание паўсядзённасці, адчуванне праўды.

У Мінску Томас Лойнер засяродзіў сваю ўвагу на школе. Тут ён зрабіў асноўную частку сваіх здымкаў. Паказваючы моманты шматаблічнага жыцця гарадской школы, аўтар імкнуўся зазірнуць у душу юнага чалавека, пашукаць вытокі характару.

Статычныя здымкі Удо Хессе прыцягваюць увагу «замарожанасцю» дзеяння. Людзі на іх, якія яўна пазіруюць, узмацняюць гэта адчуванне. Аўтара цікавіць больш за ўсё гармонія ліній, характэрная для салоннай фатаграфіі.

На чым жа спыніўся майстар! Амаль палова ўсіх работ Удо Хессе прысвечана беларускай вёсцы, а правёў ён пад Мінскам крыху болей за гадзіну з двухтыднёвай паездкі. Напэўна, можна было, абагульніўшы ўбачанае, выказаць свае назіранні ў некалькіх кадрах, каб астатніх шырэй паказаць жыц... вялікага сучаснага горада.

Нягледзячы на некаторыя крайнасці ў ацэнках убачанага, свежы погляд на Мінск заходнеберлінскіх фотамайстроў нясе другое бачанне нашага жыцця, дае магчымасць паглядзець на звычайнае без упрыгожванняў.

«Старонкі з дзённіка падарожніка» — так умоўна назавём фотаздымкі Міхаіла Жылінскага пра Заходні Берлін. Стараючыся ахапіць усё новае і нечаканае, карыстаючыся інтуіцыяй, аўтар імкнецца пакінуць на плёнцы максімальную колькасць уражанняў, каб спакойна асэнсаваць усё дома.

Жылінскі шмат сіл аддае пошукам формы, спрабуе па-рознаму паказаць адну і тую ж падзею (дэманстрацыі пратэсту на вуліцы). У памяці застаюцца цікавыя па кампазіцыі куткі горада, жанравыя сцэнкі і серыя партрэтаў «Берлінскія таты».

Погляд на Заходні Берлін са... вопытнага з фотамайстроў, Юрыя Іванова, адрозніваецца прадуманасцю, зададзенай канцэпцыяй. Не ў дэталях, а цалкам, як цыкла. Імкненне асэнсаваць убачанае з пазіцыі гісторыі і культуры свайго народа было надзвычай каштоўным іменна для гэтай выстаўкі.

Здымак «У музеі гісторыі Германіі» характэрны для аўтарскага почырку: гісторыя сусветнай вайны, развязанай нацызмам, разгорнута ў фотамантажы за спінай задрамаўшага работніка музея. Злева — паднятыя ў адабрэнні фашызму тысячы рук, справа — фрагменты крывавага разбою на тэрыторыі іншых краін і жудасны фінал — разбураны Берлін. Гэта трагедыя ўсіх сумленных немцаў. Але многія старыя і новыя нацысты хацелі б забыць «няўдачы» мінулага.

З розных бакоў і па-рознаму паглядзелі фотамайстры на жыццё двух гарадоў. Рознае светаадчуванне ўплывала на іх творчасць. І гэта варыянтнасць меркаванняў дапамагла глыбей пранікнуць у сутнасць перамен, якія з намі адбываюцца. Мы прымаем розныя погляды на рэальнасць, і гэта дае магчымасць убачыць сябе іншымі вачамі.

Віктар ІГНАТОВІЧ.



НА ЗДЫМКАХ:

**На заводзе халадзільных установак. Удо ХЕССЕ. (Зах. Берлін.)**

**Заходні Берлін. Міхаіл ЖЫЛІНСКІ. (Мінск.)**

**У музеі гісторыі Германіі. Юрый ІВАНОЎ. (Мінск.)**

**31 жніўня. Дзень ведаў. Томас ЛОЙНЕР. (Зах. Берлін.)**






Цана 35 кап.
«Беларусь», 1989, № 2, 1—36.
Індэкс 74820.